

У лютым у Мінску праходзіў розыгрыш рэспубліканскага першынства па каньках сярод юнацтва. Выдатных поспехаў дабілася мінская школьніца Тамара Стаселька, чэмпіён БССР.
На здымку: Тамара Стаселька на дыстанцыі.

Фото А. Сідарава.

На першай старонцы вокладкі: **Вялікае значэнне для развіцця прамысловасці, сельскай гаспадаркі і для агульнага росту народнага добрабыту нашай рэспублікі мае праблема аднаўлення разбуранай вайною лясной гаспадаркі. Сёлетняй вясною Беларускі аэрафоталесаўпарадкавальны трэст адправіць у лясныя гаспадаркі рэспублікі новыя атрады спецыялістаў.** На здымку: **малады ўпарадкавальнік лясоў Тамара Чындарава рыхтуецца да выезду ў экспедыцыю.**

На чацвёртай старонцы вокладкі: **«Са святам!»**

**Фото А. Дзітлава.**

# 6-ю пяцігодку выканаем!

Вялікі совецкі народ з натхненнем вывучае гістарычныя рашэнні XX з'езда Комуністычнай партыі Совецкага Саюза. Ён успрыняў іх, як праграму далейшага руху нашай Радзімы наперад, да комунізма.

У справаздачным дакладзе ЦК КПСС першы сакратар тав. Хрушчоў і ў дакладзе аб Дырэктывах па шостаму пяцігадоваму плану развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1956—1960 гады Старшыня Совета Міністраў СССР тав. Булганін вызначылі асноўныя шляхі далейшага будаўніцтва комуністычнага грамадства ў нашай краіне.

Комуністычная партыя, совецкі ўрад арганізоўваюць, натхняюць наш народ на выкананне і перавыкананне плана шостай пяцігодкі, якая паставіць нашу краіну на першае месца не толькі па тэмпах росту прамысловасці, але і па ўзроўню вытворчасці прадукцыі на кожную душу насельніцтва.

Шостая пяцігодка — гэта пяцігодка далейшага тэхнічнага прагрэсу, пяцігодка аўтаматызацыі вытворчасці, далейшай электрыфікацыі краіны; гэта, нарэшце, пяцігодка атамных электрастанцый і рухавікоў, шырокага выкарыстання атамнай энергіі ў мірных мэтах; гэта пяцігодка найвялікшага ўздыму соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, якая павінна ўдосталь забяспечыць насельніцтва прадуктамі харчавання, а прамысловасць — сыравінай.

У новай, шостай пяцігодцы яшчэ больш расквітнее наша родная беларуская рэспубліка. Зырка засвецяцца агні Васілевіцкай гідрастанцыі, якая азорыць Палессе і індустрыяльны Гомель, на берагах Дзвіны вырастуць гмахі Віцебскай гідраэлектрастанцыі, шырока разаўецца здабыча і пераапрацоўка торфу, увойдзе ў строй гігант тэкстыльнай прамысловасці — Мінскі камвольны камбінат, вырастуць сотні іншых прадпрыемстваў, якія дапамогуць нашаму народу ўзняцца на новую вышыню ў сваім гаспадарчым і культурным жыцці.

XX з'езд партыі накрэсліў шляхі руху нашай краіны ў комуністычную будучыню. Дружнай, з'еднанай вакол Комуністычнай партыі і яе Цэнтральнага Камітэта сям'ёй пойдзе наш народ па шляху, вызначанаму партыяй, да новых перамог комунізма.



Мінскі станкабудаўнічы завод імя Варашылава асвоіў серыйны выпуск чатырохшпіндэльных падоўжнафрэзерных станкоў. На здымку: Станок перад адпраўкай з завода.
Фото М. Ананьіна.

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання IV.
№ 3 (36).
Сакавік.
1956.




## ГЭТА ЁСЦЬ

Каб увачавідкі пераканацца ў грандыёзным размаху нашага будаўніцтва, не трэба заглядваць у глыбіню стагоддзяў: варта толькі ўспомніць, як змянілася аблічча рэспублікі ў пасляваенныя гады.

За час вайны былі разбураны ўсе фабрыкі і заводы, спалены, разрабаваны клубы, тэатры. Былі раёны, у якіх заставалася па дзесятку хат. І калі мы па закліку партыі і ўрада дружнай сям'ёй выходзілі на аднаўленне гарадоў, на расчыстку заваленых цэглай вуліц, мы ведалі: заўтрашні шчаслівы дзень пачынаецца сёння, з той самай хвіліны, як былі закладзены першыя цаглінь у падмурак.

Кожны чалавек яскрава ўяўляў усе цяжкасці і нягоды, што сустрэнуцца на шляху. Але кожны добра разумеў: іншай дарогі няма.

За пасляваенныя пяцігодкі мы не толькі аднавілі разбуранае вайной, але пабудавалі шмат чаго новага. У рэспубліцы з'явіліся новыя галіны прамысловасці. Беларускія трактары, аўтамабілі, матацыклы, швейныя машыны, кормаздабываючыя агрэгаты, станкі, дываны, піяніна сталі вядомы далёка за межамі рэспублікі. У музеі Айчыннай вайны ў Мінску ёсць электрыфікаваная карта рэспублікі. Націснеш кнопку, і на карце загараюцца рознакаляровыя агні. Кожная электрычная лямпачка—гэта прадпрыемства, якое дзейнічае, выпускае прадукцыю. На пульце, ля кожнай кнопкі,—адпаведныя гады. Націскаем кнопку 1913 год. На карце ледзь свецяцца некалькі лямпачак. Беларусь амаль не мела сваёй прамысловасці. Фабрыкі і заводы былі невялікія, больш падобныя на саматужныя майстэрні. Націскаем яшчэ адну кнопку. Закончана першая пяцігодка. Весела ўспыхваюць яркія аганькі. Гэта першынцы пяцігодкі, тварэнне рук вызваленага народа. Год ад году расце колькасць прадпрыемстваў. І вось ужо карта гарыць сотнямі агнёў. Гэта сучасная Беларусь, краіна буйнай прамысловасці і развітай сельскай гаспадаркі.

Пройдзе яшчэ нейкі час—і на гэтай карце загарацца дзесяткі новых лямпачак. Гэта ўступяць у строй новыя фабрыкі і заводы, будаўніцтва якіх намечана ў нашай рэспубліцы ў шостай пяцігодцы.

## ГЭТА БУДЗЕ!

Дырэктывы XX з'езда КПСС па шостаму пяцігадоваму плану адкрываюць перад краінай шырокія перспектывы далейшага эканамічнага развіцця. Шостая пяцігодка—гэта баявая праграма работ. Паспяховае выкананне яе будзе азначаць далейшае ўмацаванне магутнасці савецкай дзяржавы, рост культуры і дабрабыту народа. Дырэктывы XX з'езда КПСС па шостаму пяцігадоваму плану прадугледжваюць забяспечыць рост прамысловай прадукцыі за пяцігоддзе на 65 працэнтаў, у тым ліку вытворчасць сродкаў вытворчасці на 70 працэнтаў і вытворчасць прадметаў спажывання на 60 працэнтаў. Велічныя задачы пастаўлены і ў галіне сельскай гаспадаркі. У 1960 годзе валавыя зборы збожжа павінны дасягнуць 11 мільярдаў пудоў. Вытворчасць мяса і малака павялічыцца ў 2 разы.

У шостай пяцігодцы адкрываюцца новыя магчымасці для развіцця ўсіх матэрыяльных і духоўных сіл беларускага народа, для далейшага ўздыму эканомікі і культуры рэспублікі.

**У 1,7 раза прадугледжана павялічыць за пяцігодку валавую прадукцыю як усёй, так і рэспубліканскай прамысловасці.**

З дыяграм яскрава бачны рост прамысловай прадукцыі за пяцігодку. Так выпрацоўка электраэнергіі ў 1960 годзе ўзрасце ў параўнанні з 1955 годам у 2,1 раза, здабыча торфу вырасце ў 1,8 раза, выпуск трактараў павялічыцца ў 2,7 раза, аўтамабіляў у 1,6 раза, матацыклаў—у 1,7 раза, металарэжучых станкоў—у 2 разы, цэменту—у 1,8 раза, скуранога абутку ў 1,4 раза, цукру ў 3,1 раза. Гэты рост будзе дасягнуты як за кошт будаўніцтва новых прадпрыемстваў, так і за кошт паляпшэння існуючых.

ДЫРЭКТЫВАМІ ПА ШОСТАМУ ПЯЦІГАДОВАМУ ПЛАНУ ПРАДУГЛЕДЖАНА ПАБУДАВАЦЬ І ЎВЕСЦІ Ў СТРОЙ

**Васілевіцкую раённую электрастанцыю.**

**Віцебскую гідраэлектрастанцыю.**

**Мінскі гадзіннікавы завод.**

**Віцебскі завод сельскагаспадарчага машынабудавання.**

**ДЫРЭКТЫВЫ XX З'ЕЗДА КПСС ПРАДУГЛЕДЖВАЮЦЬ ПАВЯЛІЧЫЦЬ ПА БССР У 1960 ГОДЗЕ Ў ПАРАЎНАННІ З 1955 г. ВЫТВОРЧАСЦЬ:**

збожжавых




ільну




аўтамабіляў




трактараў




матацыклаў



# пачынаецца сёння



**Мінскі завод трактарных запасных частак.**

**Мінскі камвольны камбінат.**

**Заводы аўтаматычных ліній і спецыяльных агрэгатных станкоў.**

**5 новых торфабрыкетных заводаў.**

**14 заводаў па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў.**

**2 цукровых заводы.**

**2 нафтаперагонных заводы і інш.**

Да 1960 года будуць электрыфікаваны ўсе МТС і соўгасы і 40—45 працэнтаў калгасаў.

Не менш велічныя задачы стаяць перад сельскай гаспадаркай рэспублікі. За новае пяцігоддзе калгасы і соўгасы павінны павялічыць вытворчасць збожжа, прадуктаў жывёлагадоўлі.

**ДЫРЭКТЫВЫ XX З'ЕЗДА КПСС ПРАДУГЛЕДЖВАЮЦЬ ПАВЯЛІЧЫЦЬ ПА БССР У 1960 ГОДЗЕ У ПАРАУНАННІ З 1955 г. ВЫТВОРЧАСЦЬ:**

малака




бульбы




цукровых буракоў




ВОСЬ ЯНЫ, ЛІЧБЫ РОСТУ:

**У 1960 годзе павінна быць атрымана на 100 га ворыва**
**малака—376 ц. (у 1955 г. было 199 ц.)**
**мяса — 51,6 » ( » » » » 29,4 ц.)**
**у тым ліку**
**свініны — 50 » (» » » » 29,3 ц.)**

З дыяграм відаць, што за пяцігоддзе павялічыцца вытворчасць збожжавых і тэхнічных культур.

Гэтыя складаныя задачы партыя і савецкі ўрад наважаны рашыць шляхам павелічэння пасяўной плошчы. 238 тысяч гектараў зямель будзе асушана і засеяна збожжавымі і тэхнічнымі культурамі. 170 тысяч гектараў зямель атрымаюць калгасы і соўгасы за кошт перабудовы асушальных сістэм.

Вядома, такі размах работ немагчымы без магутнай тэхнікі. Пяцігадовым планам прадугледжана ўсямернае аснашчэнне калгасаў, соўгасаў і МТС новай тэхнікай. За пяцігоддзе многія працаёмкія работы будуць механізаваны.

У Дырэктывах з'езда па шостаму пяцігадоваму плану адлюстраваны няспынныя клопаты партыі аб чалавеку. За новае пяцігоддзе павялічыцца вытворчасць тавараў на душу насельніцтва. На працягу пяцігоддзя будзе павышана заработная плата нізкааплачваемым групам работнікаў, ажыццёўлены пераход на сямігадзінны рабочы дзень, палепшана пенсійнае забеспячэнне. Працоўныя атрымаюць каля трох мільёнаў квадратных метраў жылплошчы. Жыццё стане яшчэ прыгажэйшым, яшчэ лепшым.

## КАБ ПЛАНЫ СТАЛІ ЯВАЙ

Велічныя перспектывы адкрывае шосты пяцігадовы план. Новая пяцігодка—гэта наша прыгожае заўтра. Яно пачынаецца сёння. Ужо сёння лепшыя людзі рэспублікі: токары, слесары, муляры, трактарысты, інжынеры, калгаснікі пачынаюць барацьбу за заўтрашні дзень. Выкананы дзённы план на 200 працэнтаў азначае набліжэнне заўтрашняга дня ў два разы хутчэй.

Дарагі таварыш! Ад тваёй працы, ад стараннасці тваёй залежыць будучыня твая і тваіх таварышаў.

Камсамольцы, якія па закліку партыі ў першыя пасляваенныя гады прыехалі будаваць трактарны і аўтамабільны заводы, з чэсцю выканалі свой абавязак. Яны ў час далі трактары і аўтамашыны краіне.

Камсамольцы, якія па закліку партыі паехалі на цаліну, з чэсцю выканалі свой абавязак. Яны далі краіне мільёны пудоў хлеба.

Камсамольцы і моладзь разам з усім народам у цяжкія пасляваенныя гады здолелі праявіць цуды гераізму, аднавіць народную гаспадарку СССР.

Яны прыклад табе, дарагі таварыш. Цудоўнае будучыня, заўтрашняе шчаслівае жыццё пачынаецца сёння ў цэхах заводаў, на рыштаваннях, на сацыялістычных палях. Яно нараджаецца ў працы, у барацьбе.

Наперад, у бой за заўтрашні дзень!

**ВЫТВОРЧАСЦЬ ТАВАРАЎ**
**у разліку на душу насельніцтва павялічыцца ў нашай рэспубліцы ў 1960 годзе ў параўнанні з 1955 годам:**




металарэжучых станкоў




торфу




электраэнергіі




жалезабетонных канструкцый




цэменту





# Вясновыя павевы

**Ал. ВЕЧАРКОЎ**

Фото С. Чырэшкіна.

У сярэдзіне лета, калі зямля прыбралася ў кветкі, Марыя Дзежац з маленькім куфэрачкам, падарункам адзінай яе сваячкі — цёткі, адправілася ў першую далёкую дарогу. У куфэрачку ляжаў загорнуты ў белую хусцінку дыплом агранома, а ля сэрца — комсамольскі білет.

— Мая-ж ты Марылечка, — мітусілася гаваркая цётка. — Гэта-ж цябе на край свету пасылаюць...

А дзяўчына ўсміхалася. З лёгкім сэрцам і радасцю ехала яна ў далёкае Палессе.

Бацька Марыі, стары калгасны конюх з лясной пухавіцкай вёскі Грэбля, наказваў сваім дзецям:

— Любіце зямлю. Яна, наша карміцелька, не здрадзіць, не дасць у крыўду.

Не давялося яму бачыць сваю дачку, якая дала сабе зарок колькі ёсць сілы змагацца за абнаўленне роднай зямлі, — старога жывым спалілі фашысты ў калгаснай пуні. Нямногія ў той страшны сорак трэці год уратаваліся з Грэблі. Спалілі тады і марыну матку.

... Марыя глядзіць праз адчыненае акно вагона і не можа адарваць зачараванага позірку ад родных малюнкаў-пейзажаў. Успамінаюцца словы любімага настаўніка з Мар'іна-Горскага тэхнікума: «Аграном — уладар, пераўтваральнік палёў».

Так, сапраўды, вялікая доля працы агранома бачна ў гэтых квітнеючых нівах, садах і сенажацях, што раскінуліся навокал. Якая-ж цікавая пасада — аграном!

Але Марыі замест палёў і росных сцежак, якія яна палюбіла з маленства, у Мазыры падрыхтавалі цесны пакойчык з запырсканым чарнілам канторскім столікам. З дня ў дзень перапісвай зводкі, падбівай лічбы. Дыхай не водырам палёў, а залежалай пыльнай паперай!.. Хіба для гэтага Марыя сядзела над кнігамі, старанна вывучала глебу, расліны? Колькі разоў прасілася туды, куды ірвалася маладое сэрца, настойвала, але ўсё адмаўлялі: у райсельгасаддзеле яна, моў, больш патрэбна.

Так прайшло амаль пяць год. Можа-б Марыя прасядзела ў райсельгасаддзеле доўга, каб не той свежы вецер жыцця, што прайшоўся па краіне, не мінаючы палескіх далечаў. У верасні 1953 года Пленум ЦК партыі прыняў вядомую пастанову «Аб мерах далейшага развіцця сельскай гаспадаркі СССР», якая адыграла немалую ролю і ў жыцці Марыі Дзежац.

— Нарэшце, і пра нас, спецыялістаў, успомнілі, — шчыра сказала яна і папрасілася, каб яе накіравалі ў калгас, нават у самы адстаючы. Толькі-б хутчэй развітацца з гэтай «чарнільнай агратэхнікай».

Марыі далі пасаду галоўнага агранома Слабадской МТС. Праўда, гэта яе не зусім задавальняла, але было ўсё-ж бліжэй да палёў, да той працы, па якой сумавала сэрца. Тут яна рабіла ўсё магчымае, каб накіраваць увагу кіраўнікоў калгасаў, спецыялістаў да паляводства, якое, як вядома, з'яўляецца асноўвай развіцця ўсіх галін калгаснай вытворчасці. Ездзіла сама па калгасах, дапамагала на практыцы ўкараняць лепшыя гатункі раслін на калгасных палях. Працавала ад душы, але, калі прызнацца, не мела сапраўднай асалоды ад сваёй працы. Адчувала, што чагосьці не хапала, а не хапала аднаго — канкрэтнага ўчастка, дзе можна было-б прымяніць свае веды і здольнасці.

Такім канкрэтным, шырокім полем дзейнасці з'явіліся палі калгаса «Чырвоны Кастрычнік», куды пасля многіх просьб атрымала накіраванне Марыя. Ведала, што гаспадарка гэтай арцелі занядбалая, а пайшла з радасцю. Комсамолец, як і комуніст, павінен быць там, дзе цяжка. К гэтаму часу Марыя ўступіла ў кандыдаты партыі.

Не дужа прыхільна сустрэлі ў калгасе новага агранома. Можа гэта маладая дзяўчына надумалася вучыць старых палешукоў, як араць зямлю?..

— Ой, дык вы яшчэ за севазвароты і не браліся, — шчыра здзівілася Марыя і нахмурыла цёмныя бровы. — Мы гэтым неадкладна зоймемся.

Старшыня-ж толькі махнуў рукою:

— Тут не да севазваротаў, калі не было чым сеяць...

Старшыня перабольшваў: насення хапала, але ніхто не клапаціўся, каб яго абмяняць на гатунковае. Агроному прышлося з восені не толькі заняцца планаваннем, складаннем пераходных табліц, але і насенневодствам, стварэннем звенняў, накапленнем угнаенняў.

Крыху больш года, як Марыя Дзежац працуе аграномам у калгасе «Чырвоны Кастрычнік», але зрухі да лепшага відаць ужо. Летась лепшы, чым ва ўсе апошнія гады, сабралі ўраджай. Упарадкавалі і расшырылі сад, пачалі сеяць больш ільну і кукурузы. Праўда, як кажуць, тут заслуга не толькі агранома. У калгас прышоў новы старшыня, на адказныя ўчасткі цяпер пастаўлены лепшыя людзі — калгасныя комуністы і комсамольцы.

Яшчэ летась Марыі даводзілася цяжэй. Колькі прышлося папрацаваць, каб пераканаць



**Сад перазімаваў добра.**

людзей у карысці той-жа кукурузы. Затое як добра, калі жывёла на ўсю зіму забяспечана сіласам і сенам. Заслуга агранома не толькі ў тым, што яна дае добрыя карысныя парады. Яна дабіваецца ажыццяўлення сваіх намераў, умела пераконвае людзей. Калі ішла сяўба, аграном з ранку да вечара не пакідала палёў, дамагаючыся, каб і квадраты былі правільныя, і ўгнаенне ў лункі была пакладзена поўная норма. А калі дзе няўпраўка, дык Марыя возьме кошык ды з жанчынамі папрацуе гадзіну-другую. Таму і павага да яе ад людзей.

Бывала, у гэтых мясцінах дасціпныя палешукі жартавалі:

— Быў-бы дождждык, быў-бы гром, і не трэба аграном...

Цяпер такога жарту не пачуеш. Наадварот, як у мінулым годзе на калгасным сходзе чыталі марыіну заяву аб уступленні ў члены калгаса, усе ў адзін голас сказалі:

— Прыняць!

— Без агранома нам нельга!

А стары Кірыла Чарняк многазначна дадаў:

— Ды яна, відаць, упадабала Палессе. Назаўсёды з намі.

Марыя глядзела на лес рук, якія ўзняліся ў зале за яе, і нейкі гарачы камяк падкаціўся да горла, а сэрца стукала, як тады, калі атрымлівала ў райкоме партбілет. Не ўпершыню бачыць яна гэтых людзей. Кожнага ведае ў твар. Але, здавалася, ніколі яны не былі для яе такімі блізкімі і роднымі, як у гэтыя хвалюючыя хвіліны. З такімі людзьмі, хоць на выгляд пахмурымі і суровымі, ёй парадніцца не сорам.

У думках Марыя прыгадала тыя мясціны і сцежкі, што схадзіла за час жыцця тут, і сказала сама сабе: такіх прыгожых мясцін, як тут, над Прыпяццю, можа нідзе і няма.

— Значыць, адзінагалосна, — пачуўся гучны голас старшыні. — Вітаю, таварыш Дзежац!

Гэты сход быў нібы ўчора. Між тым ужо шосты раз калгасны рахункавод Вольга Казёл запаўняе аграному «Працоўную кніжку калгасніка». У месяц ёй налічваецца 73 працадні, апрача таго, — грошай восемдзесят працэнтаў акладу, які атрымлівае старшыня.



**— Вам, Марыя Антонаўна, за тры месяцы леташняга года налічана 220 працадзён...**

— Як уступіла ў калгас, — расказвае Марыя, — лягчэй стала працаваць. Людзі бачаць, што я тут не часовы чалавек, ды і ў самой нейкі незвычайны прыліў сіл...

Такая ўжо ў агранома пасада, што за год асабліва не ўбачыш вынікаў сваёй працы. Але-ж і за такі час ва ўсім бачна энергічная рука гаспадара палёў. Толькі за два апошнія гады ўраджайнасць збожжа павялічылася ў два разы, павялічылася плошча пад пасевамі бульбы і гародніны. Увялі на сваіх палях калгаснікі салодкі лубін, які даў вялікія прыбыткі калгасу.

З дапамогай агранома распрацаваны перспектыўны план развіцця калгаса на шостую пяцігодку. У новым пяцігоддзі ў «Чырвоным Кастрычніку» ўраджай збожжа, бульбы, гародніны павялічыцца ў тры разы, прыбыткі ад жывёлагадоўлі — у два разы. У бліжэйшыя гады намечана пабудаваць новыя кароўнікі, канюшні, аўчарнік, механізаваныя такі, будзе закончана электрыфікацыя ўсіх брыгад, калгаснікі будуць мець новы клуб, дзіцячы сад, лазню...

Людзі ўпэўнены, што так і будзе, што планы збудуцца. З імі за цудоўны заўтрашні дзень змагаецца і калгасны аграном.

У зімовыя дні разам з сакратаром комсамольскай арганізацыі Алёшам Казловым аграном ездзіла з брыгады ў брыгаду, узнімаючы моладзь на вывазку торфу. І цяпер усім прыемна: яравыя будуць пасеяны па ўгноенай глебе.

Даведаўшыся, што перадавыя палескія калгасы нарыхтоўваюць аргана-мінеральныя сумесі, Марыя вырашыла пераняць гэты каштоўны метад. Сабралі комсамольскі сход, на якім моладзь ўзялася нарыхтаваць сваімі сіламі патрэбную колькасць аргана-мінеральнага ўгнаення. Марыя сама паказвае, як трэба рабіць сумесь, актыўна ўдзельнічае ў гэтай справе.

...Яшчэ халаднавата, снег іскрыцца марозным бляскам. І вось з-за касматых сасновых



**— У шостай пяцігодцы, — гаворыць Марыя Дзежац, — наш калгас «Чырвоны Кастрычнік», як і ўся савецкая краіна, зробіць новы шырокі крок у комунізм.**

верхавін вырваліся снапы святла, промні слізганулі па ствалах, разбіўшыся на мірыяды іскрынак. Святло, нібы паводка, затапіла лясную дарогу, і на снезе скакалі, весяліліся сонечныя зайчыкі.

З-за недалёкай Прыпяці дыхнуў вецер, прынёсшы з сабою ледзь улоўныя павевы вясны. Удыхаючы свежыя лясныя пахі, Марыя працягнула рукі, каб, нібы пшанічных зярнят, набраць у прыгаршчы зіхатлівых зайчыкаў.

— Хараша як!..

— Што вы сказалі? — Аляксей павярнуўся да аграноma, нацягнуў лейцы.

— Вясна, кажу, блізка.

— Так. Запахла жывіцаю, — сказаў Аляксей і расшпіліў каўнер.

Загаварылі пра тое, што хвалюе іх абодвух — комсорга і агранома — напярэдадні сяўбы. Трэба, каб у кожнай брыгадзе было сама меней два комсамольскія звяны — па кукурузе і ільну. Падумаць варта і аб трактарыстах, бо ад іх залежыць многае.

— Дарэчы, чыя ў нас сёлета трактарная брыгада? — запытаў у агранома комсорг: яна-ж больш у курсе ўсіх спраў у МТС, бо яе муж — механізатар і працуе там.

— Пэўне, мінулагодняя, — адказала Марыя. Відаць, не менш комсорга і яна заклапочана, што трактарысты ў іх калгасе яшчэ не праявілі сябе ў барацьбе за ўраджай.

— Вось каб нам адамаву брыгаду, — летуценна прагаварыў комсорг, маючы на ўвазе брыгаду, якую ўзначальвае аграномаў муж Адам Рак. — Мы з яго спыталі-б. Ён-жа наш, майсееўскі...

— Тады-б аграному было горш, — пажартавала Марыя. — Калі што якое — абвінавацілі-б у сямейнасці...

Сонца запаліла вяршыні блізкага лесу, калі Марыя вярнулася з паездкі па брыгадах.



— Не шкодзіла-б, Аляксандр Васільевіч, насенне ільну яшчэ раз перачысціць!



Дзень ужо канчаўся, а яшчэ неабходна заглянуць у свіран, самой упэўніцца, што ачыстка насення закончана, сустрэцца з садоўнікам і паспець на пасяджэнне праўлення, дзе мае абмяркоўвацца план веснавой сяўбы. А там трэба пабачыцца з маленькай Надзейкай, перад ёй не апраўдаешся, што такая неспакойная праца.

Марыя паспявае ўсюды. Нават ухітраецца ўвечары прачытаць яшчэ сёе-тое з мастацкай літаратуры, заглянуць у «Аграбіялогію»...

Не адчуваеш стомы, бо цябе на крылах нясе свежы вецер насустрач вясне і сонцу.

**Калгас «Чырвоны Кастрычнік», Мазырскага раёна.**

— Якая ты ўжо вялікая, Надзейка!..

# За хараство душы...

УСЕ дзяўчаты папрыходзілі ўжо, а Ліды ўсё няма.

— Сёння зноў позніцца. У каторы гэта ўжо раз! З-за яе сорамна ўсім, — нервуючыся, гаварыла Аня Валасковіч, групорг змены.

Седзячы за швейнай машынай, яна моцна хвалявалася. Нарэшце дзверы адчыніліся, і на парозе паказалася Ліда. Роўна на поўгадзіны спазнілася яна. Увайшла ў цэх, нават не павіталася, хутка распранулася і ўзялася за працу.

Дзяўчатам, сяброўкам Ліды, хацелася прабраць яе добра за недысцыплінаванасць, за пагарду да калектыву. Але зараз зрабіць гэта нельга было. Усе былі заняты працай. Затое ў часе перапынку на абед яны накінуліся на Ліду.

— Недысцыплінаваная ты. Змену назад цягнеш. Як табе не сорамна!

А Ліда і вухам не вяла.

— Хопіць чытаць мне мараль. Надакучыла ўжо слухаць, сама ведаю, што раблю.

Не вызначалася Ліда і тактам: лаялася з майстрам, групоргам, таварышамі. На фабрыцы ў яе не было сябровак.

Калі Лідзе прапанавалі перайсці ў другую змену, яна не пярэчыла. Думалі, што сярод другіх людзей дзяўчына выправіцца. Але праз некаторы час Ліда зноў вярнулася на сваё ранейшае месца.

— Да сваёй старой машыны пацягнула, — апраўдвалася яна.

Некалькі дзён дзяўчына трымала сябе як мае быць. Але нядоўга. Зноў пачаліся сваркі, звадкі.

— Што рабіць з Лідай? — спытала, прышоўшы ў камітэт комсамола, групорг Аня Валасковіч.

— А вы хоць раз шчыра з ёй пагаварылі? — спыталі ў камітэце.

— Спрабавалі, ды не выходзіць. Яна ні з кім не сябруе.

Члены камітэта здзівіліся.

— Што-ж за змена ў вас! Нават дзяўчаты не сябруюць адна з адной.

У камітэце далі вельмі простую параду:

— Пасябруйце з Лідай, знайдзіце ёй цікавы занятак.

«Які-ж ёй знайсці занятак? — непакоілася Аня. — Хіба даручыць кіраваць танцавальным гуртком? Яна любіць танцы. Толькі-ж як падступіцца да яе?»

У тыя дні ў гарадскіх кінотэатрах дэманстраваўся фільм «Трывожная маладосць».

Ідучы на работу, Аня купіла два білеты і, як скончылася змена, падышла да дзяўчыны і сказала:

— Ліда, хадзем са мной сёння ў кіно. У мяне ёсць білеты. Удваіх будзе весялей.

Ліда маўчала, не разумеючы, у чым справа.

— Дамовіліся, значыць? Увечары я зайду па цябе і пойдзем у кінотэатр.

Аня прышла да Ліды крыху раней, чым дамаўляліся. У яе былі свае меркаванні: ёй вельмі хацелася ведаць, што Ліда робіць у вольны час. Вельмі ўзрадавалася Аня, калі ўбачыла, што Ліда чытае «Маладую гвардыю». На этажэрцы ў яе ляжалі кнігі «Як гартавалася сталь» Н. Астроўскага, «Звязда» Э. Казакевіча, «Журбіны» В. Кочэтава і іншыя.

— Ты ўсё гэта прачытала? — спытала Аня.

— Вядома, прачытала, — адказала Ліда.

У кінотэатр яны пайшлі пешшу. Па дарозе разгаварыліся. Гаварылі аб прачытаных кнігах, аб тым, як праводзяць вольны час.

Фільм дзяўчатам вельмі спадабаўся, і яны доўга дзяліліся сваімі ўражаннямі. Гаворка паступова перайшла на іншую тэму.

— Хутка будзе агляд мастацкай самадзейнасці, а ў нас нават няма танцавальнага калектыву, — з крыўдай у голасе сказала Аня. — Усе дзяўчаты ўмеюць танцаваць, ды няма каму ўзяцца арганізаваць гурток. Можа-б ты, Ліда, зрабіла гэта? — нечакана спытала яна.

Ліда згадзілася. Назаўтра Аня сама напісала аб'яву аб тым, што на фабрыцы ствараецца танцавальны гурток пад кіраўніцтвам Ліды Міцко. Са здзіўленнем чыталі гэтую аб'яву дзяўчаты. Некаторыя кпілі:

— Ну і кіраўніка знайшлі!

Дайшлі гэтыя словы да Ліды.

— Яшчэ пабачыце, на што я здольная, — сказала яна сама сабе.

Перад першымі заняткамі Ліда схадзіла ў гарадскі Дом культуры, параілася там, як лепш арганізаваць работу гуртка.

На першую рэпетыцыю прышло толькі пяць чалавек. Ліда выразыла ўсё-ж правесці першыя заняткі. Вучыліся танцаваць «Лявоніху», «Бульбу». На другія заняткі прышло ўжо больш людзей. Неўзабаве быў створаны танцавальны гурток. А праз некаторы час ён выступіў на гарадскім аглядзе мастацкай самадзейнасці. Колькі радасці тады было ў Ліды! Праз некалькі месяцаў Ліду прынялі ў комсамол. Яна ўлілася ў маладую, бадзёрую сям'ю, стала лепшай работніцай брыгады, актыўнай комсамолкай. Аня радавалася сваёй першай перамозе ў барацьбе за чалавека, за хараство яго душы.

**М. СУША.**

Швейная фабрыка
г. Маладзечна

Алена ВАСІЛЕВІЧ

НЯРЭДКА можна пачуць такую размову:

— Ну, як ваша Мая, працуе ўжо? Інстытут яна ўжо закончыла-ж?

— А як-жа, політэхнічны. Інжынер.

— Нябось хапае цяпер работы?

— Ды не... Яна не працуе. У яе-ж малое. Як-жа яна кіне яго?

# ГЭТА ТАКСАМА ПОДЗВІГ



...І вось праходзіць яшчэ год, і зусім выпадкова сустракаеш Маю ўжо з мужам і дачкой — прыехалі на летні адпачынак да бацькоў.

— Мая, ты што-ж зусім надумалася кінуць работу, ці толькі часова?

— Што вы — «назусім»! Тут здурэеш каля гэтых каструль і пялёнак... Я не дзеля гэтага вучылася пяць гадоў.

...Аднак на наступнае лета мяняюцца толькі халаты — астатняе ўсё застаецца ранейшым.

— Не думаеш, Мая, яшчэ ісці на работу?

— Не, ужо збіраюся. Яшчэ зіму пасяджу, падгадую Людачку, а на тое лета ўжо...

А на тое лета Мая ўжо не прыязджае да бацькоў. Маці сама едзе да яе. У Маі сын.

Паступова гаворка пра работу чуецца ўсё радзей і радзей. А праходзіць яшчэ гады два-тры — і яна зусім спыняецца...

Вось так, часам, можна пачаць размову пра жанчыну, пра маці...

Аднак заданне і мэта ў мяне былі зусім іншыя, чым апавяданне пра выпускніцу політэхнічнага інстытута Маю.

Ад мяне патрабавалі напісаць нарыс пра жанчыну-маці, выгадаваўшую не аднаго і не двух дзяцей.

У мяне пад рукой цэлы спіс такіх многадзетных маці, усё жыццё якіх аддана самаму высокароднаму — выхаванню дзяцей.

Мне захацелася напісаць пра настаўніцу Марыю Сцяпанаўну Пупейка.

Я толькі пераступіла парог настаўніцкай, як погляд мой спаткаўся з маладым смяшлівым поглядам вачэй поўнай жанчыны сярэдніх год.

— Мне хацелася ўбачыць Марыю Сцяпанаўну...

— Я Марыя Сцяпанаўна...

Бываюць-жа такія погляды. Стрэўся з ім — і ты не сумняваешся: выбар твой правільны, ты не памыліўся.

Марыя Сцяпанаўна Пупейка — матэматык у старэйшых класах 30-й сярэдняй школы, маці пяці дзяцей. Як кажуць настаўнікі, гэта немалая «нагрузка»...

Бліжэй мы знаёмімся на кватэры ў сям'і Пупейка.

Перш за ўсё звяртае на сябе ўвагу мілая ва ўсім скромнасць, якая ў сто разоў прыемней удушлівай раскошы з цяжэзнымі (не скрануць з месца) крэсламі, дыванамі, буфетамі і шафамі.

А тут прастора і чысціня! Тут багацце — кнігі. На сценах не дываны, а Левітан і Макоўскі — няхай сабе не арыгіналы...

Уся абстаноўка гэтай кватэры гаворыць: тут людзі прывыклі перш за ўсё думаць і працаваць.

Марыя Сцяпанаўна Пупейка скончыла Маскоўскі педагагічны інстытут яшчэ ў 1936 годзе. І вось з таго часу, дваццаць год, працуе яна настаўніцай.

Размову з ёю мы пачалі з таго, як хто глядзіць на вышэйшую адукацыю тых дзяўчат, якія пасля дзесяцігодкі яшчэ гадоў пяцьшэсць вучацца ў інстытуце, сядзяць на карку бацькі і дзяржавы, а потым, стаўшы маткай аднаго дзіцяці, забываюць свае «ідэалы» і са спакойным сумленнем прысвойваюць сабе (зусім нядрэнны) тытул «хатняй гаспадыні»...







Марыя Сцяпанаўна па гэтаму пытанню выказваецца рашуча і зусім пэўна:

— Такіх паненак я і на парог не пускала-б у інстытуты. Не займайце месца. У дзяржавы знойдзецца месца выкарыстаць гэтыя сродкі на тое, што будзе сапраўды карысным... А каб быць толькі гаспадыняй, зусім дастаткова і дзесяцігодкі. А каб быць выдатнай гаспадыняй — дык для гэтага ёсць і выгадны дапаможнік «Кніга аб смачнай і карыснай ежы».

У Марыі Сцяпанаўны пяцера дзяцей. Шостага пахавала ў вайну.

Першым сустракае гасцей самы маленькі — Саша. Яму ўсяго год і сем месяцаў. Гэтае мілае чырвонашчокае стварэнне ўпэўнена маршыруе па кватэры з перакінутым на галаву «сваім» стульчыкам, і яго яшчэ вельмі мала абыходзяць справы дарослых. Аднак і ён ужо ведае «рамкі». Напрыклад: з нагамі лазіць на стол нельга і жаваць паперу таксама нельга — гэта мама забараняе. І хлапчук паслухмяна кладзе маме ў кішэню зжованы кавалак паперы... Пасля з'едзенага сподачка варэння, безумоўна, неабходна вымыць рукі і... увесь твар. Гэта таксама загад мамы — спакойны, роўны, без нервавання (бачыце, ах як няёмка: бруднае дзіця пры чужым чалавеку) і без сантыментальнага сюсюкання... І Саша старанна размазвае пад кранам ружовыя пісягі па ўсім твару.

Гэта ўжо работа. Гэта ўжо выкананне абавязку, загаду.

Адсюль, з гэтага ўзросту, у вялікай зладжанай сям'і пачынаецца выхаванне дысцыпліны, а разам з ёй набыццё і астатніх навыкаў, без якіх нельга было-б патрабаваць парадку.

— І няцяжка, Марыя Сцяпанаўна? Усё-такі работа і пяць чалавек дзяцей?

— Не, няцяжка, — разумеючы маё сумненне, неяк асабліва прыветна ўсміхаецца Марыя Сцяпанаўна. — Няцяжка таму, што ўсе мне ва ўсім дапамагаюць. У нашай сям'і няма такога «парадку», як гэта можна сустрэць у некаторых сем'ях, каб на маці «трымаўся ўвесь дом». Кожны з нас мае свае пэўныя абавязкі... Ніхто з нас не ўстане і не кіне пасля сябе пасцель непрыбранай, або пасуду бруднай... Гэта няцяжка і не патрабуе многа часу... Мыццё падлогі або дробнай бялізны — таксама ўжо не мая справа: старэйшыя дочкі любяць і ўмеюць гэта рабіць. Цыраванне панчох — таксама абавязак Люды і Святланы. А вось дровы — гэта ўжо сынава справа. Накалоць, прынесці, а таксама вынесці вядро са смеццем, — пра гэта Толю напамінаць ужо не трэба.

Што-ж датычыцца абеду, дык яго рыхтуе той, хто раней прыдзе дадому. Трафім Івანавіч, муж, заняты зараз больш астатніх, і ён вызвалены ад гэтага абавязку. А некалі, калі дзеці былі малыя, ён таксама не глядзеў на пліту, як «гаспадарку» выключна жончыну. І бялізну мыць дапамагаў. Не сароміўся... Хатняй работніцы ніколі не трымалі, рабілі ўсё самі.

Марыя Сцяпанаўна расказвае пра свайго мужа стрымана і нямнога. Але па таму, як яна гаворыць аб ім, няцяжка здагадацца: у сэрцы гэтай жанчыны не пасяліліся холад і роўнадушша. Як і некалі, дваццаць ці мо' і болей гадоў назад, усё гэтак-жа ўзмоцнена б'ецца яно пры ўспаміне аб чалавеку, які стаў надзейным спадарожнікам на ўсё жыццё.

Пакуль мы з Марыяй Сцяпанаўнай гаварылі пра ўсё на свеце, вярнуліся з кіно старэйшыя дочкі: Людміла і Святлана.

Люда толькі што здала зімовую сесію за першы курс фізмата БДУ — здала на выдат-

На здымках (зверху ўніз): **Марыя Сцяпанаўна са Святланай падрыхтоўваюць газетныя выразкі, каб зрабіць з іх кнігу.**

**Сёння дзяжурства па кухні нясе Галя.**

**Толя заняўся рамонтам крэсла.**

**Адзіны «гультай» у гэтай сям'і — паўтарагадовы Саша.**

Фота А. Дзітлава.

на — і цяпер яна, як жартуюць дома, «праветрывае» галаву: ходзіць у кіно, чытае, вышывае, даглядае Сашку... Вось і зараз яна адразу займаецца братам, корміць яго, нешта расказвае і трымаецца ў другім пакоі.

Сын Толя прыходзіць дадому з лыжамі. Ён, відаць, затрымаўся больш, чым дазвалялася. Маці толькі стрымана заўважыла:

— Як ты, родны, доўга...

У мяне чамусьці перакананне, што ў такой сям'і, з такімі дзецьмі не павінна быць непрыемнасцей.

— Ёсць, чаму не... І самыя большыя, вядома, гэта калі ў нас у доме паяўляецца «двойка». — Яна гэта кажа ўпоўголаса і непрыкметна ківае галавой у бок сына. — Здараецца... І гэта ўсіх нас вельмі трывожыць...

Здараецца і так, што не заўсёды ёсць ахвота выканаць загад ці просьбу старэйшых... Але калі гэта трэба — адмовы не будзе. Як можа быць інакш у сям'і, дзе ўсе працуюць, дзе кожны сам заняты справай і дарэмна ніколі не патурбуе другога?

Бацькі-ж знаходзяць час пайсці кожны тыдзень у школу, пагутарыць з класным настаўнікам, даведацца пра поспехі, пра дысцыпліну сваіх дзяцей...

...На гэты час якраз прыходзіць і яшчэ адна вучаніца — дачка Марыі Сцяпанаўны — Галіна. Яна вучыцца ў другім класе.

Яе прыход упэўнівае яшчэ раз, што ў сям'і існуюць няпісаныя законы, выконваць якія ніхто нікога не прымушае, і ў той-жа час яны свята выконваюцца.

Як і старэйшыя сёстры, Галя тут-жа пераапранаецца ў хатнюю сукенку. Яе не трэба «падганяць» ці напамінаць, што трэба вучыць урокі, што час есці, што час класціся спаць. Усё гэта яна ведае сама. Першыя свае вітанні Галя таксама нясе «Сашуку».

Наогул увагі і пяшчот гэтаму чалавеку, адчуваецца, дастаткова. І ён купаецца ў іх, як сыр у масле. Гэта прыемна і пабочнаму чалавеку. Прыемна тым больш, што нярэдка можна сустрэць выпадкі, калі ў сем'ях, дзе ёсць старэйшыя, ужо «жаніхі» і «нявесты», вось да такіх паўтарагадовых братоў і сясцёр няма ніякай увагі.

Харошыя дзеці ў Марыі Сцяпанаўны. Ёй можна шчыра, па-мацярынску пазайздросціць. Усе моцныя, здаровыя, усе любяць канькі і лыжы, кніжкі і музыку, кіно і тэатр. І галоўнае — працу.

Амаль кожны член сям'і выпісвае сваю газету ці часопіс. Другакласніца Галіна мае іх тры: «Пионерскую правду», «Мурзилку» і «Бярозку». Гэта дае магчымасць і тут праяўляць кожнаму сваю ініцыятыву. Святлана, напрыклад, выкарыстала параду «Чырвонай змены» і з «Дзённіка штурмана Галіны Дакутавай» зрабіла сабе кніжачку. Якая гэта павучальная кніжачка для моладзі!

«Пионерская правда» друкуе зараз аповесць М. Прылежаевай «На берегах Медведицы» — аб дзіцячых гадах М. І. Калініна. Раздзелы аповесці прачытваюцца адзін за другім усёй сям'ёй. А потым таксама падшываюцца ў «кніжку», якая, як і ўсякае цікавае пачынанне, надоўга захоўваецца ў сям'і Марыі Сцяпанаўны і Трафіма Іванавіча Пупейкаў.

Наведаеш вось такую дружную разумную сям'ю і здаецца, што сам ты разумнейшы і лепшы зрабіўся. Так, многаму вучыць яна!

Але-ж ведаеш і другое, што само ўсё гэта не прыходзіць. Што і дружба, і лад, і ўзаемнае разуменне ў сям'і — усе гэтыя вялікія заваёвы даюцца ў выніку намаганняў усіх яе членаў і ў першую чаргу бацькоў. Тут трэба мець і талент выхавацеля, і быць цярплівым і любячым дзяцей, трэба ўмець і пакараць (галоўнае ўмець знайсці такую меру пакарання, калі хто з дзяцей яе заслужыў, каб пераканаць, а не пакрыўдзіць). А галоўнае заўсёды ўмець бачыць тое прыгожае ў дзіцяці, у чалавеку, што бачыў і так беражліва песціў некалі вялікі выхавацель і педагог нашага часу А. С. Макарэнка.

Харошыя дзеці ў Марыі Сцяпанаўны і Трафіма Іванавіча. За іх будучыню не бярэ сумненне.

І каму тут дзякаваць у першую чаргу, як не маці — Марыі Сцяпанаўне — нястомнаму працаўніку і другу яе дзяцей.



# Алёша Касцянок

**Урывак з рамана «Крыніцы»**

**Іван ШАМЯКІН**

Мал. Г. Паплаўскага.

Алёша Касцянок пачаў работу на новым самаходным камбайне. Гэта была яго мара — самастойна вадзіць такую машыну. Недарма паэты называюць камбайн караблём. Алёша таксама лічыў, што больш паэтычнай, больш радаснай і ўдзячнай працы, як праца камбайнера, на свеце няма. Гэтае захапленне сваёй прафесіяй расло ў яго з кожным днём. Ён не стамляўся сядзець за штурвалам з раніцы да вечара, ад расы да расы, гадзін па пятнаццаць—шаснаццаць. Памочніка не было. На капніцелі таксама працаваў вучань іх класа Пятро Хмыз, хлопец маўклівы і старанны. Калі ён стамляўся ці хадзіў абедаць, яго месца займала Каця Гаманок, якая з другой дзяўчынай адвозіла зярно на ток.

Па некалькі разоў на дзень наведваўся Сяргей: аглядаў і рэгуляваў машыну. І камбайн працаваў, як добры гадзіннік. Алёшу проста хацелася спяваць, працуючы на ім. З вышыні мастка ён глядзеў на поле ў залатых хвалях даспелых жытоў ці пшаніцы і адчуваў сябе гаспадаром усяго гэтага наваколля. Прыемна назіраць, як кланяецца камбайну збажына, як планкі матавіла хапаюць сцябліны, і яны, падрэзаныя, падаюць на транспарцёр. Не зусім рытмічна — у залежнасці ад порцыі збажыны — шуршаць шнэкі і транспарцёры. Роўна гудуць барабан і вентылятар, стукае саломатрас. Няспынна сыплецца ў бункер зерне. Алёша бачыць гэта праз акенца і беспамылкова вызначае, дзе збажына менш, а дзе больш умалотная. Прыемна глянуць і назад: там рассцілаецца іржышча, ляжаць роўнымі радамі копы саломы. Асабліва прыемна акінуць позіркам зжатую плошчу ў канцы дня, вызначыць на вока, колькі гектараў, і задаволена сказаць сябру-памочніку: «Ну, брат, папрацавалі мы з табой сёння наславу. Маем права і адпачыць». «Ого! Дзіва што маем!»— заўсёды адно і тое-ж адказвае Пятро.

Але ўсё-такі найвялікшую радасць і задавальненне прыносіць сама праца. Калі камбайн узбіраецца на ўзгоркі, далёка відаць наваколле: вёскі, луг са стагамі сена, шлях, па якім адна за адной ідуць машыны з новым хлебам. Цёплы ветрык ласкава цалуе твар. Паліць сонца. Але ад сонца Алёшу закрывае вялікі белы парасон, і хлапец працуе без шапкі, у безрукаўцы, твар яго белы, а рукі чорныя ад загару.

Пад'язджаюць бястаркі. Алёша прыпыняе камбайн і любуецца, як цераз латок льецца з бункера ў скрыні жывы і вясёлы струмень збожжа. Каця кожны раз радасна вітае яго.

— Прывітанне капітану! — крычыць яна і кідае яблык. — Алёшка, лаві! За добрую працу!

А пасля сама ўзбягае на масток, ахкае ад захаплення і ласкава просіць:

— Алёшка, дай правяду. Пяць метраў!

— Ну, што ты! Бачыш, няроўна. Сапсуеш яшчэ.

— Заганарыўся ты, Алёша.

Ён больш за ўсё баяўся, каб не падумалі, што ён сапраўды заганарыўся. І ён даваў і Пятру і Каці правесці камбайн на роўным месцы, але сам ніколі не сходзіў з пляцоўкі кіравання і вачэй не адводзіў ад педаляў, якія націскалі няўмелыя ногі сяброў. Што-ж, некалі і ён вось гэтак-жа пачынаў пад наглядам брата!

Смела і ахвотна ён уступаў штурвал толькі брату Сяргею, які часам працаваў за яго гадзіны дзве-тры, каб даць яму адпачыць.

Алёша часта і начаваў тут-жа, каля камбайна, на пахучай саломе. Яму падабаліся гэтыя начлегі ў полі. Прыемна ляжаць, глядзець у неба, дзе мігцяць бледныя летнія зоркі, слухаць далёкія песні дзяўчат і думаць, думаць пра ўсё: пра будову сусвету і сваю працу, пра законы механікі і пра сяброў, пра хуткую вучобу і пра Раю. Часам, калі ён начаваў недалёка ад Крыніц і калі ў вёсцы маўчаў рэпрадуктар, да яго даляталі гукі адзінага на ўсё наваколле піяніна. Ён ведаў: іграе Раіса, і, стомлены, доўга не мог заснуць, пакутуючы і радуючыся ад супярэчлівых думак.

Абед яму часцей за ўсё прыносіла маці, зрэдку Аня ці Адам Бушыла. Маці ўпотайкі выцірала слёзы, ёй здавалася, што Алёша ад працы чахне. Дома яна лаялася з Сяргеем:

— Дзіцяці адпачыць трэба перад школай, а вы яго на такую працу.

— Нічога не стане твайму дзіцяці. Радуйся, што не гультай, — адказваў за Сяргея бацька.

Праз тыдзень работы Алёша выйшаў на першае месца ў МТС. Аб ім напісалі ў раённай газеце. Лепшы камбайнер раёна Антон Стараселец, які два гады трымаў першынство па вобласці, выклікаў яго на спаборніцтва. Алёша выклік прыняў, але ніякіх сустрэчных

абавязацельстваў не ўзяў, адмовіўся пісаць у насценную газету, хоць нампаліт штодзень не даваў яму спакою. Ён не думаў, што яму трэба абавязкова, любым чынам, не дасыпаючы і не даядаючы, перагнаць свайго суперніка. Не, Алёша, калі яму не напаміналі, нават забываўся аб выкліку, працаваў па-ранейшаму напружана, але роўна і за штурвалам па-ранейшаму больш думаў пра законы механікі.

Дзён праз дзесяць яму паведамілі, што ён «пабіў» Старасельца і ідзе першым у вобласці. Гэта быў неспакойны дзень: увесь час перашкаджалі працаваць. Прыязджалі кіраўнікі МТС, поўны «газік», нават бухгалтар, віншавалі, жадалі новых поспехаў. Галоўны механік Леанід Харытонавіч цёр ад задавальнення рукі, быццам сам ён зрабіў нешта вельмі прыемнае для сябе і для іншых.

— Ну, трымайся, Касцянок, — гаварыў ён.— Вялікая слава цябе чакае. Не падвядзі нас.

Алёша бянтэжыўся і не ведаў, што адказваць на ўсё гэта. Ён не чакаў такой славы, але было радасна. Пасля прынеслі тэлеграмы ад Старасельца, ад райкома комсамола, ад брата, які ў гэты дзень быў у самым далёкім сельсовеце зоны. Пазней галоўны механік прывёз тэлеграму ад райкома партыі. Упоўдзень прыехалі карэспандэнты абласной газеты. Іх было трое. Адзін з іх здымаў Алёшу, камбайн, Алёшу на камбайне, камбайн за працай, бястаркі. Убачыўшы прыязныя адносіны Каці да маладога камбайнера, зняў іх абодвух на мастку. Другі ўсё распытваў, як Алёша дамогся сваіх поспехаў, якія метады працы прымяняў, як даглядаў машыну, хто перашкаджаў яму і хто дапамагаў, занатоўваў усё ў блакнот, моршчыўся і ўздыхаў, няйначай незадаволены скупымі алёшавымі адказамі. Дапамагаць? Дапамагалі: своечасова падвозяць ваду, гаручае, акуратна разгружаюць бункер. А галоўнае — брат Сяргей кожнай раніцы аглядае машыну, а таму не было ніводнага прастою.

— Ага, брат! Цудоўна! — хуценька пісаў карэспандэнт.

Перашкаджаць? Што магло перашкаджаць? Машына новая, МТС пад бокам, гэта не тое, што ў Краўцах дзе-небудзь, трыццаць кіламетраў ад станцыі, сапсуецца што, дык пакуль прыедзеш ды назад вернешся — двое сутак пройдзе.

Трэці карэспандэнт маўчаў і нічога не запісваў. Слухаў, усміхаўся, прыглядаўся да людзей, цярушыў калоссе пшаніцы і жаваў зерне. Каця, якая ўвесь час па літаратуры атрымоўвала пяцёркі, употай паведаміла Алёшу, што гэта — пісьменнік, і Алёша з цікавасцю назіраў за ім. Калі карэспандэнты, нарэшце, пакінулі яго ў спакоі, пісьменнік ціпком спытаў:

— Прызнайся, кахаеш гэтую дзяўчыну? — і кіўнуў на фурманкі, на якіх ад'язджала Каця.

Алёшу так збянтэжыла і так здзівіла гэтае нечаканае і, здавалася яму, недарэчнае пытанне, што ён не мог вымавіць слова, пачырванеў увесь, да мочак вушэй, утаропіў вочы ў незапылены жоўты чаравік пісьменніка.

— Будзь мужным, Аляксей!

Ён крутануў галавой: не!

— Не кахаеш? Значыцца, кахаеш другую. Так? — не адставаў пісьменнік.

Алёша ўзлаваўся. Якая яму справа? Чаго ён суне нос у чужую душу? Раскажы яму, каго кахаеш, каго ненавідзіш — а ён заўтра ўсё гэта ў апавяданне ці яшчэ горш — у нарыс. Ведаем мы вашага брата! Уласнай фантазіі бракуе, дык выпытваеце ў людзей... Аднак неяк-жа трэба адчапіцца ад яго. Алёша падняў галаву і дзёрзка адказаў:

— Кахаю. А вам што да гэтага?

Пісьменнік засмяяўся.

— Нічога. Я сам, брат, кахаю, і мне прыемна, што не адзін я гэтакі на свеце.

Адвячоркам да камбайна прышоў Даніла Платонавіч. Працаваў Аляксей далёка ад вёскі, і яго здзівіў прыход старога настаўніка. Ён нават разгубіўся і не ведаў, што лепш зрабіць: прывітацца проста з пляцоўкі, не спыняючы камбайн, ці спыніцца. Каб Даніла Платонавіч проста гуляў па сцежцы, то, магчыма, Аляксей праехаў-бы міма. Але настаўнік стаяў на іржышчы, яўна чакаючы яго. І Аляксей спыніў машыну воддаль, саскочыў з мосціка і пайшоў яму насустрач. Крокаў за колькі зняў сваю зашмальцаваную кепку і па-вучнёўску ціха і паважліва прывітаўся:

— Добры дзень, Даніла Платонавіч.

— Добры вечар, Алёша, добры вечар,— глянуў настаўнік на сонца і працягнуў руку.

Аляксей збянтэжыўся яшчэ больш: за руку ён вітаўся з Данілам Платонавічам упершыню. Настаўнік даволі моцна сціснуў яго руку, доўга не выпускаў яе і пільна заглядаў у твар, нібы хацеў пазнаць, ці той гэта Алёша Касцянок, які яшчэ зусім нядаўна, гады тры-чатыры назад, падлажыў пад ножкі крэслаў у настаўніцкай капсулі.

— Малайчына,— проста сказаў Даніла Платонавіч, пераводзячы позірк на камбайн і поле.— А пшанічка — дрэнь, Махнач толькі выхваляецца.

— Шэсць цэнтнераў з гектара. Жыта было лепшае,— аўтарытэтна паведаміў Аляксей.

— Лёгка ўбіраць такую збажыну, праўда?

— Лёгка,— да наіўнасці шчыра прызнаўся камбайнер.

— Та-ак,— Даніла Платонавіч хвіліну моўчкі аглядаў машыну, потым нечакана спытаў: — Ну, а пра славу сваю што ты думаеш?

— А нічога,— зноў-жа проста і шчыра адказаў юнак.

— Сур'ёзна — нічога?

— Але.

— Нічога — гэта не самае лепшае, безумоўна, аднак лепш, чым задзіраць нос і думаць, што ты пуп зямлі.

Алёша не ведаў, што ў гэты-ж вечар два чалавекі працавалі за яго ў райкоме — пісалі пісьмо-зварот ад яго імя да ўсіх камбайнераў вобласці. Ідэя гэтая належала Бародку. Ён паклікаў загадчыка парткабінета Вараб'ёва і інструктара Шапавалава, падрабязна растлумачыў, што трэба зрабіць.

— Напісаць, безумоўна, цёпла, прачула... Падзяліцца вопытам работы, догляду за машынай. Само сабой разумеецца, адлюстраваць, якую дапамогу аказаў комсамол, партыйная арганізацыя.

Вараб'ёў паспрабаваў пярэчыць:

— Няхай-бы сам напісаў. Хлопец дзевяць класаў скончыў.

— Яго справа працаваць,— спакойна, але цвёрда перапыніў Бародка.— Пісаць — наш з вамі абавязак. Заўтра паедзеш, Шапавалаў, у Крыніцы: Касцянок падпіша пісьмо.

Але пісьмо не было падпісана.

Раніца наступнага дня выдалася бязросная, і Аляксей пачаў працу разам з усходам сонца. Спачатку ўсё ішло як мае быць; роўна, але кожная на свой, знаёмы да драбніц, голас, гудзелі часткі машыны, весела спявала сэрца камбайнера.

Але гадзін у дзевяць Пятро крыкнуў:

— Лёша! Па-мойму, недамалот. Паглядзі.

Аляксей спыніў машыну, праверыў салому і мякіну і знайшоў, што малатарня сапраўды вымалачвае нячыста, у калоссях застаюцца зерні пшаніцы. Гэта здавалася тым больш дзіўным, што пшаніца была сухая і пераспелая, вымалачвалася лёгка. Пачалі шукаць прычыну. Алёша адрэгуляваў зазоры паміж планкамі секцый падбарабання і бічамі барабана — першае, што робіцца ў такіх выпадках. Папрацаваў хвілін колькі, праверылі з Пятром—зноў недамалот. Больш таго, цяпер у гуле малатарні пачуліся нейкія незнаёмыя стукі. Алёша спалохаўся і доўга правяраў, падцягваў, змазваў. Павялічыў абароты барабана. Паспрабаваў працаваць на розных хуткасцях. Адным словам, зрабіў усё, чаму вучыў брат і падручнікі па сельскагаспадарчых машынах. Але нічога не дапамагала. Камбайн пасля ўсіх гэтых рэгуліровак працаваў яшчэ горш. Аляксей злаваўся на сваю няздатнасць. «Рэкорды ставіш, а машыну не ведаеш... Герой! І Сяргея, як на злосць, няма».

Гонар не дазваляў яму звярнуцца ў МТС да каго-небудзь іншага, акрамя брата. Ды і няма там лепшага механіка, чым Сяргей.

Абліты потам, замурзаны, знясілены ад



злосці і стомы, ляжаў ён пад машынай, калі на матацыкле падляцеў інструктар райкома Шапавалаў. Хоць ён паабяцаў Бародку выехаць у Крыніцы на досвітку, але, завалодаўшы матацыклам, не ўтрымаўся ад спакусы заехаць да сваёй сям'і, якая жыла кіламетраў за пятнаццаць у баку ад яго службовага маршруту. Безумоўна, што чалавек дома затрымаўся і цяпер жадаў фарсіраваць справу. Не злазячы з матацыкла, паклікаў:

— Касцянок! Дзе ты тут? Вылазь!

Аляксей нехаця вылез з-пад камбайна.

— Прывітанне герою! Тэрміновая справа да цябе, брат. Ведаеш мяне? З райкома.

Ён дастаў з палявой сумкі некалькі аркушаў добрай паперы, сшытых бліскучай скрэпкай.

— Вось, брат, трэба тэрмінова падпісаць,— і палез у кішэню за самапіскай.

Аляксей працягнуў руку за паперамі, але Шапавалаў спалохана адхапіў іх.

— Чакай! Ты мне ўсё запэцкаеш... Ну, і мурзаты-ж ты, брат. Мабыць, усю ноч працаваў, а?

Аляксей вінавата ўсміхнуўся, выцер рукі аб штаны і запэцкаў іх яшчэ больш.

— Дакумент гэты гістарычнай важнасці. Станавіся вось тут і чытай,— Шапавалаў палажыў аркушы на сумку.

Аляксей прачытаў першыя радкі надрукаванага на машынцы тэксту і здзіўлена глянуў на упаўнаважанага.

— Што гэта?

— Як— што? Тваё пісьмо, зварот, у якім ты дзелішся сваім вопытам... заклікаеш другіх...

Аляксей сапраўды нічога не разумеў.

— Навошта?

— Як навошта?— у сваю чаргу здзівіўся Шапавалаў і, вырашыўшы, што хлопец па сваёй маладосці сапраўды не разумее значэння ўсёй гэтай справы, пачаў цярпліва тлумачыць:— А як-жа інакш? Ты паставіў рэкорд, працуеш лепш, чым другія, прымяніў нейкія новыя метады... Магчыма, што і надалей табе хочацца застацца першым. Калі ласка!.. Але ў нашай, брат, савецкай краіне перадавікі не хаваюць сваіх метадаў працы. Яны павінны перадаваць іх другім, падымаць масы... А ты як думаў? Бо інакш які-ж ты перадавік?..

Аляксей, нарэшце, без далейшых тлумачэнняў, зразумеў, што ад яго патрабуецца, і цвёрда адказаў:

— Нічога я падпісваць не буду!

Хваля злосці і крыўды зноў захліснула яго.

— У мяне вунь камбайн стаіць.

— Паломка?— спалохана глянуў на машыну Шапавалаў.

— Дайце матацыкл, я ў МТС злётаю.

І разгублены інструктар, які пры любых іншых абставінах нікому не даверыў-бы райкомаўскі матацыкл, паслухмяна злез з сядзення і пашкадаваў аб гэтым толькі тады, калі ўбачыў, як камбайнер паехаў — не паехаў, а паляцеў куляй.

У канторы Аляксей застаў толькі галоўнага механіка Баранава; той праявіў не ўласцівыя яму энергічнасць і заклапочанасць. Не даслухаўшы Аляксея, кінуў усе справы, схапіў шапку.

— Паехалі. Мы з табой, Касцянок, не маем права ні хвіліны стаяць. На нас уся вобласць глядзіць.

Галоўны механік, як ніколі, быў вясёлы, узбуджаны. Але за дарогу ад сядзібы да камбайна папсаваўся яго настрой— Аляксей вёз так, што ў яго зляцела шапка, аднак ён не адважыўся якім-небудзь рухам ці крыкам папрасіць спыніцца. Ён узвышаўся на заднім сядзенні, быццам на калку, доўгі, няскладны, згорблены, з пабялелым тварам і пасінелымі пальцамі рук, якімі ўчапіўся за поручні. Ён баяўся глянуць у бакі і дрэнна пазнаваў прадметы, што пралятаді міма. Адна думка стукала ў галаву: «Заб'е, сабачы сын, заб'е...»

Каля камбайна, акрамя Шапавалава і Пятра, яны ўбачылі старшыню калгаса Махнача, прысадзістага таўсцяка з шырокім пунцовым тварам. На шчоках яго вельмі ярка, быццам праз шкло, прасвечваліся жылкі, а маленькія вочкі былі заўсёды прыплюшчаны, нібы чалавек толькі што прачнуўся. Памяты саламяны капялюш і доўгая вышытая сарочка, падпяразаная вузенькай папружкай, запыленая на плячах, надавалі яму выгляд чумака. Ён стаяў каля вазка, на якім прыехаў, і, сашчапіўшы на жываце рукі, круціў вялікімі пальцамі.

Конь, нечым нагадваўшы гаспадара, ківаў галавой. Махнач прывітаўся, не падняўшы вачэй і не глянуўшы ні на Баранава, ні на Аляксея.

— А я думаў, Сцяпанавіч, скончым сёння пшанічку — у трэцюю брыгаду пераедзем.

Аляксея ўзлавалі яго словы.

Баранаў пакорпаўся колькі хвілін у машыне, сеў за штурвал і даволі-такі добра (адзначыў Аляксей) павёў камбайн. Следам за ім ехаў на матацыкле Шапавалаў, на фурманцы — Махнач. Аляксей ішоў пешшу, затрымліваючыся каля выкінутай капніцелем саломы. Нічога не змянілася: вымалат дрэнны. Крыкнуць, каб спыніўся, не губляў дабро! Але Баранаў спыніўся сам у канцы поля.

— Камбайн працуе нармальна,—сказаў ён і выцер саломай рукі, як-бы кажучы гэтым: я свой абавязак выканаў.

— Нармальна?— здзівіўся Аляксей.— А вы загляньце ў салому! Колькі там зерня застаецца!

Усе падышлі да саломы, пачалі разграбаць яе, мяць у руках. Баранаў начапіў акуляры.

— Я чалавек сляпы, а таму нічога не бачу. Дзе-ні-дзе пустое зярнятка... На маю думку, нармальны працэнт страты. Як па-вашаму, Патап Міронавіч?— звярнуўся ён да старшыні.

Махнач лагодным голасам сказаў да Аляксея, нібы жадаючы ўлашчыць яго:

— Сцяпанавіч, два дні прастаіць — больш страцім. Або, помніш, жняяркамі жалі... Столькі хіба трацілі?..

— Таму і без хлеба былі,— узлавана адказаў Аляксей.

— А калі не ўбярэм за пагоду — колькі патрацім!— па інерцыі скончыў Махнач думку, потым змоўк, выцер бруднаватай хусткай успацелую лысіну і задумаўся. Твар яго стаў суровым, і ён ужо злосна адказаў на аляксееву



## УРАЧЫСТЫЯ ХВІЛІНЫ

У прасторным пакоі Варашылаўскага райкома камсамола горада Мінска людна. Сюды штодзённа прыходзяць камсамольцы — маладыя рабочыя, студэнты, вучні. Ва ўсіх святочны настрой, узбуджаныя, радасныя твары. Чуваць ажыўленая, вясёлая гамонка.

Ідзе абмен камсамольскіх дакументаў.

— Дзяўчаткі, нас выклікаюць! — гукнула Тамара Шаўкуновіч, рослая бялявая дзяўчына ў цёмнай форменнай сукенцы, да сваіх сяброван і сама першай хутка ўвайшла ў кабінет сакратара райкома.

— Тамара Шаўкуновіч, — урачыста гаворыць сакратар райкома камсамолка Ірына Кулен-чык. — Віншую цябе з атрыманнем новага камсамольскага білета. Жадаю поспехаў у вучобе і працы на карысць савецкай Радзімы!

Камсамолка адказвае моцным, шчырым поціскам рукі.

З новымі камсамольскімі білетамі з кабінета выходзяць тамарыны сяброўкі — навучэнцы рамеснага вучылішча № 5 паліграфістаў Вера Пучко, Ала Вінаградава, Грэта Ткач...

Радасныя і ўсхваляваныя, дзяўчынкі з цікавасцю разглядаюць новы камсамольскі білет — цёмначырвоную кніжачку. Зверху на яе вокладцы сілуэт Уладзіміра Ільіча Леніна, ніжэй надпіс — Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі. На першай старонцы чатыры ордэны, якімі ўзнагароджаны Ленінскі камсамол за баявыя і працоўныя подзвігі, за самаадданае служэнне Радзіме.

Камсамольскі білет!

Яго трымалі ля сэрца Аляксандр Матросаў і Зоя Касмадзям'янская, Юры Смірноў і Ліза Чайкіна. З камсамольскім білетам тысячы маладых патрыётаў паехалі на асваенне цаліны. На рыштаваннях новабудоўляў, фабрыках і заводах, на неабсяжных калгасных палях, — усюды, дзе кіпіць стваральная праца, — у першых радах ідуць юнакі і дзяўчаты з агністым значком «ВЛКСМ» на грудзях.

Камсамолец — гэта ўвасабленне запаветнай мары савецкай моладзі, сімвал мужнасці і аддання служэння Комуністычнай партыі, савецкаму народу.

З пачуццём законнай гордасці і вялікай адказнасці перад Радзімай атрымліваюць юнакі і дзяўчаты новыя камсамольскія білеты. Беручы ў рукі дарагую сэрцу чырвоную кніжачку, маладыя патрыёты даюць клятву — быць перадавымі змагарамі за вялікую справу комунізма.

Маладыя рабочыя заводаў «Ударнік», імя Молатава, паліграфічнага камбіната атрымлівалі новыя камсамольскія білеты ў незабыўныя дні работы XX з'езда КПСС.

— Будзем працаваць так, як належыць камсамольцам, — у адзін голас заявілі яны. — З гонарам апраўдаем высокае званне члена ВЛКСМ.

Гэта — голас гарачых камсамольскіх сэрцаў.

На здымку: сакратар Варашылаўскага райкома ЛКСМБ г. Мінска Ірына Куленчык уручае камсамольскі білет лепшай вучаніцы рамеснага вучылішча № 5 Тамары Шаўкуновіч. На пярэднім плане вучаніцы гэтага вучылішча Ала Вінаградава і Вера Пучко.

Фото С. Чырэшкіна.

рэпліку: — А без хлеба — гэта ты брэшаш... Без хлеба вы пры мне не сядзелі.

Сказаў, павярнуўся і пайшоў да вазка: разбірайцеся, моў, самі, не з мяне, а з вас спытаюць за прастой камбайна!

— Дык вы лічыце, што машына ў парадку? — спытаў Шапавалаў Баранава. Той пацiснуў плячамі.

— У машыны свае магчымасці. Яна працуе, як працавала з першага дня...

— Няпраўда! — рашуча запярэчыў Аляксей. — Раней яна не губляла ні зярнятка.

— Гэта вам здаецца. Вы першы раз праверылі.

— Я першы раз праверыў? — абурыўся Аляксей. — Я сёння раніцай правяраў. Вось Пятро першы заўважыў... Выклікайце Сяргея!

Баранаў не любіў маладога механіка, і прапанова выклікаць яго, каб ён адрамантаваў камбайн, закранула яго самалюбства. «Братам казырае... А брат на маё месца цэліць, на кожным сходзе дапякае...»

— Вы, Касцянок, малады чалавек... У вас галава закружылася.

— Сапраўды, — падхапіў Шапавалаў. — Што-ж гэта вы, таварыш Касцянок! Мы вас падтрымлівалі, выцягвалі... А вы нас падводзіце! Ды ведаеце вы, што ад вашага прастою дзяржава страціць у дзесяць разоў больш, чым застаецца там, у саломцы!

Аляксею стала смешна, як угаварваюць яго гэтыя два сталыя дзядзькі, і ён усміхнуўся. Шапавалаў зразумеў усмешку па-свойму і пасяброўску стукнуў хлопца па плячы.

— Садзіся, Аляксей Сцяпанавіч, і ціскані... здзіві свет... Каб ворагам млосна стала... А сябрам радасна! Падпісвай пісьмо. Заклікай!

— Нічога я не буду падпісваць і не сяду, пакуль не адрамантуюць, — панура адказаў хлопец і адышоў на другі бок камбайна. Шапавалаў гэтак-жа моўчкі, як Махнач, накіраваўся да свайго матацыкла. Праз момант на ўсё поле затрашчаў матор. Інструктар імчаўся ў напрамку МТС.

— Што-ж, паглядзім яшчэ раз, — затаіўшы крыўду і злосць на гэтага хлапчука, прымірэнча прапанаваў Баранаў. Яны пачалі шукаць пашкоджанне.

А Шапавалаў у гэты час шукаў па тэлефону Бародку. Яму пашанцавала знайсці сакратара ў канторы «Загатзбожжа». Ён падрабязна паведаміў усё, што здарылася, і ў заключэнне зрабіў свой вывад:

— Баюся, Арцём Захаравіч, каб тут не папрацаваў вораг.

У адказ Бародка вылаяўся: ён не любіў дурняў і вельмі добра ведаў сям'ю Сцяпана Касцянка. Але замест таго, каб проста сказаць пра гэта інструктару, сурова спытаў:

— А вы навошта там? — і гэтак-жа сурова загадаў: — Неадкладна забяспечце бесперабойную працу камбайна! І каб праз дзве гадзіны пісьмо ляжала ў мяне на стале. Зразумела? — і кінуў трубку.

З ваяўнічым настроем Шапавалаў паімчаўся назад у поле.

Камбайн стаяў.

Пасля яшчэ адной спробы галоўны механік і сам пераканаўся, што машына сапраўды-такі няспраўная. Але ён не мог знайсці пашкоджання і, пасаромлены, узлаваны не менш, чым Шапавалаў, думаў, як, не зганьбіўшы канчаткова свайго аўтарытэту, збегчы ад гэтай справы, вярнуцца ў кантору і па нейкай зусім іншай, выдуманай прычыне выклікаць Касцянка-старэйшага. Няхай разбіраюцца самі! Недарма ён, Баранаў, быў супроць таго, каб гэтаму хлапчуку давяралі камбайн. «Як нахабна ён глядзіць на мяне... Смяецца ў душы, блазнюк, што я нічога не магу зрабіць»...

Аляксей не смяяўся: здольнасці галоўнага механіка ён ведаў даўно. Яму проста было прыкра і крыўдна.

Баранаў узрадаваўся з'яўленню Шапавалава і змаўчаў, калі інструктар загадаў Аляксею неадкладна пачаць працу.

— На камбайне працаваць нельга, — спакойна заўважыў Аляксей. Шапавалаў закіпеў:

— Ты адкуль узяўся гэтакі прафесар? Механік кажа, што можна, а табе — нельга! Ведаем мы гэтае «нельга»! Старыя штучкі антымеханізатараў! — Але, мабыць, успомніўшы, што яму давядзецца яшчэ мець гутарку з гэтым упартым юнаком наконт пісьма, знізіў тон, стаў больш ветлівым і лагодным: — Вы,



Касцянок, малады чалавек, і вам невядома, чым такія рэчы пахнуць...

— Чым? — спытаў зацікаўлены Аляксей.

— Чым? За зрыў уборкі ў такі гарачы час — размова кароткая: пад суд!

— Мяне пад суд? — Аляксею стала смешна.

— А ты што думаў? Цябе дык па галоўцы будуць гладзіць? Герой знайшоўся!

Усмешка знікла з аляксеевага твару. Ён глянуў на Баранава, але той адвярнуўся, быццам яго не чуў, пра што ідзе размова. У хлопца ў вачах заскакалі шалёныя агеньчыкі і сціснуліся мурзатыя кулакі.

— Не будзьце дурнем, Касцянок, — мяняў тон Шапавалаў.

Аляксей зрабіў да яго крок і ўдарыў сябе кулаком у грудзі.

— Няхай я буду дурнем... А вы, разумнікі... І пайшлі вы... — ён вылаяўся груба, па-мужчынску, і, павярнуўшыся, шпарка закрочыў па іржышчу куды глядзяць вочы.

Ён не помніў, колькі часу ляжаў тут, на сухім пясчаным беразе рэчкі. Яго прывяла сюды выпадковая думка: выкупацца, змыць з сябе ўвесь бруд, мазуту і пайсці дадому. Але жаданне гэтае знікла, калі ён падышоў да рэчкі. Аляксей адчуў стомленасць, нейкую абыякавасць да ўсяго навакольнага, лёг на траву, і, закінуўшы рукі пад галаву, глядзеў у бяздонны блакіт неба. На душы было вельмі пагана, так пагана, што хацелася плакаць. Асабліва цяжка рабілася, калі ўспамінаў, як ён вылаяўся. Праваліцца-б скрозь зямлю ад сораму і ганьбы! Лепшы вучань, спакойны, ураўнаважаны, ад якога дрэннага слова ніхто не чуў, і раптам — такая непавага да старэйшых. Няхай Баранаў бяздарны механік, тупы і абмежаваны чалавек, але ў яго сівыя скроні, і дзеці ў інстытутах вучацца. А гэты другі? Хоць ён і маладзейшы за Баранава, але-ж — прадстаўнік райкома... А ён, блазнюк, адважыўся так вылаяцца... Брыдка ўспамінаць словы, якія вырваліся ў яго. А яшчэ цяжэй было ад думкі, што цяпер, безумоўна, яго і блізка не падпусцяць да камбайна. А як хочацца працаваць! Ажно рукі свярбяць! Ён заплюшчыў вочы і бачыў свой прыгажун-камбайн і бясконцыя плошчы пшаніцы. Пшаніца ўяўлялася высокая, каласістая — куды лепшая за тую, якую ён убіраў дагэтуль. А Пятро, маўчун, і слова не вымавіў, быццам і не было яго. Што ён раскажа Каці, сябрам? Прыедуць бястаркі, а камбайн стаіць. Дзе Алёша? Выгналі. Выгналі за грубасць, самаўпэўненасць. Заганарыўся, зазнаўся. Па ўсёй вёсцы размова пойдзе!..

Невядома, колькі-б ён яшчэ ляжаў гэтак, каб не пачуў раптам знаёмы смех і голас. Аляксей падняў галаву. Пауз рэчку па сцежцы ішла Раіса, Арэшка (вучні скарачалі прозвішча завуча) і незнаёмая дзяўчына, мабыць, новая настаўніца.

У хлопца моцна забілася сэрца. Яму даўно хацелася пагутарыць з Раісай, але ён ніяк не мог сустрэць яе, хоць апошнія дні ўвечары і прыходзіў у вёску, хадзіў пад вокнамі яе хаты. Звычайна ён палічыў-бы за лепшае схавацца, каб не трапляць на вочы Арэшку. Але сёння ў яго быў незвычайны дзень, і сам ён стаў незвычайны, нейкі новы, рашучы, нястрымны.

Калі яны прайшлі міма, ён падняўся і смела паклікаў:

— Рая! Можна цябе на хвілiначку? Два словы.

Яны ўсе агледзеліся, але Арэшкін і настаўніца пайшлі далей. Раіса спынілася, пачырванела і разгублена пазірала то на яго, то ўздагон сваім новым сябрам, вагаючыся ад няведання, што больш прыстойна — размаўляць з ім ці даганяць іх.

— Гуляем? — дзёрзка і насмешліва спытаў Аляксей, наблізіўшыся.

Раіса не адказала, і ён раптам разгубіўся мацней, чым нават яна. Праўда, ён не хаваў вачэй, ён не мог адарваць ад яе позірку, не мог не любавацца ёю. Здаецца, ніколі яшчэ не выглядала яна такой прыгожай. Як пасавала да яе і вышываная сукенка, і кветка герані ў маленькай кішэньцы, і нават простыя жоўтыя тапачкі!

— Я хацеў пагутарыць з табой, Рая, — ужо зусім нясмела сказаў ён. — Я даўно хацеў спаткаць цябе, але-ж ты... занятая, табе няма часу...

Яна падняла галаву, і позіркі іх сустрэліся. Яна зразумела яго па-свойму.

— Ты папракаеш, што я не працую... Але-ж я не ўмею на камбайне... І не хачу! У кожнага свой талент...

— Ды я не пра гэта. Я сам кінуў камбайн....

— Кінуў?

— Я, ведаеш, Рая... Мне страшэнна не падабаецца, што гэты прылізаны смоўж,—кіўнуў ён у бок Арэшкіна,—гэты Хлестакоў жыве ў вас...

— Ой!—жахнулася яна.—Гэта так аб настаўніку сваім! Мабыць, ад Бушыла навучыўся!

— Навошта ты пусціла яго? — —пагрозліва спытаў Алёша.

— Я пускала! Чаго ты прычапіўся да мяне? Не я яшчэ ў хаце гаспадыня. Маці...

— Няпраўда! Каб ты не захацела, маці ніколі не пусціла-б. Ты-ж камандуеш маці.

— А якая твая справа? Чаго ты сунеш нос?..

— Рая! Ты ведаеш,—ён памкнуўся да яе, працягнуў рукі, каб узяць яе руку. Але яна грэбліва адхілілася, паморшчылася.

— Адчапіся. Хаця-б памыўся. На цябе брыдка глядзець.

Гэтыя яе словы так балюча пеканулі Алёшу, што ён анямеў ад крыўды, у горле захрас салёны камяк, а вочы напаўняліся слязамі. Раіса пачакала, што ён скажа яшчэ і, не дачакаўшыся і нічога не ўбачыўшы, пачала дага-



няць сяброў. Але не зрабіла яна і трох крокаў, як Алёша ў роспачы выгукнуў «Эх!» і з усяго разгону кінуўся з крутога абрыву ў вір.

Рая пачула, як усплёснула вада, павярнулася і ўбачыла ў рэчцы хвалі-кругі, тлустыя плямы ды алёшаву запэцканую ў мазуце кепку. Крык спалоху і жудасці вырваўся з яе грудзей.

Арэшкін і настаўніца, якія адышлі ўжо даволі далёка, спыніліся і закрычалі:

— Рая! Што-о там?

Яна не магла вымавіць слова і не зводзіла вачэй з ракі, дзе кружылася кепка. Але раптам ля другога берага вынырнула галава Алёшы. Ён фыркнуў і схапіўся рукамі за галлё ракіты, што нахілілася над самай рэчкай, падцягнуўся; з яго майкі і штаноў зацурчэла вада.

Раіса голасна зарагатала і кінулася бегчы да тых, хто яе чакаў.

Алёша пачуў гэты рогат і, вылезшы на бераг, зноў бязлітасна лаяў сябе. Дурань, дурань! Хлапчук! Ён уяўляў, як Рая расказвае пра размову і пра тое, як ён кінуўся ў рэчку, Арэшкіну і незнаёмай настаўніцы, і згараў ад сораму.

З такімі пачуццямі ён увайшоў у лес, скінуў вопратку, каб прасушыць і, лежачы ў адных трусах, караў сябе ў думках самымі цяжкімі пакараннямі.

Аднак усе гэтыя перажыванні не перашкодзілі яму заснуць, і ён гадзіны дзве смачна паспаў на сонцапёку. Прачнуўся з палёгкай на душы, быццам у сне ўсё забылася. Сонца звярнула з поўдня, паляну закрывалі цені ад магутных дубоў, пад якімі ён ляжаў. Дубы стаялі маўклівыя, паважныя, ні адзін лісток не трапятаўся на іх. Было душна, парыла зямля, шчодра напоеная ўчарашнім дажджом. Стукаў дзяцел. Не давалі спакою мухі.

Раптам Алёша пачуў стракатанне камбайна. У яго закалацілася сэрца! Усё скончана, нехта іншы працуе на яго машыне, а яго больш і блізка не падпусцяць. «Што я нарабіў?»

Ён апрануўся, выйшаў на ўзлесак, да рэчкі, але далей не пайшоў: саромеўся сустрэцца з людзьмі.

Камбайн сціх—і неўзабаве Алёша пачуў каля рэчкі голас брата. Сяргей клікаў яго. У хлопца адлягло ад сэрца: значыцца, працаваў не хто іншы, як Сяргей, і, безумоўна, адрамантаваў камбайн, інакш не шукаў-бы яго, Алёшу. Яму хацелася кінуцца насустрач брату. Але ён стрымаўся, толькі выйшаў з лесу і, прайшоўшы па лузе так, каб Сяргей убачыў яго, лёг пад кустом.

Брат падышоў з нейкім незнаёмым. Невысокі з хударлявым тварам, з выразнымі рысамі і гэткімі-ж выразнымі чорнымі вачамі, якія на першы позірк здаваліся суровымі і калючымі, чалавек гэты пранікліва і пільна прыглядаўся да ўсяго навакольнага. Алёшу падумалася, што гэта яшчэ адзін карэспандэнт ужо з якой-небудзь сталічнай газеты.

— Калі ласка, я так і ведаў, што ён дзе-небудзь вылежваецца і ў вус не дзьме! А я ляцеў з Крыўцоў, — ледзь галаву не скруціў,—з абурэннем сказаў Сяргей, паказваючы свайму спадарожніку на Аляксея. — Работнічкі... На пяць хвілін рамонту, а яны ўвесь раён на ногі паднялі... палітыку развялі...

Алёша маўчаў. Яны селі на траву побач з ім. Незнаёмец, хораша ўсміхаючыся, разглядаў братоў, як-бы параўноўваючы іх, і вочы яго пацяплелі і не здаваліся такімі калючымі. Сяргей, хоць і абураўся, але таксама з цікавасцю глядзеў на Алёшу, быццам не бачыў яго год. Дагэтуль ён лічыў Алёшу хлапчуком, ціхім, сціплым, які нават на малодшых за сябе рэдка павышаў голас. І раптам хлапчук гэты паказаў такія зубы. «Мацюком, сукін сын», — успомніў ён, як абураўся галоўны механік. Сяргей у душы быў задаволены, што Баранаў праглынуў такую пілюлю — так яму і трэба, няўмеку. Але як гэты хлапчук, яго брат, адважыўся так паводзіць сябе з дарослымі? Даравяць яму нельга!

— Ты, брат, аказваецца, афрыканец. Ого! Я і не прыкмеціў, калі ты вырас такі... Ты хутка ўсіх пашлеш... Пасаромеўся-б! Вучань!.. Малако на губах не абсохла!.. Вось папрашу бацьку, каб ён табе паказаў, дзе ракі зімуюць.

Алёшу не хацелася апраўдвацца, але і слухаць было непрыемна, сорамна перад чужым чалавекам. Сяргея можна прымусіць замаўчаць, калі збянтэжыць нечаканым пытаннем. Пра што-б гэта ў яго такое спытаць? І раптам успомніліся карэспандэнты. Алёша лёг на спіну, смачна пацягнуўся, і, усміхаючыся, нечакана спытаў:

— Сярожа, скажы: моцна ты кахаеш Наталлю Пятроўну?

Сяргей папярхнуўся словам, збянтэжыўся да смешнага, пачаў заікацца:

— Ты-ы ллайдак... балббатун!

І раптам, ці знарок ці, можа, для таго, каб захаваць сваю збянтэжанасць, Сяргей павярнуўся і сказаў:

— Ты лепш вось пазнаёмся... Новы дырэктар нашай школы, Міхась Кірылавіч.

Алёша падхапіўся, быццам яго ўкалолі ці прыпяклі, стаў на калені і заліўся чырванню, не ведаючы, што рабіць, як знаёміцца, як пасля ўсяго, што дырэктар ведае, што пачуў тут, глядзець яму ў вочы. Якая суровая кара за ўсе яго сённяшнія ўчынкі!

Лемяшэвіч хітра ўсміхнуўся, відаць, усё зразумеўшы.

— Нічога, Аляксей. Але ад камбайна ты збег дарэмна. Трэба нагнаць прастой... Тут уласнаму прынцыпу не месца, справа грамадская.

— Я... нагнаю, — ціха, па-вучнёўску апусціўшы вочы, паабяцаў Алёша.

— Міхась Кірылавіч будзе сталавацца ў нас,—сказаў Сяргей, каб дапоўніць знаёмства.

Мікола ХВЕДАРОВІЧ

## Байкал

Вятрамі авеяна, сонцам прамыта
Града валуноў прада мной.
Цудоўныя пропісі скал-малахітаў
Пакрыты маўклівай тайгой.

Прывідам сівым, вадаспадам застылі
Абломкі зямной карыны.
Нібы, растапырыўшы шэрыя крыллі,
Глядзяцца ў ваду кажаны.

Тайга расступаецца далей і далей
На ціхі люстраны прагал.
Дзе б'юцца аб скалы крыштальныя хвалі
Цудоўнага мора — Байкал.

Авеяна славай народа вякамі,
Як звер у раз'юшанай стоме ляжыць,
І тыграм кідаецца раптам на камень —
І камень, здаецца, дрыжыць.

О, воды сібірскага слаўнага мора!
У пеннай красе між базальтавых скал
Плыве параход, на карме, як і ўчора,
Сівы баргузін пашавельвае вал.

Плыве, разганяючы хваляў ватагу,
Падводныя скалы стаяць, як мячы.
Пяе радыёла пра тога бадзягу,
Які з Сахаліна хацеў уцячы.

На бераг кіруе, дзе піхта і туя
Убралі квяцістым вянком берагі.
Панурыя горы стаяць Акатуя,
Кайданнага спеву звіняць ланцугі.

На палубе пахне хваёвай падсочкай,
Машыны з пуцёўкай чакаюць пары.
Пагружаны ў трум амулёвыя бочкі
І ціха метровыя спяць асятры.

А дзесьці за берагам скрогат метала,
Гранітныя скалы ляцяць угару.
Грыміць урачыстасць у гонар Байкала
За слаўную дочку яго Ангару.

Я, сэрцам вітаючы наша прадвесне,
Стаю ў задуменні між кручаў і скал.
Пяе радыёла цудоўную песню
Пра слаўнае мора, свяшчэнны Байкал.



**XX з'езд КПСС. Члены Прэзідыума з'езда сярод дэлегатаў ад Беларускай партыйнай арганізацыі.**

Фото А. Усцінава і Ф. Кіслова.



Неяк група маладых людзей, якія працавалі ў розных прамысловых арцелях Мінска, сабралася разам для шчырай размовы. Моладзь выказала жаданне праводзіць частку свайго вольнага часу разам. Усе былі аматарамі выканаўчага мастацтва: хто пачынаючы музыка, хто танцор, хто спявак... З таго часу прайшло дзесяць год. І вось у калектыве Беларускага дзяржаўнага народнага хору мы сустракаем танцораў Лілію Масейчук і Міхаіла Лабанава. На пытанне аб тым, дзе яны атрымалі пачатковую падрыхтоўку, маладыя людзі адказваюць: «У калектыве самадзейнасці промкааперацыі!» Таксама адказалі-б і саліст балету Вільнюскай оперы Юры Латышаў і цэлая група ўдзельнікаў Маладзечанскага ансамбля песні і танца.

Занняткі ў гуртках самадзейнасці рэспубліканскага клуба промкааперацыі вядуцца настолькі сур'ёзна, што дазваляюць гуртkоўцам атрымаць новую прафесію. З вялікім поспехам праходзіць у гуртках калектыўны адпачынак. Шмат год займаюцца ў харэаграфічным гуртку майстар вышывальнай арцелі Якаў Юронак, учотчык металаапрацоўчай арцелі Галіна Жукоўская, шмат год спяваюць у хоры сёстры Зоя і Тамара Галавач — работніцы галантарэйнай арцелі.

Маладыя закройшчыкі і металісты, шаўцы і кухары, шклодувы, мэбельшчыкі, рахункаводы стварылі адзін з лепшых у рэспубліцы самадзейных калектываў. Усе яны, гаворачы аб наведванні свайго клуба, падкрэсліваюць, што заняткі ў гуртках вызначылі іх культурныя запатрабаванні, дапамаглі ім стаць актыўнымі грамадскімі работнікамі. І, вядома, яны назаўсёды адчулі немагчымасць быць у шэрагах адстаючых або нават «серадняко ў» на вытворчасці.

За дзесяць год існавання калектыў даў каля 800 канцэртаў. Тут і выступленні ў сваім клубе, у чырвоных кутках сваіх арцеляў, і выезды на буйныя прадпрыемствы рэспублікі, і ўдзел у вялікіх грамадскіх святах. Спевакі, танцоры, чытальнікі, музыкі з мінскага клуба промкааперацыі выступалі і на сцэнічных пляцоўках Масквы, Ленінграда. Кіруемыя вельмі кваліфікаванымі і вельмі ўлюбёнымі ў сваю справу людзьмі, яны слаўна адзначылі дзесяцігоддзе калектыву. Вялікая група з іх за паспяховую і плённую дзейнасць узнагароджана граматамі ЦК ЛКСМБ.







На нашых здымках паказана некалькі эпізодаў заняткаў гуртkоўцаў. На баяне іграе мэбельшчык арцелі імя Дзімітрава Мікалай Рабікаў. Малдаўскі танец «Жок» выконваюць вышывальшчыцы арцелі «20 год Кастрычніка» Ларыса Равяка і закройшчык шавецкай арцелі імя Чкалава Міхаіл Гольдберг: музычнае суправаджэнне — баяніст клуба Уладзімір Чысцякоў. Польскі «Кракавяк» развучваюць рахункавод арцелі «Чырвоны металіст» Елена Фалькоўская і музычны майстар арцелі «Мехбытрамонт» Леанід Сліжэўскі. Вясёлыя частушкі рэпетыруюць работніца шавецкай арцелі «Стаханавец» Елена Казакова (злева) і кухар гарадской сталовай № 3 Ніна Іванова.

Тэкст і фото А. Дзітлава.



Н. Раманенка рыхтуецца да лекцыі.

# У нас, у Лісках...

АДНОЙЧЫ—гэта было ў пазалеташнім годзе—настаўнікі нашага Ліскаўскага сельсовета вярталіся з раёна, з семінара сельскіх лектараў. Настрой ва ўсіх быў добры—нас не крытыкавалі, а нават сяды-тады ставілі ў прыклад.

На поўдарозе машыне, у якой мы ехалі, прышлося спыніцца. Насустрач ехала вяселле. І тут наш добры настрой прапаў. На пярэднім возе сядзела нявеста—камсамолка Ларыса Гаўрыс. Яна ехала вянчацца ў царкву.

Нам, настаўнікам, людзям, якія не аднойчы выступалі перад моладдзю з лекцыямі аб шкодзе рэлігійных забабонаў, прышлося праглынуць горкую пілюлю. Само жыццё дало нам наглядны ўрок таго, што ў антырэлігійнай прапагандзе нехапала чагосьці вельмі істотнага, важнага.

Гэты выпадак здарыўся даўно. З таго часу многае перамянілася ў нашай рабоце. Многія сельскія лектары зразумелі, што трэба дабівацца дзейснасці культурна-асветнай работы, трэба змагацца за яе рэальныя вынікі.

У нас, у Лісках,—добры клуб. Пры клубе даволі багатая бібліятэка. Працуюць гурткі харавы, драматычны, танцавальны. Кожнае свята сваімі сіламі мы выступаем з мастацкай самадзейнай праграмай. Хапіла ў нас сіл нядрэнна паставіць многія сцэны з п'есы А. Макаёнка «Выбачайце, калі ласка». Правялі канферэнцыю чытачоў па кнізе В. Лацiса «Да новага берага».

Адным словам, мы дабіліся, што кожны тыдзень, і ў нядзелю абавязкова, у клубе праводзіцца якое-небудзь мерапрыемства. Раз-два ў тыдзень дэманструецца кінофільм. Намнога палепшыла сваю работу лектарская група, якая створана пры сельскім клубе. Лекцыі на навукова-папулярныя і антырэлігійныя тэмы сталі частай з'явай. Пры гэтым лекцыі аб шкодзе рэлігійных забабонаў мы стараемся чытаць напярэдадні розных рэлігійных свят. Так перад апошнім вялікаднем была прачытана лекцыя «Міф аб Хрысце». Гэтая лекцыя выклікала цікавасць у насельніцтва, і асабліва ў моладзі. Нам задавалі вельмі шмат пытанняў.

У вёсцы склаўся пастаянны круг лектараў. Найбольшым поспехам карыстаюцца лекцыі Надзежды Мікалаеўны Перапечка, Пятра Пятровіча Сакалоўскага, Любові Міхайлаўны Макарэня. На тэмы аб дружбе, каханні, таварыскасці часта выступаю я.

Цяпер мы самі — настаўнікі-лектары ўвачавідкі ўбачылі, што моладзь ахвотна ідзе ў клуб. Але пажылыя калгаснікі па-ранейшаму былі рэдкімі гасцямі ў клубе. Па-ранейшаму ў прастольныя святы—на веснавога Юр'я і на Пакровы — на работу выходзіла вельмі мала людзей. Трэба было шукаць новыя формы і метады, каб зрабіць адчувальным наш уплыў і на дарослае насельніцтва.

Гэтай мэце па лініі школы мы падпарадкавалі бацькоўскія сходы. На іх актыўна вялася антырэлігійная прапаганда. Клуб у сваю чаргу набыў некалькі камплектаў даміно, шашак, шахматаў. Бібліятэка абсталявала стэнды навукова-папулярнай, палітычнай літаратуры, была аформлена фотавітрына.

І яшчэ мы актыўна ўзяліся за адну вельмі карысную справу—за распаўсюджванне газет і часопісаў. Мы заходзілі ў хаты да калгаснікаў, размаўлялі, чыталі газеты. Цяпер газету мае кожны калгаснік. І калі наша паштовае аддзяленне атрымала прэмію за распаўсюджванне друку—гэта было і нашым святам.

Пасля ўсёй гэтай работы можна было бачыць і яе вынікі. Фэсты сталі святкавацца менш актыўна. Сёння можна налічыць многа пажылых людзей, якія ў царкву—ні нагой. «Не веру болей папам»,—заяўляе пяцідзесяцігадовы Іосіф Варламавіч Шыбут. Некалі ён быў у ліку «прыкладных» прыхажан. А цяпер у царкву хадзіць перастаў зусім. Стаў цікавіцца газетамі, кнігамі.

Да мяне часта заходзіў пагаварыць і другі калгаснік—млынар Ігнат Андрэевіч Конан. Ён зараз цвёрда трымаецца той думкі, што рэлігія—падман, што карысці ад яе працоўнаму чалавеку няма ніякай.

Мы, людзі, што вядзем у вёсцы асветніцкую антырэлігійную работу, прыходзім да думкі, што рэлігійнасць нават пажылых вяскоўцаў пахіснулася вельмі моцна, што наведванне імі царквы—гэта больш даніна традыцыі, пэўнае схіленне перад знешняй прыгажосцю царкоўнага рытуалу.

З гэтага варта было-б зрабіць сур'ёзныя вывады. Па-першае, нам патрэбна больш дбаць аб тым, каб забяспечыць насельніцтву культурны, змястоўны і разам з гэтым прыгожы адпачынак. А ў нас ёсць клубы, дзе курыць, дзе плююць на падлогу.

У гэтых адносінах у нас, у Лісках, зроблена далёка не ўсё і недахопаў яшчэ багата. Мастацкія выступленні часцей за ўсё «каляндарныя»—да 1 Мая, да Кастрычніка, да Дня жанчын. Трэба зрабіць іх рэгулярнымі. Дрэнна і тое, што не ўсе культурныя сілы вёскі ўключаюцца ў работу.

Трэба зрабіць папрок настаўнікам. Некаторыя з іх імкнуцца абмежавацца толькі чыста педагагічнай дзейнасцю. Не заўсёды такі настаўнік захоча выступіць з лекцыяй, з дакладам. Прыдзе ў клуб, сустрэнецца з якім-небудзь амаральным фактам і спакойна пастараецца яго абыйсці.

Слаба працуе пакуль што і совет клуба. Праўленне калгаса прапануе, напрыклад, закупіць камплект духавых інструментаў, наняць капельмайстра, каб арганізаваць духавы аркестр. Трэба толькі арганізаваць моладзь. Але ў нас пакуль усё яшчэ раскачваюцца.

Не так даўно ў нас было яшчэ адно вяселле. Жаніўся комсамолец Ілля Адарыч, брыгадзір цагельнага завода. Вяселле было сапраўды комсамольскім. Абыйшлося вельмі добра і без царквы. Спявалі песні, іграла музыка, было сапраўднае свята. За апошнія гады ў раёне не «абнаўляюцца» больш абразы, не хадзяць па руках «святыя пісьмы». Гэта пэўны вынік антырэлігійнай работы.

Клецкі раён.

**Н. РАМАНЕНКА,**
**настаўнік Ліскаўскай СШ,**
**сельскі лектар.**

## *Карпаўна*

У вядомай кнізе Пятра Вяршыгары «Людзі з чыстым сумленнем», з якой, напэўна, знаёмы многія нашы маладыя чытачы, расказваецца пра подзвіг партызанкі-разведчыцы Карпаўны.

Сельская настаўніца з Нараўлянскага раёна Аляксандра Карпаўна Дзямідчык, застаўшыся ў часе фашысцкай акупацыі ў вёсцы Махаеды, звязалася з прадстаўнікамі падпольнага абкома партыі і стала партызанскай сувязной.

Напрадвесні 1943 года на Мазыршчыне паявіліся каўпакоўцы. У Махаедах, на кватэры ў Аляксандры Карпаўны, размясціліся разведчыкі. І Карпаўна папрасілася ў атрад. Выканаўшы першае даручэнне, яна была залічана ў разведку.

Калі трэба было паслаць партызанскага сувязнога з пісьмом да камандзіра славацкага палка, які знаходзіўся ў Хойніках, Вяршыгара (ён быў камандзірам разведкі) прапанаваў кандыдатуру Карпаўны.

Смелая разведчыца, рызыкуючы жыццём, прышла ў Хойнікі, у штаб славацкага палка, сустрэлася з падпалкоўнікам Іозефам Гусарам.

— Я прышла да вас, пан падпалкоўнік, ад імя Чырвонай Арміі, — спакойна сказала Карпаўна.

— Якой арміі? — хутка спытаў падпалкоўнік.

— Арміі, якая дзейнічае ў тыле агульнага нашага ворага — у тыле фашыстаў.

— Што вам трэба ад мяне?

— Я хачу, калі вам дорага ваша радзіма, калі вы жадаеце бачыць сваю Славакію вольнай, каб вы паступілі так, як паступіў палкоўнік Свабода.

Карпаўна педала падпалкоўніку пісьмо ад партызанскіх генералаў.

— А вы ведаеце, што я вас за гэта расстраляю?

— Ведала яшчэ тады, калі атрымала заданне аднесці вам пісьмо.

... Потым Карпаўна выконвала яшчэ не адно адказнае заданне. У атрадзе слаўных каўпакоўцаў яна прайшла дзесяць тысяч кілометраў, удзельнічала ў шматлікіх баях.

Калі вораг быў выгнаны з беларускай зямлі, Аляксандра Карпаўна вярнулася на Палессе. Ужо шмат год, як А. К. Дзямідчык працуе дырэктарам рускай сярэдняй школы ў Нароўлі, выкладае хімію.

У Нароўлю, у дом № 21 па Комуністычнай вуліцы, часта прыходзяць пісьмы ад сяброў-каўпакоўцаў. П. П. Вяршыгара прысылае сваю кнігу кожнага новага выдання.

«Аляксандры Карпаўне, чалавеку з самым чыстым сумленнем», — чытаем мы надпіс аўтара.

Яна сапраўды такая — гэтая сціплая маладжавая з твару, з вясёлымі цёмнымі вачамі беларуская жанчына-патрыётка.

На здымку: **Аляксандра Карпаўна Дзямідчык са сваімі дочкамі Наташай і Оляй.**

Фото С. Чырэшкіна.

## *Галасы маладых*



Малады паэт **Мікола Арочка** нарадзіўся ў 1933 годзе на Слонімшчыне ў сялянскай сям'і.

У 1951 годзе ён закончыў Азярніцкую сярэднюю школу і цяпер займаецца на V курсе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна.

З 1951 года вершы М. Арочкі друкуюцца ў газеце «Чырвоная змена» і ў часопісах «Полымя», «Беларусь», «Маладосць». Ніжэй мы змяшчаем новыя вершы маладога паэта.

### Над Прыпяццю

Над Прыпяццю
Густыя травы сцелюцца,
Жыты, як напаказ.
Над Прыпяццю
Сады ўсе і аселіцы,
Нібы ля Шчары ў нас.

Успомніш іх —
І ўсё, што змерыў пешшу я,
Хацеў-бы зноў спазнаць,
А ў тых садах
Антонаўкай даспеўшаю
Аскому зноў нагнаць.

Там падружыцца
Можна з кожнай хатаю,
Сяброў гарачых мець.
І з імі ўзняць
Пласты яшчэ не ўзнятыя
І песні не прапетыя —
Прапець.

### Пакуль малады

Пуцявіну яшчэ ты
няхай не знайшоў.
Ды нязведаных колькі
шляхоў прад вачыма!..
Я зайздрошчу,
хто многа дарог абышоў
І прышоў з багажом за плячыма.
Але часам пачуеш:
«Ды ты не спяшы,
Пажывеш да майго —
прыйдзе вопыт, умельства»...
Гэта значыць — сядзі,
да знямогі пішы
Пра стаптаныя сцежкі маленства.
Я і так на тых сцежках
даволі прадрог...
Дык чаго-ж мне, скажыце,
сядзець ды марудзіць?

Ногі просяцца ў далеч
нязнаных дарог,
Свежасць ніў удыхнуць хочуць грудзі.
Там якраз яшчэ мала
ў мяне дружбакоў,
Самы раз будзе сёння
да іх далучыцца.
Мне ніколі не скласці
гарачых радкоў,
Калі з гэтых дарог маіх збіцца.
Родны край!
Налівай буйным зернем жыты,
Каласуй і красуй
і, як сыну, павер мне:
Не хачу між калоссяў
быць коласам тым,
Што часамі ўзрастае без зерня.

### Каля Вялікай Кракоткі

*Валянціну Таўлаю*

Сюды, на улонне бароў і палян,
Калісь прыязджаў з-за поўсвета
Красой любавацца вяльможнейшы пан
І нават пісаў санеты.

Пісаў, што ў галінках шчабечуць яму
Пра вечнае шчасце сініцы,
Што ўсю прахалоду яму аднаму
Прыносяць лясныя крыніцы.

А той, хто з маленства ў гэтым гаю
І з хвояй і з песняй здружыўся,
Быў рад, пэўна, ў тую пару вераб'ю,
Што часам ля кратаў садзіўся.

Крыніцы мог бачыць хіба толькі
ў сне —
Далёка да сосен кашлатых!..
І з думкай пра іх,
пра цябе, пра мяне
Тады пілаваў вершам краты.

І, пэўна, таму яшчэ з даўняй пары
Мы любім так гэтае месца —
Усё: ад птушынае песні ўгары
Да шышкі калючай на сцежцы.

### Матчына радасць

Не раз мяне прыводзіла дарога
У вёску да бацькоўскага парога,
Але чамусьці ў маці пры сустрэчы
На твары не маршчынку я прыкмечу,
А радасць, што заўжды мяне сагрэе
І, колькі памятаю, — не старэе.

Цяпер, калі спаткаўся зноў з табою,
Адростані дзяцькоў прабегла шмат,
А свецішся ты радасцю такою,
Як, пэўна, дваццаць тры гады назад.

# У ПОШУКАХ СВАЁЙ ТЭМЫ

**Г. КОЛАС**

Заслужанай артыстцы рэспублікі Ліліі Драздовай, якая бліскуча пачала сваю сцэнічную біяграфію з выступлення ў ролі Насці Вярбіцкай у п'есе К. Крапівы «Пяюць жаваранкі», раптам, як кажуць тэатралы, не пашанцавала.

Якія-б ні былі ў гэтым прычыны, але факты застаюцца фактамі: праца над роляй Ніны Зарэчнай у «Чайцы» не ўвянчалася творчай перамогай, выступленне ў фільме «Несцерка» было крокам назад у параўнанні з вобразам Паўлінкі ў аднайменнай кінокарціне.

Аматары прынцыпу «коль хвалить, так сгоряча, а рубить, так уж с плеча» паспяшаліся было зусім перакрэсліць артыстычныя здольнасці маладой артысткі. Пад сумненне былі пастаўлены нават першыя сцэнічныя поспехі, якія лічыліся да гэтага часу бясспрэчнымі. Перад артысткай паўстала неадкладная неабходнасць апраўдаць тое высокае давер'е, якое было аказана ёй прысваеннем пачэсных званняў лаўрэата Сталінскай прэміі і заслужанай артысткі рэспублікі. Трэба было няспынным творчым гарэннем аплаціць тое, што было «дадзена ў крэдыт».

І вось мы бачым дзве працы Л. Драздовай у новым тэатральным сезоне: Галя Давыдава ў спектаклі «У добры час» В. Розава і Лена ў спектаклі «У ціхім завулку» А. Маўзона.

Абедзьве гэтыя гераіні стаяць на парозе самастойнага жыцця, і адной і другой толькі што споўнілася семнаццаць-васемнаццаць год, абедзьве яны—нашы сучасніцы.

Здавалася-б, актрысе зноў пагражае небяспека паўтарэння. Але гэтага не здарылася. Выканаўца знайшла ў абодвух спектаклях удзячны драматургічны матэрыял для стварэння непаўторна індывідуальных характараў сваіх гераінь.

Лена Зарудная ў п'есе А. Маўзона гаворыць аб тым, што ўзмужнеласць прыходзіць да чалавека не з атрыманнем атэстата аб заканчэнні дзесяцігодкі. Развіваючы гэтую думку, можна сказаць, што канчатковае фармаванне асобы адбываецца ў працэсе актыўнага сутыкнення з жыццём, у кіпучым змаганні пачуццяў, узрушаных пэўнымі падзеямі—радаснымі або сумнымі.

Для Галі Давыдавай у выкананні Л. Драздовай такой падзеяй было ўзнікшае раптам пачуццё кахання да Аляксея, які прыехаў з Сібіры. Да сустрэчы з гэтым юнаком Галя, відаць, не задумвалася над такімі празаічнымі пытаннямі, як пачуццё асабістай адказнасці не толькі за свае ўчынкі, але і за паводзіны сваіх таварышаў. Сяброў яна выбірала па вельмі непераканаўчай адзнацы: Вадзім і Андруша здаліся ёй на выпускным вечары вельмі «важнымі»—вось ёй і захацелася ўвайсці ў іх кампанію. Галю ніколькі не бянтэжыла ўсведамленне таго, што Вадзім не пазбаўлены пачуцця кар'ерызму і самалюбёнасці, для яе зусім заканамернай здавалася і няпэўнасць жыццёвых імкненняў Андрэя. Яна была, што называецца, добрасумленнай школьніцай, і толькі.



«Аказваецца, сталасць прыходзіць зусім не з атэстатам, атрыманым у школе». Лена Зарудная — арт. Л. Драздова. (Спектакль «У ціхім завулку».)

Што-ж прыцягвала Галю Давыдаву ў Аляксеі? Выканаўца характарызуе ўзнікшае пачуццё сваёй гераіні як «каханне з першага позірку». Сапраўды, так бывае ў галіным узросце, асабліва, калі ўлічыць яе некаторую эксцэнтрычнасць. Ёй падабаецца ўсё незвычайнае. Незвычайным здаўся Галі і Аляксей—самы звычайны з юнакоў, якія дзейнічаюць у п'есе.

Кіруючыся абавязковым законам акцёрскага мастацтва: **не іграць** пачуцця, а «дзейнічаць, знаходзячыся на падмостках сцэны», артыстка знаходзіць для ролі верныя сцэнічныя задачы. Яе Галя Давыдава на працягу трох актаў імкнецца разгадаць характар Аляксея. Пазнаючы яго маральныя прынцыпы, Галя адначасова пазнае сапраўдную, вялікую, прыгожую праўду жыцця, у яе з'яўляецца жаданне быць лепшай, чым яна была да гэтага часу.

Першым сур'ёзным крокам да ўласнага «ўдасканалення» з боку Галі з'яўляецца тое, што яна актыўна ўключаецца ў спрэчкі, якія разгарэліся сярод юнакоў у сценах аверынскага дома, аб сэнсе жыцця і месцы кожнага ў ім (трэці акт). Па тым, як сочыць Галя—Драздова за паядынкам Вадзіма і Аляксея, мы бачым, што гэтай дзяўчыне ўжо зусім не абыякава, якім шляхам увойдзе ў жыццё яе таварыш: простым ці праз чорны ўваход. Шчырае захапленне сумленнем і сардэчнасцю Аляксея сарвала з яе прыкрую заслону дабрадушша і памяркоўнасці ў адносінах да фактаў адступлення ад высокай маралі савецкага юнацтва. Таму выкрыццё Вадзіма выглядае ў выкананні Л. Драздовай заканамерным этапам узмужнеласці Галі, а не чарговым выяўленнем эксцэнтрычнасці, як гэта здараецца пры пастаноўцы п'есы «У добры час» у іншых тэатрах.

Выкрыўшы Вадзіма, Галя—Драздова тым самым як-бы вытрымала экзамен на атэстат духоўнай сталасці. З гэтай сцэны Галя нібы ўся перайначваецца. Куды дзявалася яе чапурыстая паходка, імкненне абавязкова паставіць свайго сябра ў няёмкае становішча. Па-дзявочы засаромленая, прыходзіць яна развітацца з Аляксеем, які не вытрымаў уступных экзаменаў у Ціміразеўскую акадэмію і ад'язджае назад у Сібір. Чулліва гучыць яе прызнанні ў тым, што яна зусім не дачка вядомай спявачкі і што ўборы яна «фантазіруе» не з імкнення апранацца шыкоўна, а з любві да мастацтва кройкі і шыц-

ця, атрыманай у спадчыну ад сваёй маці-швачкі. З надзвычайнай непасрэднасцю перадае Галя—Драздова ліст да свайго каханага ў рукі самога адрасата і з інтанацыяй, у якой боль разлукі перамешваецца з пачуццём радаснай удзячнасці за тое, што ён дапамог ёй зразумець многае ў жыцці, запэўняе Аляксея: «Лепшай буду, лепшай!» Знікае Галя Давыдава са сцэны і пакідае ў глядзельнай зале пачуццё прыхільнай сімпатыі да сябе і да многіх, падобных да яе дзяўчат, якія ўпершыню ўступаюць на шырокую, светлую дарогу кіпучага і радаснага жыцця. На вачах у гледача яна вырасла са свавольнага, заўзятага дзіцяці ў свядомага чалавека, не страціўшы разам з тым юнацкай прывабнасці і жыццерадаснасці.

Семнаццацігадовая дачка Пятра Заруднага — Лена з'яўляецца адным з персанажаў п'есы, які вырастае пад уплывам драматургічных падзей са звычайнага чалавека ў барацьбіта. Няхай аўтар не даў ёй канкрэтных учынкаў, накіраваных на выкрыццё і пакаранне існуючага ў п'есе зла, але вобраз Лены не страціў ад гэтага ўнутранай дынамікі свайго развіцця. Заслуга выканаўцы ролі Лены артысткі Л. Драздовай у тым, што яна змагла разгадаць гэтую ўнутраную дынаміку вобраза і ярка ўвасобіць яе.

Пазнанне высокай праўды жыцця каштавала Лене Заруднай значна больш, чым яе равесніцы — Галі Давыдавай са спектакля «У добры час». Яна таксама была «добрасумленнай школьніцай». У яе таксама быў добры таварыш, можа быць нават лепшы (паводле запэўнення драматурга), чым Андрушка Аверын. Леначка была ўпэўнена, што нішто не здолее парушыць яе ціхамірнага існавання: з дапамогай бацькоў яна скончыць дзесяцігодку, пасля інстытут, потым пойдзе працаваць. Здавалася-б, што яшчэ патрэбна для поўнага шчасця?

Над домам Зарудных збіраецца навальніца. Бацька Лены аказаўся чалавекам несумленным. Як успрыймае гэтую навіну яна, якая гэтак нецярпіма ставіцца да праяў мяшчанства ў характары сваёй маці, абвінавачвае брата Андрэя ў бязвольнасці і схільнасці да спіртных напіткаў? Бо грамадская шкоднасць заган яе бацькі куды больш значная ў параўнанні з тым, што да гэтага часу выклікала абурэнне Лены. Ці здолее грамадзянскае сумленне перамагчы ў ёй законнае пачуццё дзіцячай любві да свайго бацькі?

Упершыню Лена чуе праўду пра свайго бацьку з вуснаў брата Андрэя. Усёй сваёй істотай яна запрацівілася паверыць у сапраўднасць выказаных братам абвінавачванняў. Са слязамі крыўды і нават злосці Лена — Драздова патрабуе ад Андрэя, каб ён прызнаўся, што сказанае ім — хлусня. Па тым, з якой баязлівасцю звяртаецца яна да Ніны з просьбай растлумачыць усё, што адбылося, адчуваецца, што яна баіцца пачуць пацверджанне сапраўднасці абвінавачвання супраць бацькі. Паказваючы, наколькі дарагі для Лены яе бацька, выканаўца тым самым падрыхтоўвае і ўзмацняе перспектыву значнасці адрачэння сваёй гераіні ад бацькі, які нявартьі павагі. З карэннямі і крывёю прышлося вырваць ёй з душы пачуццё любві і павагі да бацькі. Пачуццё горкага сораму за сваіх бацькоў, глыбокае раскаянне за безадказнасць, з якой яна карысталася дабром, што незаконна набываў яе бацька, выліваюцца ў грымасу амаль фізічнага болю на твары Лены—Драздовай. Так мужна выпакутаваць драму страты духоўнай блізкасці са сваімі бацькамі, як гэта здолела Лена—Драздова, можа толькі незвычайная асоба. Вытрымаць такую душэўную буру і выйсці з яе пераможцам, захаваць у сабе святыя прынцыпы маралі совецкага грамадства і не пайсці на кампраміс са сваім сумленнем можа толькі актыўны змагар за светлыя жыццёвыя ідэалы.

«З дапамогай старэйшых»— так назвала Л. Драздова сваё выступленне ў газеце «Літаратура і мастацтва», у якім пажадала напярэдадні рэспубліканскай нарады тэатральнай моладзі падзяліцца са сваімі калегамі некаторымі думкамі аб патрэбах маладых артыстаў. На ўласным вопыце таленавітая выканаўца пераканалася, што клопат старэйшых майстроў з'яўляецца адной з абавязковых умоў выхавання вартай артыстычнай змены. З асаблівай удзячнасцю гаворыць яна аб рэжысуры тэатра і ў прыватнасці аб галоўным рэжысёры народным артысце БССР Л. Г. Рахленку, у працы з якім яна здолела стварыць новы значны сцэнічны вобраз. Новыя працы Л. Драздовай пацвярджаюць правільнасць яе слоў: «Пры ўпартай вучобе, вялікай працы над сабой мы зможам дамагчыся многага і апраўдаць ускладзеныя на нас спадзяванні».

**«Табе падабаецца гэты фасон?» Галя Давыдава (Спектакль «У добры час».)**






**Іван НАУМЕНКА**

**Апавяданне**

Мал. С. Раманава.

Мне ішоў семнаццаты год. Мая семнаццатая вясна была вельмі багатай на кветкі, на цеплыню, на тыя цудоўныя дні, калі, здаецца, сама зямля спявае песню сонцу, жыццю, высокаму сіняму небу.

Даўно ўжо з усіх кветак я найбольш палюбіў бэз. Бэз расцвітаў якраз у час нашых школьных экзаменаў. Букет ружова-сініх кветак заўсёды стаяў на стале, засланым чырвоным абрусам. За сталом сядзелі строгія экзаменатары, а на стале былі акуратна раскладзены білеты. Зверху білеты былі ўсе аднолькавымі. Які выбраць?

Падыходзячы да стала, я заўсёды хваляваўся. У такія хвіліны я, канешне, не звяртаў увагі на бэз, хоць стаяў ён у мяне пад самым носам. Затое пасля экзамена пах бэзу да самага вечара п'яніў мне галаву...

Ніколі яшчэ бэз не расцвітаў так, як сёлета. Ён сінеў цэлымі азяркамі па садах, палісадніках, у нашым станцыйным скверыку.

Але бэз у гэтую вясну на першым часе не хваляваў мяне і не радаваў зусім. Упершыню за многія гады і мне, і маім сябрам не трэба было здаваць экзаменаў. Не было і настаўнікаў, якія вучылі нас у школе. Адны з іх пайшлі на фронт і ваявалі пад Ржэвам, а можа, пад Севастопалем, а да другіх было не дайсці, бо на фасадзе нашай школы трапятаў чужы сцяг з чорнай свастыкай.

У нашай школе цяпер размясціўся нямецкі камендант. Ён не думаў аб тым, што нам трэба вучыцца. Камендант дбаў аб другім. Ён павесіў загад, за невыкананне якога дакляраваў адну толькі смяротную кару. Камендант абяцаў смерць кожнаму, хто захоўваў агнястрэльную зброю, хто распаўсюджваў злосныя чуткі пра непераможную германскую армію, хто мог паявіцца на вуліцы ў начны час.

Што датычыць мяне і маіх сяброў Цішкі Дразда, Міколы і Сымона Біцюгоў, то мы пакуль што добрасумленна выконвалі толькі апошні пункт загаду. Як гэта і было дазволена, мы расхаджвалі па вуліцах толькі да адзінаццаці гадзін вечара.

Часцей за ўсё мы наведваліся ў наш станцыйны скверык. Пад вечар там збіралася моладзь. На лавачках сядзелі хлопцы і дзяўчаты. Яны размаўлялі і нават іншы раз смяяліся, быццам на свеце не было ні каменданта, ні вайны. Іншы раз у скверыку рыпаў гармонік, а на заасфальтаванай яшчэ да вайны пляцоўцы наладжваліся танцы. Ніхто з нашай чацвёркі ні разу не пайшоў танцаваць. Мы лічылі, што весяліцца, танцаваць у такі час, калі ідзе вайна, калі ліецца кроў, проста ганебна.

— Здраднікі, — са злосцю пазіраючы на танцуючых, шаптаў Мікола Біцюг. — Знайшлі час весяліцца — гранату-б сюды.

— Не трэба раскідвацца гранатамі, — падсякаў Міколу Сымон Біцюг. — Дый у цябе-ж яна толькі адна.

Мікола, які заўсёды выказваў самыя крайнія погляды, насупліваўся і змаўкаў, а ў вачах у Цішкі Дразда запальваліся вясёлыя агеньчыкі. Цішка наогул любіў пасмяяцца, любіў вясёлыя гісторыі, і цяпер пасля сымонавых слоў ён, мабыць, маляваў сабе карціну, як доўгі і няскладны Мікола шпурляе гранату ў танцуючых дзяўчат.

Нягледзячы на рознасць поглядаў і характараў, мы ўчатырох сыходзіліся ў адным — нельга сядзець, склаўшы рукі, трэба дзейнічаць. Мы лічылі сябе

баявой групай. І не без падстаў. На нашым узбраенні ўжо быў вінтовачны абрэз, дзве лімонкі з капсулямі, з поўпуда аманалу і кавалак бікфордавага шнура. Мы былі заклапочаны планамі далейшага ўзбраення і ў хуткім часе збіраліся аб'явіць германскаму фашызму бязлітасную вайну.

А пакуль што мы з горда ўзнятымі галовамі праходзілі па скверыку, скоса пазіраючы на нямецкія франтавыя зводкі, павешаныя на дошцы аб'яў. Па праўдзе кажучы, асаблівай увагі на гэтыя зводкі не звяртаў ніхто. Дый весялосць тут, у скверыку, працягвалася нядоўга. У палавіне адзінаццатай на алеі паяўлялася здаравенная постаць паліцэйскага Кірылы Сёхмана, і ўсе збіраліся дамоў. Кірыла тут, у скверыку, адчуваў сябе вельмі значнай асобай. Ён быў важны, надзьмуты і раз-по-разу пазіраў на свой наручны гадзіннік, які раздабыў нядаўна.

Цішка Дрозд у такія хвіліны сіпеў прыдушаным смехам, і мы, каб быць падалей ад граха, шыбавалі дадому. Мы добра ведалі, што за птушка Кірыла Сёхман. Да вайны стаяў ён пры дзвярах клуба кантралёрам, але абакраў касіра, і яго засудзілі. А цяпер ён зноў аднекуль прыплыў. Не варта было з такім тыпам звязвацца.

Адным словам, на нашу агульную думку, усе мы ўчатырох былі добрымі хлопцамі. Мы ні разу не паддаліся на прыманку маладосці, не пайшлі танцаваць, не зналіся з дзяўчатамі. Мы рыхтавалі з сябе барацьбітоў, бязлітасных, мужных, зацятых. І хоць на зямлі была вясна, хоць так прывабна расцвітаў бэз, мы трымаліся стойка, адкладваючы сардэчныя справы на час пасля вайны.



Першым здрадзіў нашай агульнай справе я. У гэты час, калі ішла вайна і калі там, на фронце, паміралі сапраўдныя героі, я, чалавек, які не зрабіў у жыцці яшчэ ніводнага подзвігу, закахаўся самым ганебным чынам.

Пачалося ўсё вось з чаго. Аднойчы ў скверыку я ўбачыў незнаёмую дзяўчыну. Яна насіла белае плацце і белы капялюшык і была тоненькая, як былінка. Яна была зусім не падобная да дзяўчат, якіх я сустракаў дагэтуль. Трымалася яна смела, незалежна і, шчабечучы нешта вясёлае, звонка смяялася.

Я ўбачыў белую дзяўчыну і ў першы вечар, і ў другі, і ў трэці. І ўвесь час яна была вясёлая, смяялася. Адзін раз яна нават танцавала...

Першы час я праходзіў міма дзяўчыны з самым незалежным выглядам. Я не кінуў у яе бок ніводнага прыязнага позірку, стараўся на яе не пaглядаць. Я лічыў дзяўчыну асобай пустой, нікчэмнай, не вартай увагі наогул. У думках я вінаваціў тоненькую дзяўчыну за яе бестурботны смех, за яна звонкае шчабятанне. Як магла яна смяяцца ў такі час!

Вядома, дзяўчына ў белым плацці нічога не ведала пра мае абвінавачванні. Яна кожны вечар прыходзіла ў скверык, яе жывыя сінія вочкі весела пазіралі на свет, і яна, нібы на зло мне, звонка шчабятала.

Я быў поўны абурэння і гневу. Справа ў тым, што хоць я яшчэ і не зрабіў ніводнага подзвігу, але ў глыбіні душы я лічыў сябе здольным на герачныя ўчынкі. У сваім уяўленні я маляваў сябе ў розных геройскіх ролях. Вось я на вачах у дзяўчыны забіваю нямецкага каменданта, забіваю Кірылу Сёхмана, забіваю цэлы дзесятак фашыстаў, нарэшце падаю забіты сам... Белая дзяўчына перастала смяяцца, у яе вачах захапленне, роспач, пакута. Яна плача, вінаваціць сябе за свой смех. Яна становіцца другой...

Адзін раз дзяўчына прышла ў сквер з кветкамі. У яе руках быў бэз і белая чаромха. Яча трымала кветкі беражна, як трымаюць якую-небудзь вельмі каштоўную рэч. Яшчэ праз колькі часу я пачуў, як яна спявала. Яе голас можна было пазнаць сярод тысячы другіх галасоў...

І вось хутка я адчуў, што мне няма куды схавацца ад жывых сініх вачэй з-пад белага капялюшыка, ад звонкага шчэбету, ад гэтай цудоўнай белай птушкі. Яе вобраз стаяў перад маімі вачамі, дзе-б я ні быў, што-б я ні рабіў. Я ўжо не мог пражыць дня, каб пад вечар не схадзіць у скверык, не пабачыць тоненькую дзяўчыну.

Я стаў задумлівым, разгублена адказваў на пытанні сваіх сяброў і свой душэўны стан не змог схаваць ад іх вачэй.

— Ты гэта што-ж, Цімох, можа хочаш у кусты? — грозна падступіў да мяне аднойчы Мікола Біцюг. — Нешта ты круціш, хаваешся ад нас. Кожны вечар у скверы тырчыш. Ты вады не муці, кажы праўду. Спалохаўся?..

Я ледзь не кінуўся на Міколу з кулакамі, каб змяшаць яго з граззю за яго дурныя здагадкі. Цішка Дрозд мірыў нас пасля гэтага цэлую гадзіну. Сябры ўздыхнулі лягчэй, бо ўбачылі, што адступацца ад іх я не збіраюся. І ўсё-ж я не мог расказаць ім праўды...

Хутка я ўжо ведаў імя дзяўчыны — Стася. Нядаўна яе прыслалі аднекуль працаваць у нашу аптэку. Там-жа ў аптэцы, у домiку, схаваным у засені бэзавых кустоў, Стася і жыла. Мне было непрыемна, што Стася працуе ў нямецкай установе. З другога боку я апраўдваў Стасю тым, што аптэка, нарэшце, не такая ўжо фашысцкая ўстанова. Можа Стасю прымусілі працаваць, можа без працы ёй нельга. Яна-ж жыве адна, без бацькі і без маці...



Я нячутна паўтараў імя Стасі тысячу разоў у дзень, яно звінела ў маіх вушах, як музыка. Я мог думаць пра сваю дзяўчыну цэлымі гадзінамі, прыдумваў розныя варыянты нашай размовы, нашай сустрэчы. Але пакуль што ніякай размовы не было, я не сказаў сваёй каханай ніводнага слова. Я прыходзіў у скверык, і калі заўважаў Стасю, сэрца ў грудзях пачынала біцца, нібы птушка, злоўленая ў сіло.

Аднойчы, калі я праходзіў міма лавачкі, на якой сядзела Стася са сваімі сяброўкамі, мая дзяўчына акінула мяне хуткім позіркам. Мне здалося, што гэты позірк быў насмешлівым. Мой твар гарэў ад сораму, мне было ў той вечар балюча і крыўдна, як ніколі. Не сказаўшы нічога сваім сябрам, я падаўся дадому. І тут па дарозе да роднай хаты, на адзіноце, я неяк нечакана ўпершыню паглядзеў на самога сябе збоку, чужымі вачамі.

Так, выгляд мой быў зусім не фацэтным, ён ніяк не падыходзіў для таго, каб знаёміцца з гэтай чыстай, белай дзяўчынай. На нагах у мяне было штосьці накшталт чаравікаў. Але што гэта былі за чаравікі! Гэта былі нейкія чарапахі, шырокія, распоўзлыя. Чаму я не заўважаў раней, што мае штаны даўно час павесіць на пудзіла ў агародзе. Гэтыя штаны мелі дзве латкі на каленях і ў дадатак яшчэ два агромністыя круглыя вакны ззаду. Вырас я і з сарочкі; тое, што ў мяне былі закасаны рукавы, мабыць, мала дапамагала справе. Эх ты, кавалер, закаханы рыцар!..

У тую ноч я не спаў. Выхаду з свайго становішча я не бачыў ніякага. Святочных гарнітураў у мяне не было і зарабіць або купіць іх па тым часе нечага было і думаць.

Памятаю, што такія развагі мяне нават супакоілі, а тоненькая чыстая дзяўчына зрабілася для мяне крыху далёкай і чужой. «Няхай ходзіць у сваёй чысценькай сукенцы, — помстліва думаў я.— Справа-ж не ў шляпках і сукенках. Знайшлася княгіня!»

Некалькі дзён я не хадзіў у скверык. Якраз у гэты час разнесліся чуткі, што немцы думаюць аднаўляць чыгунку. Чуткі гэтыя пацвердзіліся, бо на чыгунцы ішла ліхаманкавая работа. Мы вырашылі, што надышоў час дзейнічаць. Мікола Біцюг высушыў аманал на печы, Цішка Дрозд сцягнуў старую бабуліну кофту з шырокімі рукавамі. Адзін рукаў мы напакавалі аманалам, зашылі і гэтую нашу міну схавалі да часу. Было аднагалосна вырашана, што сваёй мінай мы ўзарвем масток кіламетраў за чатыры ад станцыі. Масток хоць і невялікі, але ў вызначаны дзень немцы па нашай чыгунцы не паедуць. Паедуць яны жыватамі...

Якраз у гэты час адбыліся падзеі, якія прымусілі нас яшчэ сур'ёзней паставіцца да задуманай дыверсіі. У ясную вясновую ноч ні з таго, ні з сяго згарэла парня. На гэтай парні гнулі вобад, які адпраўлялі некуды на нямецкіх машынах. Апрача гэтага, у некалькіх месцах нашага раённага гарадка былі расклеены антыфашысцкія лістоўкі, надрукаваныя на машынцы. Гэтыя падзеі нас і ўзрадавалі, і засмуцілі.

Мы былі перакананы, што спалілі парню і расклеілі лістоўкі партызаны, якія ноччу пранiклі ў гарадок. З невялікім партызанскім атрадам, які дзейнічаў кіламетраў за сорак ад нас, у другім раёне, мы мелі ўжо сувязь, хоць і нетрывалую. Калі ўсё гэта зрабілі нашы партызаны, то чаму яны наважылі абыйсціся без нас? Сякія-такія паслугі мы-ж ім ужо рабілі. Можа партызаны нам больш не давяраюць?

Каб вывесці ўсё гэта на чыстую ваду, Сымон Біцюг адправіўся ў госці да сваёй цёткі. Цётка, канешне, была тут толькі прыклёпам, Сымон пайшоў на сувязь з нашымі партызанамі.

Мы-ж утраіх таксама не спалі ў шапку. У гэтыя дні мы выказалі вялікае жаданне наносіць сваім маткам арэхавых кійкоў на фасолю і пад памідорныя кусты. Кійкоў мы нанасілі на пяць гадоў уперад, але справа зноў-жа была не ў кійках. Арэшнік рос якраз недалёка ад мастка, які мы наважылі пусціць у паветра. Масток і подступы да яго мы агледзелі добра, самаробную міну занеслі і схавалі паблізу ад мастка.

Былі ў нас поспехі і ў справе самаўзбраення. Нам удалося разжыцца старой заржавелай вінтоўкай, якую мы ўтраіх чысцілі і прыводзілі ў належны выгляд цэлы дзень. Цяпер мы ў дадатак да абрэза мелі сапраўдную вінтоўку, з якой не сорамна было прыйсці да партызан.

Праўда, на грунце асабістай прыналежнасці вінтоўкі паміж намі адбылася спрэчка. Мікола Біцюг патрабаваў, каб вінтоўку аддалі яму. Сваё патрабаванне Мікола падмацоўваў тым, што да вайны ён здаў норму на поўнага варашылаўскага стралка, а мы з

Цішкам толькі на юных стралкоў. Міколе мы далі суровы адпор, і ён, пакіпяціўшыся, быў вымушаны змірыцца.

Адным словам, цяпер мы адчувалі сябе больш упэўнена. Мы чакалі Сымона, чакалі вестак ад партызан, і ва ўсіх нас быў прыўзняты, гераічны настрой. У адзін з тых дзён я зноў пайшоў у скверык і зноў убачыў Стасю.

Праходзячы паўз яе, я стараўся не пазіраць у яе бок. І не вытрымаў. А яна — мне гэта нікольні не здалося — паглядзела на мяне зусім сур'ёзна. Яна не насміхалася нада мной! Я зноў стаў вясёлым, расказваў цікавыя гісторыі сваім сябрам, і яны смяяліся. Я хацеў, каб Стася звярнула ўвагу на наш смех, на мяне. Здаецца, яна глядзела ў мой бок...

Раптам я прыдумаў выхад, адзіны, які толькі мог быць на свеце. Мой бацька, чыгуначнік, яшчэ да вайны выпісаў сабе форменны сіні касцюм. Гэта быў выдатны касцюм, нездарма з бацькавага заробку вылічвалі за яго пакрысе амаль цэлы год. Цудоўнае сіняе сукно было, мабыць, самага вышэйшага гатунку. Бацька толькі і паспеў адзін раз на Першае мая перад самай вайной апрануць касцюм. Цяпер касцюм быў клапатліва схаваны, як самая каштоўная рэч у доме, і не аднойчы ў цяжкія часіны я чуў, як асцярожна маці намякала, што за яго, каб прадаць, далі-б хлеба пудоў дзесяць...

Разлічваць на тое, што мне дадуць апрануць сіні касцюм, не прыходзілася. Прасіць аб гэтым было-б проста сорамна. Я наважыў зрабіць усё інакшым парадкам. Прасцей за ўсё было вынесці адзенне ў адрыну і там паціху апрануцца, а пасля скінуць. Тым больш, што ўвесь касцюм мне быў не патрэбен. З мяне хопіць адных сініх штаноў. І нічога ім за адзін вечар не зробіцца...

План мой быў разлічаны да дробязей. Увесь наступны дзень я гарэў ад нецярпення, уяўляючы, як падыйду да Стасі, як загавару з ёй, што ёй скажу. Пад вечар мне ўдалося ажыццявіць першую частку майго плана як найлепш. Я выйшаў агародам у новых сініх штанах, з-пад якіх зусім не відаць было маіх чаравікаў-чарапах, у вымытай кашулі. Я быў ужо ў скверыку і чакаў, што вось-вось прыдзе мая белая дзяўчына...

Але прышла не Стася. Прыбег узбуджаны Мікола Біцюг і рашуча пацягнуў мяне ў цёмны куток сквера.

— Цімох, пайшлі, — уладарна сказаў ён мне. — Заўтра раніцай першы цягнік пойдзе. Хутчэй...

Што-ж, трэба было ісці...

Я нічога не сказаў Міколу наконт новых сініх штаноў, а ён, усхваляваны, нават не заўважыў іх. Трэба было зайсці яшчэ па Цішку Дразда. Ён жыў на вакзальнай вуліцы, якая цягнулася поруч з чыгункай, і ад яго нам лепш за ўсё было выходзіць, бо не трэба было пераходзіць пераезд.

Дачакаўшыся, пакуль зусім сцямнее, мы выйшлі. Мы захапілі з сабой абрэз і дзве гранаты, вінтоўка была схавана ў лесе. Да аршніка мы зрабілі вялікі крук па поплаву, потым ішлі жытамі. Мае новыя сінія штаны прамоклі ад расы да самых кален, але я лічыў, што гэта дробязь — высахнуць. Ішлі мы смела, бо ў нас была зброя.

Нам прышлося чакаць у арэшніку да самай поўначы. Запелі першыя пеўні, дзесьці ў кустах трывожна закігікала нейкая птушка. Тады мы, прыгнуўшыся, пабеглі да мастка. Мы ведалі, што чыгунка ахоўваецца не надта. Узброеная варта была толькі ў будках. У поўкілометры ад мастка гарэў агонь, і каля яго сядзелі дзядзькі з доўгімі кійкамі. Гэта была так званая добраахвотная варта чыгункі, у якую фашысты заганялі сілком.

Мікола з вінтоўкай залёг на насыпе, а мы з Цішкам завіхаліся каля міны. Пад мастком было сыра і глуха. Здаецца, прайшло вельмі многа часу, пакуль мы прыладзілі бікфордаў шнур і ўставілі запал. Чыркнулі сярнічкай, і шнур затрашчаў, выпускаючы цэлыя пучкі іскраў. Мы беглі ад мастка што было сіл.

Выбух засцiг нас ужо ў арэшніку. Гэта быў страшэнны выбух. Здаецца, асвяціўся ўвесь лес. Мы ўпалі, потым зноў пабеглі ў самы гушчар. З будкі пачалася бязладная страляніна. Мы адбегліся мабыць кіламетраў пяць. З мяне пот ліў цуркам, а мокрыя сінія штаны лёпалі па нагах так гучна, нібы хто-небудзь біў па голаму целу далоняй.

Каля будцы ўжо не стралялі, і мы прыпыніліся. Трэба было вызначыць цяпер, дзе мы. Моўчкі мы прайшлі цугам, адзін за другім яшчэ з поўкілометра і выйшлі на сенажаць. Над ёй густой шчыльнай заслонай вісеў туман. Гэта была Гарадзінка,. асушанае яшчэ да вайны балота. Тут мы адшуквалі некалі яйкі дзікіх качак, кнігавак, пекураў, аднойчы збіралі стрэляныя гільзы пасля вайсковых манеўраў. Сенажаць мы ведалі, і можна было тут, у кустах, схаваць нашу зброю. Але рабіць гэтага ніхто з нас не захацеў. Упершыню ў жыцці мы адчулі, што значыць зброя ў руках. З ёю можна было ісці смела, не баючыся ніякага д'ябла. Са зброяй мы крочылі гаспадарамі па роснай, топкай Гарадзінцы.

Недалёка ад цішкавага двара быў вялікі кар'ер. Тут капалі гліну ўсе, каму яна была патрэбна. Мы якраз і збіраліся спусціцца ў кар'ер, каб абмеркаваць нашы далейшыя паводзіны. Але тут здарылася нечаканае.

— Стой, рукі ўгору! — раўнуў нехта немым голасам, і ў некалькіх кроках ад нас проста з зямлі вырасла чорная постаць. Мы ірванулі назад, а той, што крычаў, стрэліў. Куля свіснула каля самых маіх вушэй. Мы ўпалі на зямлю, а чорная постаць, клацаючы затворам, насоўвалася на нас. Я чуў, як Мікола спусціў курок. Асечка. Постаць упала. У тое-ж імгненне Цішка бухнуў са свайго абрэза, а я, ірвануўшы чаку, шпурнуў лімонку...

Страшэнны, дзікі крык падняў мяне з зямлі і кінуў у кар'ер. Гэты крык стаяў у маіх вушах, калі я каціўся на дно кар'ера, калі поўз агародамі, прабіраючыся праз парканы і драцяныя агарожы. Маіх сяброў побач не было. Я вырашыў паўзці дадому. Увесь шлях да роднай хаты думка ў мяне працавала чотка і ясна. Я рабіў перадышкі, вымяркоўваў, кудой мне найлепш прабірацца.

І вось я ў сваёй адрыне. Я адразу схаваў прамоклае адзенне і пераапрануўся ў старое. Дзесьці там, на станцыі, усё яшчэ раз-по-разу стралялі. Захліпаючыся, брахалі сабакі. За сцяной глуха ўздыхала карова, перажоўваючы жвачку. Рыпнулі дзверы, і да хлява, ледзь чутна тупаючы босымі нагамі па зямлі падыйшла маці. Не адчыняючы варот, яна спалоханым шэптам дакарала мяне за тое, што я не шаную ні сябе, ні сям'і. А я, стараючыся гаварыць сонным голасам, спытаў, дзе гэта і чаму страляюць. Няхай пакуль што нічога не ведае маці. Ёй будзе так спакайней...

Калі развіднела, я агледзеў сваё адзенне. Ад новых сініх штаноў засталося адно толькі званне. Яны падраліся ў некалькіх месцах, а на левай калашыне нехапала вялікай латкі. І тут толькі я адчуў, што ў мяне баліць нага. Галёнка была распаласавана, мабыць, аб калючы дрот.

Увесь дзень я, здаецца, зусім не думаў пра Стасю. Пасля ўсяго, што здарылася, яна стала маленькай, непрыкметнай і адыйшла ў думках кудысьці далёкадалёка. Я трывожыўся аб сябрах. У поўдзень мне расказалі, што на наш гарадок рабілі налёт партызаны, што яны ўзарвалі мост і паранілі Кірылу Сёхмана, які пад раніцу сканаў. Па загаду каменданта на станцыі і каля школы спешна будаваліся дзоты. Пра сваіх сяброў я не пачуў нічога страшнага і паступова супакоіўся.

Нямецкі поезд у той дзень не пайшоў...

А яшчэ праз два дні да мяне завітаў Сымон. Ён вярнуўся з сувязі і прынёс добрыя весткі. Партызаны пра нас ведаюць, і сувязь цяпер будзе рэгулярная.

— Мікола за новую міну ўзяўся, — паведаміў Сымон. — Ён на сёмым небе і цябе, ого, як хваліць...

Я паказаў Сымону нагу. Рана нарывала, я лячыў нагу сам, як мог. Сымон занепакоіўся.

— Ты нікуды не выходзь, — папярэдзіў ён. — Я прынясу ўсё, што трэба. І наогул нам не трэба разам хадзіць.

Ён вярнуўся толькі пад вечар. Прынёс бінты, ёд, нейкую слізкую мазь. Я пaглядаў на сябра здзіўленымі вачамі.

— Мы, брат, дурні вялікія, — бінтуючы мне нагу, гаварыў Сымон.— Ходзім табуном, самі-ж стараемся выдзяляцца, у вочы кідацца. Людзі ў сто разоў разумней за нас робяць. Ты думаеш, парню спалілі і лістоўкі раскідалі партызаны? Такія-ж, як і мы, партызаны, толькі не такія вароны...

— Сымон, — не вытрымаў я,— скажы, ты хадзіў у аптэку?

Сэрца ў мяне тахкала так моцна, што, мабыць, пачуў і ён.

— Хадзіў, але ты нічога не ведаеш, — жорстка паглядзеў на мяне Сымон.—Нічога не ведаеш, зразумеў? Запамятай гэта...

Не, цяпер я ведаў усё. Ведаў, якім быў сляпым і недалёкім. Такую дзяўчыну хацеў прывабіць сінімі штанамі. Эх ты, дурніла... Тоненькая белая дзяўчына паўставала цяпер у маіх вачах у нейкім новым, казачным святле. Цяпер я ведаў, што мы сустрэнемся з ёй, сустрэнемся абавязкова. Ідзем-жа мы па адной дарозе...

У тую вясновую ноч я зноў пачуў, як прыемна пахне расцвіўшы бэз. Ён пахнуў так заўсёды, калі мы хадзілі здаваць экзамены.





# ВЫДАТНЫ МАСТАК СЛОВА

**Да 60-годдзя з дня нараджэння К. К. КРАПІВЫ**

**Барыс БУР'ЯН**

Толькі даведаемся мы, што ў часопісу з'явіўся новы твор Кандрата Крапівы, бачым афішы, якія абвяшчаюць пра новы спектакль па п'есе гэтага драматурга, чуем па радыё, што зараз будуць прачытаны яго байкі ці сатырычныя вершы, і адразу адкладваем усе свае справы, каб прачытаць, прагледзець або праслухаць заўсёды вострае, палкае, трапнае вобразнае слова мастака і майстра літаратуры. Мы часта звяртаемся да кніг, на вокладцы якіх указана прозвішча «Кандрат Крапіва». Разам з пісьменнікам мы абураемся супраць усяго таго, што азмрочвае наша жыццё, смяемся над тымі прайдзісветамі, якіх мастак ставіць да ганебнага слупа. Разам з пісьменнікам мы, чытачы ягоных твораў і гледачы ягоных п'ес, святкуем перамогу сапраўдных совецкіх людзей над зладзеямі і здраднікамі, над іншымі ворагамі. Пісьменнік вучыць нас выкрываць і пазбаўляцца тых, хто «не аддаўся ўвесь рэвалюцыі, а прымасціўся толькі ў яе на запятках, каб саскочыць на першым павароце». Творы Кандрата Крапівы дапамагаюць бязлітасна змагацца супраць мяшчан, перараджэнцаў, палахліўцаў і аматараў лёгкага жыцця. Кандрат Крапіва, пісьменнік і патрыёт, заўсёды ў баявым страі.

Кандрат Кандратавіч Крапіва — сціплы чалавек. Робячы першыя крокі ў літаратуры, ён абраў псеўданім — «крапіва», абраў і агаварыў даволі сціплую сваю ролю:

Я ў мастацкім агародзе
Толькі марная трава.
А якая? — Смех дый годзе:
Я — пякучка-крапіва.
Я расту вось тут, пад плотам,
І не так даўно ўзышла,
А ўжо многім абармотам
Рукі-ногі апякла.

Непрыкметная «пякучка» час-ад-часу пякла ўсё больш адчувальна і абармотаў знаходзіла ўсё больш буйных. Джала набывала вастрыню ляза, і ляза спраўнага, ад якога не ўбярэжэшся.

Гэтае лязо ўвайшло і трывала заняла месца ў арсенале той партыйнай па духу і народнай па сутнасці літаратуры, дзе ганаровую вахту неслі Владзімір Маякоўскі і Дзем'ян Бедны. Вялікі рэвалюцыйны пафас надаваў і надае творам К. Крапівы моц і гарт. Увага да так званых дробных падзей не робіцца самамэтай пісьменніка. Нібы праз павелічальнае шкло дае нам К. Крапіва разглядзець, што сапраўды хаваецца за тымі фактамі, якія прыцягнулі ягоную ўвагу і прымусілі ўзяцца за пяро.

Пісьменнік — гэта чалавек, які бярэ на сябе адказнасць за кожнае сваё слова, і К. Крапіва працуе заўсёды з такім пачуццём. Калі ён звяртаецца да чытачоў ці да людзей, якія запаўняюць партэр і балконы тэатра, дык разумее, што яму належыць вялікае і адказнае права выхавацеля і настаўніка. Таму ён адкрыта заклікае нас да рашучых учынкаў:

Дык вось, браткі,
Калі такія свіннюкі
(А свіннюкоў нямала ёсць на свеце)
Дзе завядуцца ў сельсовеце
Ці ў кааператыве ў вас —
Ганіце вон, на мой адказ! —

гаворыцца, напрыклад, у байцы «Далікатныя парасяты». І гэтае — «на мой адказ» — пранесена К. Крапівой праз усю творчасць. Ёй уласцівы актыўныя адносіны да жыцця, яна імкнецца не абвяшчаць, не знаёміць, не апавядаць, а ўладарна абуджаць дзейсныя пачуцці і плённае жаданне працаваць, змагацца, рабіць.

Бадзёрае мастацтва К. Крапівы прасякнута верай у чалавечую годнасць, у плённыя намаганні совецкіх людзей. Без гэтай веры наўрад ці былі-б створаны выдатныя старонкі вершаваных кніжак, прозы і драматургіі К. Крапівы. Яна жыццесцвярджальная, гэтая вера.

Вера ў чалавека і яго светлую будучыню жыве ў рамане «Мядзведзічы» і ў сатырычных апавяданнях; яна-ж, гэтая вера, уласціва байкам і вершам; ёю, гэтай верай, прасякнуты п'есы ад «Канца дружбы» і «Партызан» да «Пяюць жаваранкі». Пісьменніка вабіць усё добрае, харошае, светлае ў чалавеку. У імя сцвярджэння гэтага, у імя дабра і шчасця людзей ён узнімае сваю зброю супраць усяго варожага нам, старога, адыходзячага. Любоў да чалавека-стваральніка выклікае надзвычай вялікі гнеў да тых, хто перашкаджае гэтаму будаўніку будучыні. І таму гнеў К. Крапівы, накіраваны дакладна па адрасу здраднікаў і прайдзісветаў, злачынцаў і бюракратаў, здаецца, не ведае межаў. Пісьменнік ні розумам, ні сэрцам не можа прымірыцца з тым, што агідныя нашчадкі старога ладу атручваюць паветра і затрымліваюць нашы пераможныя крокі.

Палітычная страснасць і мастацкае натхненне, гнеў і жыццесцвярджальная вера ў чалавека ў лепшых творах выдатнага сатырыка спалучаюцца ў гармонію адзінага. Таму творы К. Крапівы зразумелыя і хвалюючыя для тых, каго звычайна называюць радавымі чытачамі, і для тых, хто адносіцца да ліку літаратурных суддзяў — крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Байкі, проза і драматургія К. Крапівы вытрымліваюць самыя адказныя выпрабаванні. Асабліва выпрабаванне часу! Творы жывуць на сцэне і ў кнігах, на канцэртных пляцоўках і ў гуртках самадзейнасці.

Што яшчэ характэрна для творчасці К. Крапівы, дык гэта пачуццё новага. Здавалася-б, калі сатырычная зброя накіравана галоўным чынам супроць усяго адмоўнага, таго, што аджывае свой час, яна робіць карысную справу, хай сабе і выдатна, але толькі ў цяперашні момант, ці, як прынята пісаць, на даным этапе. Але час ідзе, а п'еса, скажам, «Хто смяецца апошнім» гучыць і пасля таго, як ёй споўнілася семнаццаць год, аж па сённяшні дзень (зусім нядаўна стала вядома, што камедыю ставяць і ў Варшаве).

Шмат твораў К. Крапівы прысвечана тэмам новай маралі. Пачуцці дружбы і кахання, адданасці і абавязку, стойкасць у змаганні і непахісная воля ў дасягненні мэты, — усё гэта знайшло адлюстраванне ў мастацкіх вобразах такіх розных п'ес, як «Канец дружбы», «Партызаны», «Хто смяецца апошнім», «Проба агнём», «Мілы чалавек», «З народам», «Пяюць жаваранкі», «Зацікаўленая асоба». Розныя гэтыя творы і па жанравых асаблівасцях (тут народная драма і псіхалагічная п'еса, камедыя-сатыра і лірычная камедыя), і па сутнасці жыццёвых назіранняў, і па мастацкіх якасцях. І ўсё-ж вырашэнне маральных канфліктаў асветлена перадавымі ідэаламі социялістычнага грамадства і нашага новага ўяўлення аб сапраўдным харастве і годнасці чалавека.

Да твораў К. Крапівы, да ягоных тэарэтычных прац у галіне драматургіі і мовазнаўства, да яго самога, пісьменніка і чалавека, часта звяртаецца і літаратурная моладзь. Кранае ўвага выдатнага майстра да тых, хто пачынае свой творчы шлях. На палях рукапісаў маладога драматурга Кандрат Кандратавіч ставіць амаль непрыкметныя кропкі звычайным алоўкам. Потым па іх узнаўляе свае ўражанні і паволі робіць павучальныя заўвагі: тут вы знайшлі добрае слова і дакладны штрых, тут сфальшывілі, ну, а вось гэта, прабачце, зусім не тое... Гутарка ідзе гадзіну, другую — і малады таварыш пачынае разумець «сакрэты» складанага і тонкага мастацтва, якім дасканала валодае вопытны і мудры інжынер чалавечых душ, яго субяседнік. Потым малады літаратар пачынае ўспамінаць, якім быў жыццёвы шлях Кандрата Кандратавіча, сялянскага хлопца, што прагна цягнуўся да ведаў. Жыццё вучыла К. Крапіву-мастака. Жыццё — першая крыніца яго творчасці. Так было і так ёсць: увага да штодзённых спраў народа і краіны, дзейсны ўдзел у гэтых справах, сталая заклапочанасць аб удасканаленні свайго майстэрства, разуменне творчасці як служэння Радзіме, — вось чым характарызуецца К. Крапіва. Імя К. Крапівы ведаюць у Маскве і Ленінградзе, на Украіне і ў Сібіры, у Сярэдняй Азіі і на Далёкім Усходзе. Ведаюць, паважаюць і, безумоўна, далучаюцца да самых добрых пажаданняў, з якімі звяртаюцца ў сакавіку гэтага года грамадзяне Беларускай ССР да свайго выдатнага пісьменніка-патрыёта.

*Зрабі сам!*

# ЯК АФОРМІЦЬ САМАДЗЕЙНЫ СПЕКТАКЛЬ









Асновай спектакля з'яўляецца пэўная ідэя, якая закладзена ў п'есе. У адрозненне ад іншых відаў мастацтва, ідэя спектакля раскрываецца і вырашаецца толькі ў дзеянні жывых вобразаў, у іх узаемаадносінах. Гэтаму павінна дапамагаць і адна з досыць важных састаўных частак спектакля — яго афармленне.

Афармленне павінна адлюстроўваць асаблівасці тых абставін, таго асяроддзя, у якіх дзейнічаюць героі. Карацей кажучы, трэба стварыць такое афармленне спектакля, якое дапамагло-б у найбольш выразнай мастацкай форме ўвасобіць яго ідэю, усебакова раскрыць характары герояў п'есы.

Прынцыпы афармлення спектакля бываюць розныя.

Шмат якія аднаактавыя спектаклі, і пераважна скетчы, выконваюцца проста ў сукнах (кулісах). У такіх выпадках сцэна абстаўляецца патрэбнай мэбляй і адпаведнымі рэчамі, якія характарызуюць месца дзеі і неабходны па ходу спектакля.

Гэты прынцып, прынцып так званага «канцэртнага выканання», мае права на існаванне ў тым выпадку, калі для вырашэння ідэі п'есы не патрабуецца больш складанага афармлення.

Гэтым прынцыпам часта злоўжываюць шмат якія калектывы проста таму, што іх кіраўнікі і загадчыкі клубаў не надаюць належнай увагі афармленню спектакля. Зразумела, што такая практыка не павінна мець месца.

Разам з гэтым ёсць такія «вынаходцы», якія дадумаліся да пабудовы ў сельскіх і калгасных клубах, у хатах-чытальнях так званага «сталага афармлення», якое нагадвае сабой нейкі неакрэслены пакой, пабудаваны з дошак або фанеры і «навечна» ўмацаваны на сцэне. І вось у такім «універсальным» афармленні таксама ставяцца ўсе спектаклі, без ніякіх змен месца дзеяння. Такое афармленне спектакля не можа быць рэкамендавана, бо яно звязвае пастаноўшчыка і выканаўцаў, не даючы ім магчымасці перанесці месца дзеі ў іншыя акалічнасці, якія патрабуюцца па ходу спектакля, і гэтым самым пазбаўляе спектакль належнага ідэйна-мастацкага гучання.

Калектывы, якія маюць у сваім распараджэнні вялікую сцэну, падсобныя памяшканні і больш-менш моцную матэрыяльную базу, афармляюць спектаклі, будуючы дэкарацыі праз усю сцэну. На невялікай сцэне сельскага або калгаснага клуба такі прынцып не можа быць выкарыстаны.

На малой сцэне нельга змясціць вялікую парадную залу, аднак калі да гэтага пытання падыйсці творча, то і яно можа быць з поспехам вырашана. У такіх выпадках трэба ісці па лініі адбору найбольш тыповага, якое можа яскрава характарызаваць месца дзеі. Гэта значыць, рэжысёр павінен паказаць цэлае праз яго частку. Можна паказаць не ўсю залу, а адзін, найбольш характэрны яе куток, абставіўшы яго адпаведнай мэбляй, карцінамі і іншымі рэчамі, тыповымі для той эпохі, якая адлюстроўваецца ў п'есе.

Для таго, каб ператварыць кулісы ў афармленне таго ці іншага памяшкання або пакоя, неабходна камбінаваць кулісы з паасобнымі стаўкамі дэкарацый — шчытамі, у якіх умантаваны вокны або дзверы, або проста з глухімі шчытамі ці паасобнымі дэталямі дэкарацый, якія характарызуюць месца дзеі: калоны, розныя балюстрады, каміны і г. д.

Маючы ў запасе (а калі няма, то неабходна зрабіць) 2—3 калоны, двухстворкавыя і аднастворкавыя дзверы, 1—2 акны гарадскога тыпу, 1—2 меншых акны і да гэтага добра абсталяваць сцэну кулісамі, то пры пэўнай іх камбінацыі можна вырашыць пытанне пастаноўкі многіх спектакляў на малой сцэне.

Вялікую ролю для характарыстыкі месца дзеі адыгрываюць розныя дэталі. Вось, напрыклад, мы афармляем пакой, дзе павінна размяшчацца праўленне калгаса (у спектаклях «Пяюць жаваранкі», «На крутым павароце», «Вяселле з пасагам» і інш.). Ставім паміж куліс вокны і дзверы патрэбнай формы, печ. У нас атрымаўся пакой наогул. А трэба, каб гэты пакой меў выгляд тых пакояў, у якіх звычайна размяшчаюцца праўленні калгасаў. І тут нам на дапамогу прыходзяць розныя дэталі: карціны, партрэты, плакаты, лозунгі, дошкі пашанчыкаў, вітрыны і г. д. Калі мы павесім некалькі плакатаў, лозунг на сельскагаспадарчую тэму, табель уліку працадзён і абставім пакой патрэбнай мэбляй (сталы, крэслы, шафы, гадзіннік), то адразу-ж канкрэтызуем месца дзеі і атрымаем патрэбнае нам афармленне, — у даным выпадку праўленне калгаса.

У гэтых-жа дэкарацыях можна абсталяваць да якога-небудзь спектакля, напрыклад, агракуток. Для гэтага, вынесшы некаторую мэблю, неабходна папоўніць пакой экспанатамі лепшага ўраджаю: жыта, кукурузы, пшаніцы, лёну, канапель, павесіць дыяграмы, паставіць стэнды-выстаўкі агратэхнічнай літаратуры і інш.

Пры пэўнай абстаноўцы сцэны, калі на кулісу павесіць, напрыклад, плакат, партрэт, каляндар і г. д., то яна перастае быць кулісай, умоўна ператвараецца ў сцяну.

Прысутнасць на сцэне пэўных дэталей адразу гаворыць нам аб характары ўстановы. Калі яны развешаны або расстаўлены ў жылым пакоі, то праз іх мы таксама атрымліваем дастатковае ўяўленне аб тым, хто жыве ў ім, таму што ў залежнасці ад культурнага ўзроўню густу гаспадара залежыць выгляд яго жылля.

Для афармлення спектакляў можна выкарыстаць і цвёрдыя кулісы. Гэта шчыты, якімі абсталявана сцэна замест мяккіх куліс. Шчыты робяцца наступным чынам: з сасновых або яловых брускоў таўшчынёй у 2,5×4 см. звязваецца рама, шырыня якой 1—1,2 метра, а даўжыня яе залежыць ад вышыні сцэны, але не да самай столі, а толькі каб верхні яе канец перакрываўся падугай. Гатовыя рамы абіваюцца фанерай. Для абіўкі шчытоў, акрамя фанеры, можна выкарыстаць танныя гатункі моцнай тканіны (мешкавіна і інш.), кардон і нават склееную ў некалькі пластоў газетную паперу. Калі шчыты абіваюцца фанерай або кардонам, то на стыках наклейваецца вузкая палоска матэрыі для таго, каб не было прыкметна шчылін. Пасля гэтага шчыты малююцца ў патрэбны колер (цвёрдыя кулісы лепш за ўсё маляваць у які-небудзь нейтральны колер). Для абсталявання сцэны цвёрдымі кулісамі патрэбна дзесяць шчытоў — па тры па баках і чатыры ўздоўж сцэны. Маючы дзесяць такіх шчытоў, можна пры камбінацыі іх з другімі дэталямі дэкарацыі, аформіць не адзін спектакль. На малюнках паказана, якіх удалых вынікаў можна дабіцца шляхам найпрасцейшых перастановак частак афармлення пры нерухомасці яго асновы. Для гэтага ўстановім шэсць шчытоў у якасці асноўнай устаноўкі (мал. 1). Калі да гэтых шчытоў дадаць два шчыты з дзвярамі, а ў задняй сцяне — шчыт з акном, то атрымаецца прахадны пакой (мал. 2). Замяніўшы дзверы вокнамі і ў заднім прасценку паставіўшы дзверы, атрымаем досыць утульны пакойчык (мал. 3). Павесіць на адну бакавую сцяну карціну, у другую замест акна ўставіць арачны праём, ззаду паставіць кавалак балюстрады, за балюстрадай дрэва, і мы атрымаем вельмі прыемны пакой з балконам (мал. 4) і г. д. Такім чынам можна аформіць многа спектакляў.

Пачынаць работу над афармленнем спектакля раім з эскізаў.

Пры стварэнні эскізаў трэба мець на ўвазе: а) памер сцэны — яе шырыню, вышыню і глыбіню; б) рэальныя пастановачныя магчымасці калектыву, прадугледзеўшы ў эскізах толькі такія дэкарацыі, якія калектыў можа зрабіць, зыходзячы з сваіх матэрыяльных магчымасцей; в) эскізы афармлення з'яўляюцца не самастойнымі мастацкімі малюнкамі, а адлюстраваннем на паперы, кардоне або палатне (у меншым памеры) таго, што будзе рэальна існаваць на сцэне; г) неабходна ўстанавіць маштаб і дакладна прытрымлівацца яго як у час стварэння эскізаў, так і ў час выканання афармлення ў натуры. Найбольш зручны маштаб 1:10, 1:20 (1 сантыметр на эскізе раўняецца 10-ці, 20-ці см. у натуры); д) памер дэкарацый павінен быць прапарцыянальны росту чалавека. Для гэтага карысна на эскізе намаляваць фігуру чалавека, якая адразу акрэсліць правільнасць знойдзеных мастаком прапорцый. Нельга, напрыклад, праектаваць і будаваць дэкарацыі шматпавярховага дома на малой сцэне, таму што гэта неpraўдападобна выглядае, асабліва калі побач з ім стане выканаўца ролі — жывы чалавек і калі яго галава будзе на ўзроўні 2-га або 3-га павярху.

У эскізе таксама трэба размеркаваць, адкуль павінна будзе падаць святло, каб асвятліць дэкарацыі і дзеючых асоб. Пры гэтым трэба ўлічваць прылады асвятлення, каб найбольш яскрава «падсвяціць» галоўнае ў той ці іншай карціне спектакля. Таксама трэба ўдакладніць колер асвятлення. Мастак павінен прадумаць усе дэкарацыі ў матэрыяле, гэта значыць, ён павінен ведаць, як і з якога матэрыялу будзе зроблена тая ці іншая частка (дэталь) дэкарацыі.

Дэкарацыі павінны быць лёгкімі для перастаноўкі, зручнымі для ўмацавання, простымі па канструкцыі, каб яны не перашкаджалі выканаўцам на сцэне і каб не парушалі праўды сцэнічнага жыцця, а таксама каб яны былі зручнымі для перавозкі, таму што калектывам часта прыходзіцца выязджаць са спектаклямі ў суседнія калгасы, сельскія советы і г. д.

**К. СТЭЦКІ,**
**метадыст Рэспубліканскага дома народнай творчасці.**

## Вы набіраеце „07"

**Вам патрэбна тэрмінова парагаварыць з родзічамі ці знаёмымі, якія жывуць за тысячы кіламетраў ад Мінска. Ні пісьмо, ні тэлеграма задаволіць вас не могуць. Тады вы падыходзіце да тэлефоннага апарата і набіраеце «07» — нумар Мінскай міжгародняй тэлефоннай станцыі.**

**— Закажыце мне Комсамольск-на-Амуры, — просіце вы.**

**Адна з тэлефаністак заказной службы, якая адказвала вам, за некалькі секунд афармляе заказ на размову і запоўнены бланк перадае на кантрольна-размеркавальны стол.**

**Праз такія буйнейшыя вузлавыя пункты, як Масква, Ленінград і Кіеў, можна наладзіць размову з любым населеным пунктам Савецкага Саюза, дзе ёсць тэлефонная сувязь. А там, дзе такая сувязь яшчэ не ўстаноўлена (далёкая поўнач, тайга, горныя раёны), на дапамогу прыходзіць радыё, і размова з аддаленым пунктам ажыццяўляецца пры дапамозе так званай радыё-тэлефоннай сувязі.**

**За суткі праз Мінскую міжгароднюю станцыю ажыццяўляецца каля 7 тысяч размоў. У час найбольшага напружання за гадзіну іх бывае да 700. Тэлефонныя размовы вядуцца на токах рознай частаты. Гэта дае магчымасць некальнім абанентам гаварыць па адной і той-жа лініі адначасова і не перашкаджаць адзін другому. У хуткім часе па адной лініі можна будзе весці адначасова 480 размоў. Над стварэннем апаратуры, якая дазволіць весці столькі размоў, паспяхова працуюць совецкія сувязісты.**

**...Камутатарная зала. Злева і справа двума доўгімі радамі цягнуцца дзесяткі тэлефонных прыстасаванняў. На роўных адлеглацях адна ад другой каля апаратаў нізка схіліліся тэлефаністкі ў навушніках. Каля апаратаў бясшумна ходзіць начальнік камутатарнай залы Марыя Міхайлаўна Апарцава. За выкананнем заказаў і нагрузкай тэлефонных ліній сочыць старшая тэлефаністка Ія Паўлаўна Шэлег. Акрамя гэтых старэйшых сувязістак, усе астатнія ў зале — комсамольцы і моладзь.**

**Восьмы год на лінейным камутатары працуе комсамолка Майя Александровіч. Яна хутка дабіваецца ажыццяўлення далёкіх транзітаў. Многія тэлефоны Масквы яна выклікае з Мінска пры дапамозе спецыяльных прыстасаванняў. Без перабояў наладжвае тэлефонную сувязь з Полацкам і Оршай комсамолка Людміла Гарнашэвіч. Заўсёды беспамылкова афармляе бланкі заказаў вопытны тарыфікатар Валя Брагіна.**

**За сістэматычнае перавыкананне норм выпрацоўкі маладыя тэлефаністкі Вера Балуха, Ліда Бура, Нэла Стэцкая, Вера Шкурдзе і Тамара Дзергачова ўзнагароджаны граматамі.**

**А. ЗАЯЦ.**

# З НАШАЙ ПОШТЫ



## Сябры Надзі Наганавай

У вёсцы Адамкова, паблізу Брэста, жыве сям'я аднаго з гераічных абаронцаў Брэсцкай крэпасці лейтэнанта Аляксея Наганава.

Яго дачка Надзя ведае свайго бацьку толькі з успамінаў маці, бо нарадзілася яна ў хуткім часе пасля бацькавай смерці. Маці часта расказвала аб марах бацькі: ён хацеў, каб дзецям жылося шчасліва і за гэта аддаў сваё жыццё.

У Надзі шмат сяброў. Адпачываючы ў міжнародным піянерскім лагеры ў Польшчы, яна пазнаёмілася з многімі дзецьмі з-за рубяжа. Дзяўчынкі і хлопчыкі, знаёмячыся з Надзяй, называлі свае імёны:

— Янка... Польшча.
— Стэфа... Балгарыя.
— Курт... Германія.

Да Надзі падышла бялявая дзяўчынка з касічкамі і падала польскі значок, а тая аддала ёй свой.

Дзеці хутка здружыліся, адчулі сябе, як дома.

— Яніна, — назвала сябе дзяўчынка.

Паміж імі завязалася шчырая дружба.

... Калі настаў час ростані, у надзіным блакноце было каля ста адрасоў з Польшчы, Балгарыі, Фінляндыі, Францыі, Венгрыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і іншых краін.

У адным са сваіх пісем Яніне ў Польшчу Надзя расказала аб тым, як радасна і шчасліва жывуць дзеці ў Совецкай краіне. Аб сабе паведаміла, што вучыцца ў сёмым класе, усе адзнакі ў яе выдатныя, працуе старшынёй совета атрада і рыхтуецца да вялікай падзеі ў сваім жыцці — уступлення ў комсамол.

Пісьмы са штэмпелем «міжнароднае» няспынна ідуць Надзі Наганавай. Дзімка Ангелава, Тонке Іванова, Еленке Дзімітрава з Балгарыі прыслалі паштоўкі з балгарскімі пейзажамі, цікавымі малюнкамі. На кожнай надпісы — «На память далёкой подруге Наде», «В честь нашей дружбы», «Мы всегда будем вместе». Зусім нядаўна прышло пісьмо з Асеноўграда з Балгарыі ад незнаёмай дзяўчынкі Даночке Запранавай.

«Добры дзень, дарагая Надзя! — піша Даночке. — Твой адрас мне дала наша важатая Благе Кажухарава».

Паштоўка-сувенір з відамі Ніцы прышла з Францыі. Яе прыслала Марыета. З Фінляндыі напісала Рытва. На ўсе пісьмы Надзя дае адказы, дзеліцца са сваімі сябрамі поспехамі ў вучобе.

**М. КВОЧКІН, А. БЛЯХЕР.**
Рэчыцкая сярэдняя школа
Брэсцкага раёна.

На здымках: (уверсе) Надзя Наганава (трэцяя справа) сярод піонераў сваёй школы; (унізе) паштоўкі, прысланыя Надзі з розных краін.




## Новы штотыднёвы часопіс „Ніва“

У Беластоку пачынае выдавацца штотыднёвы грамадска-культурны часопіс «Ніва» на беларускай мове.

У Беластоцкім ваяводстве жыве больш 120 тысяч беларусаў, пераважна ў Тайноўскім, Бельскім і Беластоцкім паветах. У некалькіх дзесятках пачатковых і трох сярэдніх беларускіх школах навучаецца беларуская моладзь. Беларускае насельніцтва з вялікай радасцю даведалася аб выхадзе часопіса. Рэдакцыя ўжо атрымала некалькі дзесяткаў лістоў.

Акрамя мясцовай інфармацыі, часопіс будзе шырока адлюстроўваць жыццё Совецкай Беларусі.

«Ніва» будзе служыць далейшаму ўмацаванню польска-совецкай дружбы.

## Вялізныя косці маманта

Жыхар Харкава Лук'янчыкаў, капаючы непадалёк ад свайго дома, натрапіў на глыбіні больш двух метраў на вялізныя косці. Доследамі археолагаў устаноўлена, што гэта косці пярэдніх і задніх канечнасцяў мамонта. Яны большыя за косці канечнасцяў індыйскіх і афрыканскіх сланоў, а таксама большыя, чым у вялікага таймырскага мамонта, шкілет якога захоўваецца ў Ленінградскім заалагічным музеі. Знойдзеная косць бядра мае даўжыню 1м. 16 см., пляча — 96 см.

## Зубр турыст

У Белавежскай пушчы, у той частцы, што знаходзіцца ў Польскай Народнай Рэспубліцы, жыве на свабодзе група зуброў. Звычайна зубры трымаюцца статкам. Адзін з маладых зуброў, якога завуць «Падарунак», атрымаў славу турыста. Ён некалькі разоў пакідаў статак, каб вандраваць па вялікай, у 4,7 тыс. га., пушчы. Але кожны раз ён вяртаецца да свайго статку. Апошні, трэці раз, ён дайшоў да Белавежскага запаведніка ў Беларускай ССР, дзе быў некалькі дзён. Потым беспашпартны вандроўнік зноў вярнуўся да свайго статку.

## Адкрыцці на востраве „Пасхі“

У Осло атрыманы першыя звесткі аб сэнсацыйным адкрыцці на востраве «Пасхі», якое зрабіла нарвежская археалагічная экспедыцыя пад кіраўніцтвам вядомага падарожніка Тура Хейердала, кіраўніка выдатнага падарожжа ад берагоў Амерыкі да астравоў Палінезіі на плыце «Кон-Тікі», пабудаваным па старажытных узорах індзейцаў.

Востраў «Пасхі» знаходзіцца непадалёку ад экватара, на адлегласці 3,5 тысячы міль ад Чылі, і вядомы велізарнымі фігурамі, высечанымі з каменя.

Экспедыцыя Хейердала знайшла на схілах вулкана Рану-Рараку шэраг гіганцкіх каменных фігур, якія на працягу многіх стагоддзяў былі пахаваны пад абломкамі скал і вулканічным попелам. На грудзях першай фігуры маецца малюнак, высечаны на камені, ізабражэнне парусная судна з тры мачты і шэсць парусоў.

Іншыя фігуры пакрыты арнаментам, які супадае па свайму характару з арнаментам поўднёва-амерыканскіх інкаў.

На схілах узвышша Рана-Као адкрыта некалькі тэрас, умацаваных сценамі, характэрнымі для культуры інкаў.

## Знаходкі ў Перу

Французскі археолаг Б. Флорне ў час археалагічных даследаванняў у Перу, у вярхоўях ракі Амазонкі, знайшоў у мясцовасці Тантамао рэшткі цывілізацыі, старэйшай за цывілізацыю інкаў. У старажытных паселішчах VIII—XII стагоддзяў, размешчаных у гарах на вышыні каля 3000 метраў, акрамя жылля, маюцца храмы і чатырохпавярховыя грабніцы, у якіх знойдзены штучна знявечаныя чарапы людзей.

# НА АНТАРКТЫДЗЕ

У снежні 1955 года два акіянскія дызельэлектраходы «Об» і «Лена» адплылі ад прычалаў Калінінграда і ўзялі курс да берагоў Антарктыды. Прайшло нямнога часу, і яны дасягнулі поўднёвага мацерыка.

Комплексная экспедыцыя Акадэміі навук СССР, якую ўзначальвае доктар геаграфічных навук М. М. Сомаў, павінна правесці ў 1956 г. падрыхтоўчыя работы да пачатку шырокіх даследаванняў не толькі самога мацерыка, але і прылягаючых да яго раёнаў акіяна.

Што-ж уяўляе сабой Антарктыда, чаму вучоныя многіх краін парашылі заняцца вывучэннем гэтага мацерыка?

Па свайму рэльефу гэта — плоскаўзгор'е, якое дасягае вышыні 2—3 тысяч метраў над узроўнем мора. Поўднёвы полюс знаходзіцца на вышыні прыблізна 2900 м. над узроўнем мора. Гіганцкі лёдавы панцыр таўшчынёю ў 1—2 кілометры скоўвае ўсю паверхню кантынента. Толькі найбольш высокія горныя ланцугі вырываюцца з-пад лёдавага пакрову і цямнеюць на заснежанай пустыні. У апошнія гады тут знойдзены запасы каменнага вугалю, медных і свінцовых руд, жалеза, золата, срэбра і іншых карысных выкапняў.

Суровая прырода Антарктыды. Сярэдняя гадавая тэмпература паветра на большай частцы яе тэрыторыі складае мінус 25 градусаў. У кароткія летнія дні сонца падымаецца невысока. Тэмпература ў цэнтры мацерыка ніколі не падымаецца вышэй 0°. Калі настае палярная ноч, пачынаюцца моцныя маразы з вятрамі, якія дасягаюць 60 градусаў. Сярэднегадавая хуткасць ветру складае 80 км. у гадзіну. Павольна расцякаючыся ва ўсе бакі, лёдавы панцыр ля берагоў крута абрываецца. Так утвараюцца айсбергі — велізарныя лёдавыя горы, якія плаваюць у прыбярэжных водах.

Яшчэ ў вельмі далёкія часы многія вучоныя лічылі, што ля поўднёвага полюса павінна быць вялікая зямля. Старажытныя грэкі называлі гэтую зямлю Антарктыдай і лічылі, што яна акружана вогненным кальцом. Не адзін раз мораплаўцы адпраўляліся на пошукі Антарктыды, але, сустрэўшы на сваім шляху непраходныя льды, вярталіся назад. У XVIII стагоддзі англійскі мараплавец Кук упершыню пранік за Поўднёвы палярны круг і вярнуўся з экспедыцыі з цвёрдым перакананнем, што ніякага шостага мацерыка няма.

У 1819 г. для пошукаў поўднёвага мацерыка выйшлі з Кранштадта ў антарктычныя воды рускія шлюпы «Усход» і «Мірны» пад камандаваннем капітана 2 ранга Ф. Ф. Белінсгаузена і лейтэнанта М. П. Лазарава. 16 студзеня 1820 года судны былі ўжо ля антарктычнага мацерыка. Нягледзячы на цяжкасці плавання, экспедыцыя Белінсгаузена і Лазарава дала багатыя вынікі. Яна ўпершыню зрабіла цікавыя метэаралагічныя назіранні, вывучыла час прыліваў і адліваў, вызначыла магнітнае схіленне. Акрамя таго, яна ўпершыню асвятліла гідралагічныя і кліматычныя ўмовы гэтага мацерыка і нанесла на карту многія адкрытыя ёю астравы і зямлю Аляксандра I.

Аднак, нягледзячы на тое, што з моманту адкрыцця шостага мацерыка прайшло 135 год, Антарктыда ўсё яшчэ застаецца «белай плямай» на карце свету. І дагэтуль яшчэ мы не ведаем, з'яўляецца Антарктыда адзіным мацерыкам, або групай астравоў, пахаванай пад тоўшчай ільдоў і снягоў.

Гіганцкі лёдавы шчыт з'яўляецца велізарным прыродным халадзільнікам, які распаўсюджвае свой уплыў далёка за межы высокіх шырот Поўднёвага поўшар'я. Адсюль ва ўсе бакі расцякаюцца халодныя паветраныя масы, якія садзейнічаюць развіццю актыўнай цыркуляцыі атмасферы. Таму, калі вывучыць метэаралагічныя ўмовы і працэсы кліматаўтварэння ў Антарктыдзе, можна будзе больш дакладна прагназіраваць надвор'е.

Па дамоўленасці, за кожнай краінай, якая прымае ўдзел у вывучэнні Антарктыкі, замацаваны пэўныя раёны. У гэтых раёнах у 1956 г. будуць створаны навуковыя базы.

Усе станцыі будуць падтрымліваць паміж сабой радыёсувязь, абменьвацца навуковымі нагляданнямі і вывадамі.

**Е. ГУЦАУ,**
кандыдат геаграфічных навук.

# ПАВАЖАЦЬ ЧАЛАВЕКА — ПЕРШ ЗА ЎСЁ

З гэтага нумару мы пачынаем друкаваць водгукі на пісьмо М. Валошкі «Што вы параіце?», змешчанае ў № 2 «Маладосці» за 1956 год. Просім чытачоў выказацца па закранутых у пісьме пытаннях — аб дружбе, таварыстве, каханні.

**Мяне зацікавіла пісьмо Мікалая Валошкі, у якім ён расказвае пра гісторыю адносін Віктара з Клавай. І мне хочацца выказаць сваю думку па гэтаму пытанню, тым больш, што такія гісторыі здараюцца не толькі з адным Віктарам, але і яшчэ з некаторымі маладымі людзьмі, якія, я лічу, няправільна разумеюць пытанні сяброўства, таварыства, кахання, шчасця.**

**Я лічу, што Віктар памыляецца, сцвярджаючы, што калі паміж людзьмі няма ўзаемнага кахання, то паміж імі не можа быць поўнай шчырасці, давер'я, таго, без чаго няма сяброўства. Гэта памылка. Жыццё паказвае адваротнае.**

**Я ведаю нямала выпадкаў, калі паміж хлопцамі і дзяўчатамі было сапраўднае сяброўства без узаемнага кахання.**

**Мой сябра Валодзя Г. расказваў мне пра сваё сяброўства з Надзяй С. Гэтае сяброўства ўзнікла, калі яны яшчэ вучыліся ў школе. І якое шчырае, чыстае, светлае было яно!**

**Валодзя з Надзяй разам вучылі ўрокі, нават за адной партай сядзелі, разам гулялі, кнігі чыталі, у кіно хадзілі, марылі, спрачаліся.**

**Іх дружба падвяргалася праверцы, выпрабаванням, але яна вытрымлівала ўсе гэтыя выпрабаванні. Калі здарылася, што Надзя, як і Клава, захварэла. Валодзя наведваў яе. падтрымліваў яе настрой, дапамагаў ёй у вучобе. І ўсё гэта было проста, шчыра, без якога-небудзь разліку, што ён гэтым дабецца кахання Надзі. Не, Валодзя лічыў гэта натуральным, звычайным, бо інакш і быць не можа.**

**Калі-ж здаралася, што Валодзя ў чым-небудзь памыляўся, Надзя моцна яго крытыкавала, прама ўказвала свайму сябру на яго недахопы. дапамагала яму выпраўляць памылкі. І такія адносіны паміж імі садзейнічалі іх маральнаму і духоўнаму росту.**

**Праўда, прызнаваўся Валодзя, былі выпадкі, што ў яго паяўляліся пачуцці кахання да Надзі, і ён рабіў спробы сказаць ёй аб гэтым. Але Надзя самым рашучым чынам не допускала гэтага. І ўсё-такі Валодзя не сказаў, як Віктар, што «з сённяшняга дня мы толькі знаёмыя — не больш».**

**Валодзя паважаў Надзю, давяраў ёй, як самаму лепшаму сябру. Нельга казаць, што ён не кахаў яе. Мне ён прызнаўся, што сапраўды моцна кахае Надзю. Але патрабаваць кахання ад Надзі ён лічыў негазумным, бо сілай любіць не прымусіш. Валодзя сваёй працай, вучобай, жыццём імкнуўся быць вартым кахання Надзі. Ён верыў, што калі паміж імі ўстанавіліся такія добрыя, шчырыя таварыскія адносіны, то няма ніякіх перашкод таму, каб у іх узнікла ўзаемнае каханне. Валодзя ведаў, што ў аснове сапраўднага кахання павінна ляжаць шчырае сяброўства, што без сяброўства, без узаемнай павагі не можа быць сапраўднага кахання.**

**А што атрымалася ў Віктара з Клавай? Віктар бачыў у Клаве перш за ўсё дзяўчыну, а не чалавека з гонарам за сваю чалавечую вартасць. Ён не цікавіўся, чым яна жыве, што думае, які яе ўнутраны свет, чаму яна не адказала на яго каханне ўзаемнасцю. Я лічу, што паміж імі не было сапраўднай дружбы, што яны не былі сапраўднымі сябрамі, хоць, можа быць, Віктар лічыў, што яны з Клавай — сябры. Не, калі-б Віктар па-сапраўднаму паважаў Клаву, то ён так лёгка не адмовіўся-б ад яе. І правільна рабіла Клава, калі не адказала ўзаемнасцю на так званае каханне Віктара. У Віктара можа і было пачуцце кахання да Клавы, але-ж у яго не было пачуцця сапраўднага сяброўства, павагі, без якога не можа быць моцнага кахання. І Клава гэта, думаю, бачыла і разумела. Віктар-жа, відаць, не разабраўся ў сваіх пачуццях, адразу і лёгка адштурхнуў ад сябе добрую дзяўчыну. Ён зрабіў паспешлівыя вывады, неабдуманыя, легкадумныя, памылковыя.**

**Клава ў гэтым выпадку аказалася дзяўчынай цвёрдай, прынцыповай, маральна вытрыманай, сапраўднай дзяўчынай, выхаванай у духу комуністычнай маралі.**

**І такіх дзяўчат у нас вельмі многа. Але шкада, што не ўсе дзяўчаты даражаць так сваім чалавечым гонарам, гонарам дзяўчыны, сваёй годнасцю. Сустракаюцца яшчэ такія, якія, павяруўшы ўспышцы мімалётнага пачуцця якога-небудзь хлопца, не разбяруцца добра ні ў чым — і згодны замуж выходзіць. А праз які-небудзь месяц выяўляецца, што яны характарамі не сышліся. Пачынаюцца сваркі, справа даходзіць да суда — маладажоны разыходзяцца.**

**Памыляюцца ў такіх выпадках і хлопцы, якія ўспышку пачуцця прымаюць за сапраўднае каханне, а пасля, калі гэтая ўспышка праходзіць, высвятляецца, што кахання не было.**

**Мае вывады па гэтаму пытанню такія.**

**У аснове ўсякага кахання павінна ляжаць сяброўства, дружба, узаемная павага, давер'е, шчырасць. Без гэтага сапраўднага кахання быць не можа. Нельга пасапраўднаму кахаць чалавека, калі не паважаеш яго. Павага — перш за ўсё. На кожнага чалавека патрэбна глядзець перш за ўсё не як на хлопца або дзяўчыну, а як на чалавека і паважаць яго патрэбна як чалавека.**

**П. НЕСЦЯРОВІЧ,**

старшы піонерважаты сярэдняй школы № 2 г. п. Беразіно Мінскай вобл.

*Што вы параіце?*

---

**Ф. ВАЎЧОК**

# ЛЯСНЫЯ ІНЖЫНЕРЫ



Мал. В. Ціхановіча

Над дрымучым лесам адшумела першая вясновая навальніца. На ўсходзе, з-за верхавін дрэў, паказаўся круглы месяц. Дажджавыя кроплі на траве і дрэвах запаліліся маленькімі срабрыстымі агеньчыкамі.

На асветленай месяцам рэчцы пачуўся ўсплёск, бульканне вады. Вось каля берага расхінуўся густы сітнік. З вады вылез мокры звер ростам з сярэдняга сабаку, пакрыты бурай поўсцю. Гэта бабёр. Яго тупамордая галава з круглымі вушамі і парай шчотачак рэдкіх вусоў на хвіліну ўставілася ў бок цёмнай сцяны лесу. Ціха...

Звер прайшоў па беразе. Пад яго гусінымі лапамі зашамацела росная асака. Вось ён прысеў на траву, пярэднімі лапамі націснуў на дзве пары мускусных і тлушчавых залоз, размешчаных на ніжняй частцы жывата, размазаў выціснуты мускус і тлушч па ўсім целе, а заднімі лапамі, нібы грабёнкамі, расчасаў поўсць на жываце, баках і галаве. Пры гэтым ён то прысядаў на хвост, то прылягаў на жывот, стараючыся расчасаць спіну і нахіленую на бок галаву.

Недзе на балоце санліва крыкнула чапля. У гушчары лесу забрахала ліса. Над рэчкай «таўклі мак» камары. Бабёр перайшоў край балота, паласаваўся на лясной палянцы конскім шчаўем, пакачаўся па мокрай траве, а потым зноў плюхнуўся ў ваду і паплыў уверх па рацэ.

Грызуну было ўжо два гады. Упершыню ў сваім жыцці ён адважыўся назаўсёды пакінуць сваю сям'ю, хатку, дзе нарадзіўся і вырас.

На правым беразе зноў зашамацела трава, трэснула сухая галінка. Да ракі падыйшла худая выліняўшая ліса, па-сабачы, языком напілася цёплай рачной вады, падняла галаву і прыслухалася. Яшчэ здалёк бабёр заўважыў яе, удыхнуў як мага больш паветра і нырнуў у ваду. Грызуну не ўпершыню плаваць ноччу пад вадой. Ён плыве вобмацкам, расхіляючы галавой і лапамі карэнішчы лілей, сцяблы чароту. Разбуджаныя рыбы шугаюць з-пад самага яго носа.

Мінут праз пяць бабёр усплыў на паверхню, пакінуўшы далёка ззаду рыжую драпежніцу. Хіба магчыма ёй цягацца з такім плыўцом!

Рака ўжо зрабіла некалькі паваротаў, ужо залаты месяц падняўся да сярэдзіны неба, а бабёр усё плыў і плыў. Раптам лёгкі ветрыкданёс рэзкі пах мускусу. Гэта першая прыкмета жылля баброў. Бабёр-вандроўнік хуценька схаваўся ў зарасніках чароту, насцярожыўся.

Злёгку шуміць чарот, шамаціць асака. Скрозь срабрыста-матавую смугу ночы віднеецца невялікі стажок — хатка баброў.

Да слыху бабра даносяцца знаёмыя гукі. Гэта мясцовыя бабры падгрызаюць дрэва. Калі добра прыслухацца, можна пачуць сапенне хвастатых дрывасекаў.

Знянацку бабёр зачапіў лапай шырокі ліст лілеі. Пачуўся слабы ўсплёск. Дрывасекі прыціхлі, і раптам адзін за другім кінуліся ў ваду. Яны паспелі разгледзець парушальніка іх уладанняў. Грызун нырнуў глыбей за іх, каб перахітрыць і ўцячы. Вось над ім праплылі дзве цёмныя плямы. Гэта яны, мясцовыя бабры. Уцякач з усёй сілы перабірае лапамі. Хутчэй, хутчэй-бы ўцячы, схавацца!

Толькі за паваротам ракі супакоіўся бабёр-вандроўнік. І не дзіва: калі-б яго напаткалі чужыя бабры, яны-б яго загрызлі да смерці. Так ужо вядзецца ў бабрыным жыцці: пры сустрэчы з незнаёмымі аднапляменнікамі знішчаць іх.

Ужо чацвёртыя суткі вандруе малады бабёр. Многа новага ўбачыў, многа страху перажыў ён за гэты час. На світанні грызун сустрэў бабрыху і паплыў з ёю ўніз па рацэ. У зарасніках чароту бабры заўважылі вострапоскі човен. Адзін з грызуноў падплыў да чаўна і паспрабаваў скрануць яго з месца. Човен, выцягнуты на бераг, не паддаваўся. Бабры яшчэ некалькі мінут пакруціліся каля яго, а потым пачалі разграбаць зямлю пад высунутай на бераг часткай чаўна. Іх моцныя лапы з тоўстымі кіпцюрамі і перапонкамі паміж пальцаў лёгка капалі тарфяністую глебу. Выкапаную канаву хутка запоўніла вада. Човен уздрыгнуў і пад намаганнямі землякопаў выплыў на сярэдзіну ракі. За ім кінуліся грызуны. Першай у човен залезла бабрыха і яшчэ раз па-гаспадарску агледзела яго, але там, акрамя ахапкі вялай асакі ды іржавай бляшанкі з-пад кансерваў, больш нічога не знайшла. Бабрыха паспрабавала грызці бляшанку, але, разрэзаўшы верхнюю губу, яна выкінула бляшанку ў ваду. Бабёр, як больш вопытны вандроўнік, размясціўся на карме, і, апусціўшы ў ваду хвост, па-майстэрску кіраваў чаўном.

Раніцай з вяслом у руках да стаянкі чаўна прышоў стары ляснік. Першае, што ён заўважыў, — гэта прымятую траву ды раскапаны бабоцістаы бераг. А чаўна як і не было.

— Ах, нягоднікі! — толькі і сказаў ляснік, здагадваючыся, чыя гэта работа. Стары заспяшаўся ўніз па рацэ.

Прайшоўшы кілометры тры, ён раптам заўважыў даволі цікавую карціну. Пасярод ракі плыў човен. На яго карме, нібы сапраўдны рулявы, сядзеў бабёр і апушчаным у ваду хвастом спрытна кіраваў чаўном. Бабрыха-пасажыр размясцілася на лавачцы пасярэдзіне чаўна. Яна клапатліва змазвала мускусам і тлушчам сваю поўсць, а потым расчэсвала яе лапамі. Ляснік спыніўся, здзіўлены нябачаным відовішчам.

— Трымайце! Трымайце зладзеяў! — скрозь смех закрычаў стары.

Дзе толькі дзелася велічная спакойнасць баброў! У адзін момант яны плюхнуліся ў ваду, толькі човен загойдаўся ды па рацэ ва ўсе бакі паплылі кругі.

— Вось прыблуды! Хоць-бы да берага падагналі, — смяяўся стары. Хоць і не хацелася яму, а ўсё-ж прышлося распранацца і плысці за чаўном.



— Раскажы каму-небудзь і, дальбог, не паверыць, — разважаў стары, вяртаючыся назад з адабраным чаўном.

Бабры пасяліліся ў дзесяці кілометрах ад той хаткі, дзе нарадзіўся малады грызун. Няўтульна і небяспечна жыць на новым месцы. На кожным кроку грызунам пагражаюць драпежнікі.



Як ні страшна выходзіць на бераг, але трэба будаваць жыллё. Лёгка сказаць — пабудаваць хатку! А колькі карпатлівай працы, сілы патрэбна толькі для таго, каб зваліць адно дрэва!

Перавальваючыся з нагі на нагу, да тоўстай асіны падыходзяць бабёр з бабрыхай. Яны становяцца на заднія лапы, пярэднімі абхватваюць ствол дрэва і пачынаюць грызці. З-пад шырокіх разцоў сыплюцца кавалачкі мокрай кары, белая стружка.

Грызуны ўжо некалькі разоў адпачывалі ад цяжкай работы. Пасядзеўшы некалькі мінут нерухома, яны зноў і зноў грызлі тоўстую асіну. А калі развіднела і ў лесе прачнуліся першыя птушкі, бабры схаваліся ў прыбярэжным чароце. Боль у сківіцах не даваў ім заснуць. Крыху адпачыўшы, дрывасекі працавалі і днём.

Прайшло некалькі сутак напружанай работы. Дрэва амаль перагрызена. Бабры з небяспекаю паглядвалі на яго верхавіну. Раптам асіна ўздрыгнула і, саскочыўшы з пня, паляцела ў раку. Глухі гул пракаціўся па дрымучым лесе. Напалоханы шумам, бабры адзін за другім кінуліся ў ваду.

Агромністая асіна перагарадзіла раку, лёгшы надломанай верхавінай на процілеглы бераг. Праз поўгадзіны пасмялеўшыя грызуны пачалі цягаць у ваду карчы, каменне, палкі, галінкі дрэў: усё гэта клапатліва ўкладвалася пад дрэва, замацоўвалася плюхой, асакой, клейкім ілам.

Бабры яшчэ раз наведаліся да чаўна і зноў паспрабавалі ўкрасці яго. Але на гэты раз човен быў прымацаваны да жалезнага ланцуга. Дзве ночы працавалі бабры, пакуль перагрызлі човен напалам. Адпаўшую частку яны сплавілі на сваю будоўлю. Убачыўшы такое бясчынства,



ляснік адвязаў ланцуг і адпіхнуў пакінутую палавіну чаўна на сярэдзіну ракі:

— Сапсавалі снасціну, грызіце і астатак, хвастатыя чэрці! — крыкнуў ён нябачным грызунам.

Павольнае цячэнне і другую палавіну чаўна прыгнала да хаткі баброў, якія прынялі знаходку з радасцю.

Ішоў час. Пасярод ракі стажок з вецця паявілічваўся, а праз два тыдні над вадой узвышалася баброва хатка ў два метры вышынёй і такой-жа шырыні. Уваход у хатку схаваны пад вадой. Цяпер ніякі драпежнік не зможа злавіць грызуна.



У сярэдзіне лета рака значна абмялела. З вады паказаўся ўваход у хатку. Грызуны занепакоіліся і пачалі будаваць плаціну некалькімі метрамі ніжэй хаткі. Цэлыя ночы, а часам і дні яны грызлі дрэвы, цягалі ў ваду вецце, карчы, траву, палкі. Усё, што можна было зрушыць з месца, разумныя звяры цягалі і складвалі на рачное дно. А калі плаціна была пабудавана, вада ў рацэ значна павысілася і схавала ад лішніх вачэй уваход у хатку.

Надышла восень.

Бабры пачалі рыхтавацца да зімы. Яны церабілі галінкі дрэў і сплаўлялі іх па рацэ, хаваючы пад плаціну падмытыя ракой карэнні дрэў. Калі праз некаторы час выпаў першы снег, баброва хатка здалёк стала падобна на вялікую снежную гурбу.

У некалькіх месцах на рацэ бабры пралізалі тоўсты лёд. Тут яны пры плаванні запасаліся свежым паветрам, карміліся нарыхтаванымі з восені галінкамі. На рачным дне можна знайсці таксама карэнні чароту і вадзяных лілей, іх бабры вельмі любяць.

Над ракой трашчаць студзеньскія марозы, а ў бабровай хатцы каля дзесяці градусаў цяпла.

У сярэдзіне зімы вады ў рацэ паменшала. Пасярод ракі лёд асеў, а ля берагоў павіс на карчах, паваленых дрэвах. Цяпер бабры маглі плысці каля берага хоць дзесяткі кіламетраў: паветра дастаткова, і яны, як бранёю, прыкрыты тоўстым лёдам.

Скончыўся запас галінак. Бабры пралізалі ў лёдзе адтуліны і вылезлі наверх. Моцны мароз



абпаліў ім лапы і хвасты. Правальваючыся ў снезе, бабры адзін за другім накіраваліся да бліжэйшых дрэў, засыпаных снегам, паласаваліся свежымі галінкамі і хацелі ўжо вяртацца, як раптам на ўскрайку лесу заблішчэлі тры пары воўчых вачэй. Спалоханы грызуны кінуліся да палонкі. Але бягуць яны вельмі нязграбна. Здаецца, яны бездапаможна грабуцца ў глыбокім снезе і амаль сядзяць на месцы. А ваўкі ўсё бліжэй і бліжэй. Вось ужо чуваць як яны ляскаюць зубамі. Але бабры паспелі дабрацца да палонкі і адзін за другім нырнулі пад лёд. Ваўкі з усяго разбегу спыніліся, а пярэдні ледзь не ўляцеў у палонку. Там, акрамя ўскаламучанай вады ды прымёрзлай да ільду асакі, нічога не было, чым маглі-б пажывіцца галодныя звяры. Яны палізалі краі палонкі, якая смачна пахла грызунамі.

Не апамятаўшыся ад страху, бабры сядзелі ў хатцы і палахліва прыслухоўваліся да навакольных гукаў. Двое сутак не асмельваліся яны паказвацца на бераг і харчаваліся толькі вадзянымі раслінамі ды рэшткамі галінак.

На трэцюю ноч бабры зноў выйшлі на бераг. На гэты раз яны пракапалі нару пад снегам і абгрызлі галінкі хмызняку, стваль дрэў. Пад снегам значна цяплей, і не ўсякі драпежнік здагадаецца, што пад яго нагамі поўзае бабёр.

За некалькі тыдняў былі абгрызены навакольныя кусты, а далёка ад палонкі адыходзіць небяспечна. Тут-жа, паблізу ракі, расла маладая таполя, ствол якой ужо другія суткі церабілі дрывасекі. Марудна ідзе работа. Нялёгка грызці мёрзлае дрэва. Трэці дзень бабры працавалі асабліва настойліва, а пад вечар заснулі ў хатцы. Неўзабаве паднялася завіруха. Страшны грукат пакаціўся па лесе. Гэта ад ветру раскалыхалася і ўпала падгрызеная бабрамі прыгажуня-таполя. Грызуны ўсхапіліся са сваіх мяккіх подсцілак і, не распазнаўшы прычыны шуму, плюхнуліся ў ваду і доўга яшчэ плавалі пад лёдам, усё баяліся прыблізіцца да сваёй хаткі.

Але голад — не цётка. Хоць калі, а патрэбна пакінуць раку і паласавацца мёрзлымі, але смачнымі галінкамі. Калі ўлеглася непагода, бабры па выкапанай раней нары падышлі да перагрызенага імі дрэва. Яго карой паспелі паласавацца лось і дзве казулі. Адна з іх яшчэ стаяла каля таполі і выбірала самыя маладыя і тонкія галінкі. Раптам з-пад снегу паказалася галава незнаёмага звера. Спалоханая казуля кінулася ў лес. Толькі снег закуруўся за ёй ды падскокваў уверх куцы хвосцік.

А бабёр, хоць і напалохаўся, усё-ж застаўся на месцы. Ён добра бачыў уцякаўшую казулю. Гэта яна спалохалася яго, бабра. Грызун зусім асмеліўся і пачаў ласавацца тапалёвай карой.



А ў гэты час вярталася казуля. Яна заўсёды вяртаецца, калі добра не разгледзіць, хто яе напалохаў. Падыходзіла асцярожна, уважліва і падазрона разглядваючы незнаёмага звера. Потым супакоілася, і ўсе звяры пачалі ласавацца галінкамі дрэва.

Раптам казуля перастала жаваць і ўставілася маленькай прыгожай галоўкай у бок цёмнай сцяны лесу. Трывогу яе заўважылі бабры і таксама прыслухаліся да начных гукаў. Недзе далёка-далёка вылі ваўкі, на балоце чуліся крыкі людзей і сабачы брэх. Нечакана казуля сарвалася з месца і па снежнай цаліне паскакала на раку. Грызуны кінуліся ў нару.

З лесу выбегла ліса, прыпынілася каля таполі, абнюхала сляды ўцекачоў. На наступную ноч, як толькі з-пад лёду паказаўся бабёр, з-за гурбы снегу выскачыла ліса і ўчапілася ў загрывак бабра. Грызун у роспачы закрычаў, стараючыся вырвацца. Лапы драпежніцы паслізнуліся, і яна разам з бабром звалілася ў палонку. У той-жа момант яна выпусціла ахвяру і выскачыла наверх, а бабёр нырнуў у ваду. Дзве ночы ліса пільнавала баброў, але грызуны не паказваліся. Яны пракапалі другую нару і па-ранейшаму ласаваліся галінкамі дрэў і хмызняку.

Не заўсёды быць халоднай зіме. Па небе вышэй стала хадзіць сонейка. Падзьмулі цёплыя вятры. Прыйшла вясна. У час ледаходу на ляснкой рэчцы ў бабрыхі нарадзілася чацвёра глухіх і сляпых дзіцянят. Кожны нованароджаны важыў каля поўкілограма і быў пакрыты мяккай бурай поўсцю. Бабрыха клапатліва вылізала іх языком, асцярожна прыціснула да жывата, вучачы піць мацярынскае малако, у якім тлушчу ў чатыры разы больш, чым у каровіным. Праз шэсць гадзін у дзіцянят прарэзаліся вочкі, зубы з'явіліся некалькімі днямі пазней, на другі-ж дзень малышы навучыліся плаваць.

Маладыя грызуны з кожным днём усё больш і больш прызвычайваліся да расліннай ежы. Аднойчы на заходзе сонца чацвёра бабранят адно за другім кінуліся ў ваду і паплылі ўверх па цячэнню. Клапатлівая маці ледзь паспявала за імі. Раптам з прыбярэжнага сітніку вынырнуў агромністы шчупак. Перапалоханыя бабраняты кінуліся ўцякаць: хто завярнуў назад, хто схаваўся ў густым чароце. Шчупак вось-вось схопіць бабранятка за рыбін хвосцік. Але ў гэты час падаспела бабрыха і выратавала дзіцянят.

Кожны вечар, як толькі на небе заблішчаць першыя зоркі, уся сям'я баброў пакідае сваю хатку. Яны рамантуюць плаціну, сплаўляюць па рацэ кавалкі дрэў, карчы, вецце. Левы бераг ракі нізкі і балоцісты. Далей расце малады асінавы лес. Бабрам хочацца пагрызці асінак, але страшна адыходзіць ад ракі, і яны пачалі капаць канаву, па якой можна было-б падплысці да дрэў.

Не адзін дзень спатрэбіўся-б землякопу, каб пракапаць канаву каля ста метраў даўжыні, у якой грызун паўтара пуда вагой мог-бы плаваць, а ў выпадку небяспекі — ныраць. Дзень за днём працавалі бабры і выкапалі канаву спачатку кароткую і мелкую, а потым падоўжылі і паглыбілі яе.

Прайшоў год. Зноў настала вясна. Бабраняты падраслі і амаль не адрозніваліся ад бацькоў. Бабрыха зноў нарадзіла трое бабранят. Цяпер сям'я складалася з дзевяці баброў: двое бацькоў, чацвёра мінулагодніх бабранят і трое цяперашняга года. Іх хатка перабудоўвалася ўжо некалькі разоў і зрабілася шырынёй не менш 8 метраў.





# Конь у святле...

Тарас ЖЫГАЛКА

Лекцыі бываюць розныя. Па-першае, добрыя і дрэнныя. Лектары лічаць, што ў іх дрэнных лекцый не бывае. Нават самы дрэнны лектар бачыць сябе Цыцэронам. Па-другое, лекцыі дзеляцца на лірычныя і празаічныя. Першыя з іх асабліва падабаюцца лектарам: яны збіраюць вялікія аўдыторыі, а галоўнае, лірычныя лекцыі лёгка пісаць. Хто, напрыклад, праверыць, што Н. пакінуў М. і ўжо двойчы зарэгістраваў свой шлюб з Л. і К., або што Д. выйшла замуж за В., у якога шасцёра дзяцей, і яны жывуць у любві і згодзе. Па-трэцяе, лекцыі бываюць надземныя (лунаюць у воблаках) і наземныя. Лекцыі надземныя чытаюць людзі, якія або зусім не маюць уяўлення аб тым, што чытаюць, або ўяўляюць гэта вельмі невыразна.

Вы скажаце—гэта вядомыя ісціны. Ну, так. І ўсё-ж я вымушаны быў пачаць з азоў. Справа ў тым, што зусім нядаўна ад Доры Чмы-



халавай да нас паступіла скарга на старшыню калгаса «Маяк» Ягора Рыгоравіча Падкузмішчава.

Што, ёсць пытанні? Калі ласка!

Хто такая Дора Чмыхалава? Лектар. Няўжо вы пра яе не чулі? Я ўпэўнены, што яна выступала і ў вас. Высокая такая, у акулярах, на носе барадаўка, а на ёй дзве валасінкі. Калі Дора гаворыць, валасінкі варушацца, як вусы ў рака. Прыгадваеце? Ну, і добра. Якія яна лекцыі чытае? Пераважна лірычныя: пра каханне, сям'ю, шлюб. У апошні час яна, праўда, перайшла да чытання лекцый аб міжпланетным падарожжы, аб атамным распадзе, аб развядзенні рыб у сажалках сярэдняй паласы Наваградчыны і іншых.

Чаму яна скардзіцца на старшыню калгаса? Давайце дадзім ёй самой слова.

«ДАКЛАДНАЯ

Ад лектара ЦЛБТ

Д. М. Чмыхалавай.

Гэтым паведамляю, што старшыня калгаса «Маяк» Я. Р. Падкузмішчаў абыякава адносіцца да масава-выхаваўчай работы сярод працаўнікоў соцыялістычных палёў. Ён не хацеў дазволіць мне выступаць перад шырокімі масамі. Пры гэтым спасылаўся, быццам я не вывучыла метадаў работы іх калгаса і наогул мая лекцыя ўзор сафістыкі. (Ён сказаў груба—тарабаршчыны.) Між тым, маю лекцыю рэцэнзаваў кандыдат навук тав. П. С. Абламей, які спецыяльна займаўся даследаваннем гэтага пытання. (Тэзісы лекцыі прыкладаю.) Я. Р. Падкузмішчаў, каб адвезці мяне ў суседні калгас «Прагрэс», запрог прадстаўнікоў рагатай жывёлы, т. зв. валоў, выдаючы іх за палепшаную пароду коней. У выніку я спазнілася, і ў «Прагрэсе» лекцыю прачытаў малавопытны лектар—старшы конюх, які не здолеў глыбока і па-навуковаму асвятліць пытання. Прашу прыцягнуць вышэйпамянёнага Я. Р. Падкузмішчава да строгай адказнасці.

Лектар ЦЛБТ Чмыхалава»

Як відаць з дакладной, старшыня калгаса жорстка пажартаваў над лектарам і варты суровага пакарання. Аднак, не будзем вырашаць пытанні наспех. Давайце разбярэмся як трэба. Вывучым тэзісы, прарэцэнзаваныя вучоным мужам П. С. Абламеем.

### ТЭЗІСЫ

Тэма. Конь, як фактар далейшага росквіту народнай гаспадаркі у святле гістарычных задач на даным этапе.

Лекцыя напісана Д. М. Чмыхалавай.

План лекцыі:

I. Гістарычная эвалюцыя каня, як пераход колькасных паказчыкаў у якасныя.

II. Конь у літаратуры.

III. Выкарыстанне каня на даным этапе і далейшыя перспектывы.

### I

Конь адыгрываў рашаючую ролю ў гісторыі чалавецтва. Паходы Атылы, Чынгіс-хана праводзіліся на конях. Аднак за масай коней не губляўся індывідуум. Напрыклад, грэчаскі палкаводзец Аляксандр Македонскі прымушаў аддаваць пашану свайму каню «Буцэфалу».

На тэрыторыі СССР конь бытуе з даўніх часоў. Пацверджанне гэтаму—малюнкі коней на Чартамлыцкай і Куль-Обскай вазах (I тысячагоддзе да н. э.)

Пётр I таксама ездзіў на кані. Доказ: паэма «Медны коннік».

### II

Тэма каня ў сусветнай літаратуры стаіць побач з тэмай кахання. Паэты ўдзялялі каню вялікую ўвагу.

Скребницей чистил он **коня**.
Что ты ржешь, мой **конь** ретивый.
Смешались вместе **кони**, люди.

(Падкрэслена намі. Д. Ч.)

Спаслацца на геніяльнае даследаванне П. С. Абламея «Конь у літаратуры».

З гістарычных палотнаў прывесці ў якасці прыкладу скульптуры на Анічкавым мосце ў Ленінградзе, «Асілкі» — карціна Васнецова і г. д.

### III

Пераходзячы да практычнага выкарыстання каня ў народнай гаспадарцы, прывесці верш вядомага паэта-песенніка: «Эй вы, коні, вы коні стальные!» Гэта паказвае на пераход да механізацыі сельскай гаспадаркі.

Прымяненне каня.

1. Верхавая язда. (Пацвярджэнне: кінофільмы «Смелыя людзі», «Застава ў гарах»).



2. Масавыя мерапрыемствы (вяселлі, кірмашы, прагулкі, напрыклад, у фільме «Кубанскія казакі»).

3. Для перавозак грузаў. (Від прымянення, найгорш асветлены нашым мастацтвам і друкам.)

Для практычнага выкарыстання каня ў мэтах перасоўвання грузаў (у простанароддзі гэты працэс называецца перавозкай) неабходна мець: а) вышэйпамянёнага каня; б) фурманку (драўлянае прыстасаванне на колах або на лыжападобных бруссях); в) вупраж: хамут (прыстасаванне накшталт выратавальнага круга, у якое прадзяваецца галава каня); сядзёлку (не блытаць з сядлом), лейцы, аброць і дугу, якая служыць для таго, каб на ёй можна было вешаць званочак. Гэта пацвярджаецца рускай народнай песняй:

«И колокольчик, дар Валдая,
Звенит уныло под дугой».

Працэс прымацавання каня да фурманкі пры дапамозе вышэйназванай вупражы, называецца запраганнем.

Каб запрэгчы каня, яго неабходна паставіць паралельна аглоблям хвастом да фурманкі.

(У народных казках упамінаецца запраганне каня за хвост. Аднак гістарычны вопыт не пацвярджае гэтай практыкі. Запраганне за хвост трэба лічыць перажыткам мінулага.)

Догляд каня. Працэс падтрымання жыццедзейнасці конскага арганізма пры дапамозе ўвядзення ў яго канцэнтратаў і сена называецца кармленнем.

Каня трэба карміць згодна распрацаванага рацыёна тры разы ў дзень:

з 7 гадзін да 8 — снеданне;
з 13 гадзін да 14 — абед;
з 18 гадзін да 19 — вячэра.

Карысна даваць вітаміны.

Чатыры разы ў месяц каня вартамыць пад душам.

Закончыць лекцыю словамі песні:

«Мы с чудесным конем
Все поля обойдем,
Соберем и посеем и вспашем»...

Цяпер вы знаёмы з Дорай Чмыхалавай і яе лекцыяй. Куды вы яе аднясеце?

Ёсць пытанні?.. Калі ласка.

Што гаворыць у сваё апраўданне тав. Падкузмішчаў?.. Дадзім яму слова:

«Якіх вы нам лектараў прысылаеце? Смеху варта. Мелюць языком, а пра што і самі не ведаюць. Вось гэтая, як яе, Чмыхалавай, здаецца, завуць, доўгая такая, у акулярах, калгаснікам пра каня такое расказвала, што ў нас ад смеху жываты балелі. Ёй-бы ў цырку клоунам выступаць, а яна да калгаснікаў лезе. Нас цікавіць, як конегадоўля ў іншых калгасах пастаўлена, як трэба дагледзаць каня. А яна нам пра вітаміны. Самі падумайце, таварышы, хіба можна цярпець такіх лектараў? І наогул, многа ў нас тарабаршчыны. У паднябессі лунаем і нічога не бачым, што на зямлі робіцца. Сорам адзін, вось што, дарагія таварышы.

А наконт жарту, вінаваты. Толькі вось як яно ўсё было. Выходзіць, значыць, лектар з клуба і гаворыць мне: «Таварыш Падкузмішчаў, адвязіце мяне ў «Прагрэс». Я і там павінна гэтую-ж лекцыю чытаць». Думаю, няхай і там пасмяюцца. «Можна, кажу, адвезці». Тут лектар убачыла двух валоў, што пасвіліся непадалёку, і пытае: «А што гэтыя каровы асобна пасуцца?» Ну, я і пажартаваў: «Гэта-ж, кажу, коні новай пароды, якую мы вывелі». Яна і папрасіла завезці яе ў «Прагрэс» на гэтых конях. А там, у «Прагрэсе», значыць, ляпнула: «Вунь у «Маяку» новую пароду коней вывелі». Вядома, яе абсмяялі. Можа я і няправы, а толькі такіх лектараў, дарагія таварышы, вы нам і на валах не шліце. Не трэба яны нам».

Вось цяпер і вырашайце, хто правы, а хто вінаваты.

---

М. СКРЫПКА

## „Штурхач“

Каторы год на камбінаце
Жыў-быў, залічаны у штаце,
«Штурхач»
Амелька Грач.
Завязнуць дзе-небудзь тавары,
«Штурхач» туды на тыдняў пару
З камандзіроўкаю імчыцца,
Каб «праштурхнуць», каб «сазваніцца».

Каго два тыдні ён «штурхае», —
Спытайцеся — і сам не знае.
Бо той тавар, бадай, улоўка,
Галоўнае — камандзіроўка.

Для справы ён дае карысці,
Як дрэву леташняе лісце.
Сабе-ж ні мала ні багата
Ён наштурхаў, як ляльку, хату.

# Для адпачынку

## ЧАМУ МЫ ТАК ГАВОРЫМ

**«З ГЛУЗДУ З'ЕХАЦЬ»**

**У некаторых гаворках Беларусі і РСФСР часта можна пачуць такія выразы: «Ці ты з глузду з'ехаў, што кажаш абы-што», «Вы, хлопцы, з глузду з'ехалі». Так звычайна кажуць на чалавека, які штонебудзь сказаў недарэчы.**

**Як узнікла слова «глузд» і што яно першапачаткова азначала?**

**На Поўначы СССР, у Архангельскай вобласці, ёсць слова «глудь», што азначае гладзь, коўзкі шлях, абледзянелае месца. У аланецка-архангельскіх гаворках «глудзить» — значыць слізгаца, коўзацца. Такім чынам, слова «глузд» паходзіць ад дыялектнага «глудь».**

**У далейшым ад слова «глузд» утварылася многа другіх слоў з тым-жа коранем, але з другім значэннем. Так, слова «глузды» пачало азначаць: 1) мозг — «глузды павярнуліся ў яго галаве»; 2) памяць, розум, толк — «Ці табе глузды адняло, што ты не помніш». Шырокаўжывальнымі ў некаторых гаворках Беларусі з'яўляюцца такія словы, як «глуздзіць» («біць па галаве»), «бязглуздзіць» (прыводзіць у непрытомнасць), «бязглуздзіца» (бяссэнсіца).**

**Такім чынам, у пераносным значэнні «з'ехаць з глузду» азначае «з'ехаць з розуму», «страціць розум».**

**«ЗНЯЎШЫ ГАЛАВУ, ПА ВАЛАСАХ НЕ ПЛАЧУЦЬ».**

**Паданне сведчыць, што Пётр I вельмі моцна смуткаваў, калі даведаўся, што здраднік Радзімы Мазепа павесіў Іскру, які раскрыў Пятру I здраду Мазепы.**

**Прыбліжаныя Пятра I угаварвалі імператара не тужыць, таму што позна ўжо. З гэтых часоў і пайшла пагаворка: «Зняўшы галаву, па валасах не плачуць».**

**«ЯЗЫК ДА КІЕВА ДАВЯДЗЕ»**

**Гэтая пагаворка ўзыходзіць па свайму паходжанню да глыбокай старажытнасці. Як вядома, калісьці Кіеў быў буйнейшым палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам старажытнай Русі. Сюды з усіх канцоў рускай дзяржавы сыходзіліся людзі на багаслужэнне ў Кіева-Пячорскую лаўру. Відавочна, што шлях быў далёкім, і людзям прыходзілася пытацца дарогі, дзякуючы чаму і ўзнікла пагаворка: «Язык да Кіева давядзе».**

**А. КАМАРОЎСКІ.**

## БЕЛАРУСКІЯ ПАГАВОРКІ

Прыемнае слова — вясенні дзень.
Пустая гаворка — не пагаворка.
Ласкавы словам не будзеш.
Смех — родны брат сілы.
Разумны бачыць у сваім пакоі значна больш, чым дурань ва ўсім свеце.
Папалася ліса ў пастку ды кажа: хоць і рана яшчэ, ды прыдзецца заначаваць.
Гадзюка адзін раз у год мяняе шкуру, а здраднік кожны дзень.
Карысна доўгая вяроўка, а прамова кароткая.
Хлеб кажа: кінь стрэльбу і вуду — з табою буду.
Што ведаеш, насіць не цяжка.
Адзін раз зманіш — другі не паверацъ.
Смелы і разумны жывуць два жыцці.
З добрым падыходам і кот гарчыцу есць.
У цёмным месцы і гніляк свеціцца.
Пашану і славу збіраюць па кроплі.
Кожная сасна свайму бору песню пяе.
Хто іграе з агнём — даіграецца да попелу.

**Запісаў А. МАХНАЧ.**

## ЯКІЯ ГЭТА РЭКІ?

**Ёсць тры ракі на тэрыторыі нашай Радзімы. Вада першай ракі трапляе ў ваду другой. Другая рака з'яўляецца прытокам трэцяй. А вада з трэцяй ракі зноў трапляе ў першую раку.**

**Якія гэта рэкі?**

## ДЗЕ БОЛЬШ ВАДЫ

**У абодвух гэтых зусім аднолькавых па форме і аб'ёму чайніках, закіпела вада.**

**У якім з чайнікаў у даны момант больш вады?**



## ПЯЦЬ ЧАЦВЁРАК

**Напішыце лічбу 10.000 у выглядзе пяці чацвёрак.**

## ЧАТЫРЫ РОЗНАВАЖКІ

**Якімі чатырма гірамі можна было-б узважваць ад 1 кг да 40 кг?**



## КРАСВОРД „ГЕАГРАФІЯ"

**Склаў В. Басалай**

**Па гарызанталі:** 3. Востраў у Міжземным моры. 6. Горад у Поўночна-Асецінскай АССР. 8. Востраў на поўначы СССР. 9. Горад на Сахаліне. 14. Горад у Афганістане. 15. Абласны цэнтр Украінскай ССР. 19. Горад у Владзімірскай вобласці. 20. Сталіца брытанскага даміньёна. 21. Рака ў Сібіры. 25. Горад у Іванаўскай вобласці. 28. Прыток Дуная. 30. Горад у Чарназёмным Цэнтры. 31. Хрыбет на Мангышлаку. 32. Рака ў Францыі. 33. Рака ў Томскай вобласці. 35. Горад у Чэлябінскай вобласці. 37. Заліў на поўдні Сахаліна. 38. Вяршыня ў Армянскім (усходнім) Таўры. 39. Рака ў Афрыцы. 40. Горад на беразе Охоцкага мора. 42. Горад у вусці ракі Рыён. 44. Востраў на Далёкім Усходзе. 47. Рака ў Алтайскім краі. 48. Абласны цэнтр РСФСР. 49. Горад у Румыніі. 52. Рака на Далёкім Усходзе. 53. Рака на Урале. 54. Паўвостраў на поўначы СССР. 57. Прыток Прыпяці. 58. Рака, якая ўпадае ў Байкал. 61. Прыток Віслы. 62. Горы на Кольскім паўвостраве. 64. Горад у Заходнім Кітаі. 66. Горад на беразе Аральскага мора.

**Па вертыкалі:** 1. Рака на Кольскім паўвостраве. 2. Рака ў Заходняй Сібіры. 4. Гара каля Пяцігорска. 5. Востраў у Міжземным моры. 7. Горад на Алясцы. 8. Возера ў Турцыі. 10. Абласны цэнтр Далёкага Усходу. 11. Горад у Чыцінскай вобласці. 12. Месцанараджэнне поліметалічных руд на Поўночным Каўказе. 13. Абласны цэнтр РСФСР. 16. Горад на рацэ Варонеж. 17. Горад на беразе Чорнага мора. 18. Рака на поўначы СССР. 22. Горад-герой. 23. Сопка (вулкан) на Камчатцы. 24. Горад у Мангольскай Народнай Рэспубліцы. 26. Горад у Татарскай АССР. 27. Упадзіна на паўвостраве Мангышлак. 29. Прыток Дняпра. 34. Рака, якая ўпадае ў Балхаш. 36. Горад у Іванаўскай вобласці. 39. Горад на Кольскім паўвостраве. 41. Горад у Карэі. 43. Абласны цэнтр у БССР. 45. Востраў у сістэме Курыльскіх астравоў. 46. Рака на поўначы СССР. 50. Горад у Эстонскай ССР. 51. Горад у Сірыі. 55. Горад у БССР. 56. Сталіца народнай рэспублікі. 59. Горад у Румыніі. 60. Прыток ракі Об. 63. Рака ў Казахстане. 65. Прыток Дняпра.




Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ





«Молодость».
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон 93-854.

Фармат паперы 70 × 108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч-выд. арк. 7.
Здадзена ў набор 13. II. 56 г. Падпісана да друку 2.III.56 г.

АТ 00965. Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 132.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# Моды



1

### З ПОЛЬСКАГА ЖУРНАЛА МОД 1956 ГОДА.

1. Дэмісезоннае паліто спартыўнай формы. Прышыўны рукаў; перад паліто і рукавы маюць накладную планку. Вялікія кішэні, пад клапанам кішэні ўшыта пятля для зашпільвання кішэні.

2. Шарсцяное плацце-касцюм. Жакетка аднабартовая з шырокімі адваротамі.

3. Шарсцяное плацце. Ліф на кароткай какетцы, з кішэнямі. Каўнер з банцікам. Спадніца прамая ў складку.

4. Шарсцяное плацце. Спадніца з кругавымі вытачкамі, кішэні ў бакавых швах. Ліф з авальнымі клапанамі.

5. Сарафан. Спадніца прамая ў складку. Ліф мае шалевую форму.



2



3



4



5

